18 чэрвеня 2021 | № 23 (731)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

Беларусь спартыўная
Стар. 7–18

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ




Фота Дзіяны Серадзюк

# Свята з прысмакам рэпрэсій

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У гэтым годзе Дзень медыцынскага работніка мы будзем адзначаць 20 чэрвеня. Гэты дзень і раней не быў вельмі радасным і святочным, бо праблем у медыцыне хапала заўсёды, а з кожным годам усё дадавалася. Але гэты год пераўзышоў усе чаканні. На плечы тых, хто ратуе нашыя жыцці, апроч пандэміі каронавіруса зваліўся цяжар палітычнага праследу. Сотні ўжо з'ехалі з краіны, дзясяткі пазбавіліся працы, 8 чалавек дасюль за кратамі.**

Не дзіўна, што да прафесійнага свята медыцынская сфера краіны падышла з вострым кадравым дэфіцытам. У траўні Белстат апублікаваў статыстыку па колькасці практыкуючых лекараў па абласцях краіны. Вынікі 2020-га года для медыцыны — мінус 4133 практыкуючых лекары. Паводле даных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у Беларусі не хапае больш за дзве тысячы лекараў і практычна столькі ж — медыцынскіх сясцёр. У агульнарэспубліканскім банку вакансій шукаюць 2300 лекараў-спецыялістаў, 2400 медыцынскіх сясцёр, 1200 санітараў, 364 фельчараў-лабарантаў, 260 фельчараў.

Адток медыцынскіх кадраў з Беларусі фіксуецца ўжо пяць гадоў запар — з 2016-га. У 2019-м у краіне стала на 400 медработнікаў менш, у 2020 — прыкладна на столькі ж. Але 2021-ы пабіў усе рэкорды: толькі за студзень медработнікаў паменшала на 724 чалавекі.

Ёсць і канкрэтныя прыклады. Як пішуць самі медыкі, лекараў у Мар'інагорскай цэнтральнай раённай бальніцы можна пералічыць па пальцах. Падобна, ЦРБ неабходныя лекары літаральна ўсіх спецыяльнасцяў. Тут шукаюць 13 медыкаў з вышэйшай адукацыяй. З медпрацаўнікамі сярэдняга звяна бяда не меншая: 29 супрацоўнікаў патрэбныя і бальніцы, і падсправаздачным ёй ФАПам. У бальніцах гарадоў раёна, напрыклад, Свіслачы (насельніцтва каля 6,5 тысячы чалавек), Рудзенска (насельніцтва каля 2,8 тысячы чалавек), Пухавічаў (насельніцтва каля 22,5 тысячы чалавек) кадравая сітуацыя набліжаецца да катастрафічнай. У некаторых паліклініках Пухавіцкага раёна многія стаўкі папросту закрываюцца адным-двума ўрачамі агульнай практыкі. На ФАПах няма фельчараў, бывае так, што адзін фельчар — на 2–3 вёскі. У Шацкай (насельніцтва менш за тысячу чалавек) і Праўдзінскай (насельніцтва больш 9900 чалавек) участковых бальніцах — па адным лекары на бальніцу.

Больш за 60 беларускіх медработнікаў пазбавіліся працоўных месцаў пасля таго, як выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю, падтрымаўшы пратэсты супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, асудзіўшы гвалт у дачыненні да пратэстоўцаў, а таксама раскрытыкаваўшы дзеянні ўладаў у сувязі з пандэміяй. Днямі працы пазбавіўся галоўны лекар 3-й гарадской дзіцячай клінічнай бальніцы Мінска Максім Ачарэтні, у знак салідарнасці з ім з лякарні сышоў Рустам Айзатулін. Кардыёлага з 25-гадовым стажам Алену Баранаву звольнілі з Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра «Маці і дзіця» за каментар да допісу калегі ў Facebook.

Без працы пакуль застаецца і Уладзімір Мартаў. З загадчыкам аддзялення рэанімацыі Віцебскай клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі не працягнулі кантракт. 2 красавіка ў яго быў апошні працоўны дзень. Мартаў — адзін з найпершых урачоў, якія расказалі праўду пра каронавірус у Беларусі. Лекар Дзмітрый Харкоў, урач-хірург, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык аддзела перспектыўных кірункаў высокатэхналагічнай медыцынскай дапамогі «Мінскага навукова-практычнага цэнтра хірургіі, трансплантaлогіі і гематалогіі», публічна заявіў пра сваё рашэнне пакінуць сваю пасаду на знак салідарнасці з Мартавым.

Былы анестэзіёлаг-рэаніматолаг 1-й клінічнай бальніцы Мінска Ігар Таболіч таксама адкрыта распавядаў журналістам пра сітуацыю з каронавірусам. Падчас адной з пратэсных акцый у канцы жніўня Таболіча затрымалі. Пасля суда ён вырашыў звольніцца і з'ехаць з Беларусі. З'ехала з Беларусі і кандыдат медыцынскіх навук, былая загадчыца аддзялення РНПЦ дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі Надзея Пятроўская, якую затрымлівалі і саджалі на суткі.

Былы лекар-фтызіятр Гомельскай абласной сухотнай клінічнай бальніцы Міхалай Козіч, які быў звольнены ў лістападзе, прызнаецца, што не хоча з'язджаць з Беларусі. Да гэтага лекар паспеў адбыць два адміністрацыйныя арышты за пратэсты. Пасля 15 сутак адміністрацыйнага арышту лекара звольнілі па артыкуле нібыта «за нядобрасумленнае выкананне абавязкаў». Малады спецыяліст застаўся вінен дзяржаве больш за 12 тысяч беларускіх рублёў: ён вучыўся за кошт бюджэту і не дапрацаваў па размеркаванні 9 месяцаў.

12 красавіка з РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі звольнілі лекара Руслана Бадамшына. За восем месяцаў, якія прайшлі пасля прэзідэнцкіх выбараў, яго затрымлівалі пяць разоў. Пад арыштам Руслан Бадамшын правёў у суме 63 дні.

Былі звольненыя і лекар лабараторнай дыягностыкі 37-й мінскай паліклінікі Ірына Бянькоўская, і стаматолаг, жонка затрыманага па крымінальнай справе лекара Андрэя Любецкага Наталля Любецкая. Гэты спіс можна працягваць яшчэ доўга, і, на жаль, ён усё роўна не будзе поўны.

З утрыманнем і заахвочваннем кадраў у Мінздароўя складваецца не вельмі. Затое ў чым медыцынскія чыноўнікі праяўляюць асаблівую руплівасць, дык гэта ў клопаце пра слушнае ідэалагічнае кіраванне медыцынскімі работнікамі (цікава, яны сур'ёзна лічаць, што можна прымусіць «правільна» думаць дарослых людзей, спецыялістаў шырокіх ведаў і высокай кваліфікацыі?). Паводле інфармацыі тых жа «Белых халатаў», кіраўніцтва 4-й дзіцячай паліклінікі Магілёва ў загадным парадку прымушае супрацоўнікаў падпісвацца на дзяржаўную перыёдыку, аднак сам загад не дэманструюць. І такая сітуацыя — не толькі ў Магілёве.

Ну і апошняе. Цяпер у беларускіх турмах знаходзяцца медыкі, якія адзначаць сваё прафесійнае свята не ў коле калег, а ў цеснай камеры. Вы можаце падтрымаць іх лістамі і віншаваннямі.

Уладзіслаў Марціновіч, студэнт 4 курса БДМУ: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Алана Гебрэмарыям, лекар, выпускніца стамфаку БДМУ, сябар КР: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Андрэй Любецкі, лекар, сківічна-тваравы хірург: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

Аляксандр Цялега, урач-неўролаг: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

Алена Маўшук, санітарка Пінскай бальніцы: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258В.

Алег Краўцоў, фельчар: Турма №1, 230023, г. Гродна, вул Кірава 1.

Юлія Кашаверава, медсястра: ВК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3.

Сяргей Броўка, лекар эндаваскулярны хірург: ЦІП, зав. 1-шы Акрэсціна 36, Мінск, 220089.

Працяг тэмы на стар. 19 »

# «Ад мамы Францішка Папу Францішку»

**Вольга Севярынец — жонка палітвязня Паўла Севярынца, які цяпер у зняволенні. Мужа яна чакае разам з маленькім сынам Францішкам. Днямі Вольга напісала ліст Папу Рымскаму.**

Ваша Святасць, глыбокапаважаны Папа Францішак, — піша Вольга Севярынец. — Я б не адважылася пісаць да Вас, калі б не трагічныя падзеі, якія адбываюцца ў маёй дарагой Беларусі і ў маёй сям'і. Я звяртаюся да Вас, каб распавесці гісторыю маленькага хлопчыка Францішка і яго таты.

Мы жывем у сталіцы Беларусі Мінску. Калі мы з мужам даведаліся, што чакаем дзіця, былі дні 500-годдзя з выдання Бібліі Францішка Скарыны — першай друкаванай Бібліі па-беларуску. І мы вырашылі назваць нашага хлопчыка ў гонар Скарыны і ў Ваш гонар — Францішкам. Цяпер Францішку тры гады, і ўжо год ён расце без таты.

Яго тата, Павел Севярынец, больш за год знаходзіцца ў беларускай турме. Павел — шчыры вернік, хрысціянін, пісьменнік, ён — адзін з тых, хто аднавіў у Беларусі легендарную хрысціянскую партыю 1920–1930 гадоў — «Беларускую хрысціянскую дэмакратыю». Усю сваю дзейнасць, кнігі і сям'ю ён будуе на хрысціянскіх каштоўнасцях. Беларусь, якая верыць у Бога, — яго галоўная мара, і ён ідзе да гэтай мары, не шкадуючы сябе.

За ўвесь час дыктатуры ў Беларусі Павел па незаконных прысудах правёў па турмах, ізалятарах і «хіміях» каля 7,5 года. Летась яго 70 сутак беспадстаўна трымалі ў карцары — маленькім памяшканні без вокнаў, без асабістых рэчаў, у яго забралі нават Біблію, у яго не было коўдры і матраца, каб спаць, ён падкладаў бутэльку з вадой пад галаву, цэлае лета яго не вадзілі на прагулкі і ў душ. Адзінае, што ён мог рабіць у карцары, — хадзіць і маліцца.

На няправедным судзе Павел абраў пазіцыю маўчаць, спаслаўшыся на тое, што і Хрыстос маўчаў, калі яго несправядліва судзілі. Закрыты суд незаконна прысудзіў Паўлу 7 гадоў узмоцненага рэжыму, хоць усе яго дзеянні былі абсалютна мірнымі і не выходзілі за рамкі беларускай Канстытуцыі.

І сёння ў Беларусі сотні такіх людзей і гісторый. У турмах застаюцца таты, шматдзетныя мамы, хворыя людзі, дзеці, адзінае злачынства якіх — гэта жаданне жыць у свабоднай Беларусі. Многія з гэтых людзей адчаяліся, яны прагнуць праўды і справядлівасці. Кожны з іх нясе свой крыж за Беларусь.

Павел кажа, што сёння ў Беларусі ўсё залежыць ад Царквы — узнясе яна голас за праўду ці будзе працягваць жыць у хлусні і страху, заплюшчваючы вочы на пакуты людзей.

Францішак, наш доўгачаканы сынок, расце без таты, і за гэты год ён навучыўся гаварыць, маліцца «Ойча наш», спяваць, яго любімы спеў «Я не баюся, мой Бог са мной». Павел дасылае Францішку з турмы малюнкі, піша лісты, просіць слухацца маму і маліцца Богу.

Нядаўна нам далі першае за год спатканне з татам і мужам, мы пайшлі на яго разам з Францішкам, мы размаўлялі з Паўлам праз шкло, смяяліся, маліліся разам. У канцы Францішак вельмі прасіў, каб тата пайшоў з ім на вуліцу гуляць, але тата не можа гэтага зрабіць, хоць ён ні ў чым не вінаваты…

Просім Вас памятаць і маліцца за нашу сям'ю, за Паўла, за маленькага Францішка, а таксама за ўсіх зняволеных і змучаных беларусаў.

Просім Вас аб малітве за Беларусь. Многія беларусы мараць жыць у краіне, якая будзе грунтавацца на хрысціянскіх каштоўнасцях і на праўдзе, і ўжо вельмі многае зрабілі, каб так адновіць сталася.

Памятайце пра нас у малітве.
Жыве Беларусь! Жыве з Богам!

# Шаноўныя чытачы!

**З 1 ліпеня 2021 года, па незалежных ад нас прычынах, спыняецца наша супрацоўніцтва з РУП «Белпошта».**

**Але гэта не значыць, што вы не зможаце атрымліваць «Новы Час» у свае паштовыя скрыні. Як і шмат гадоў таму, МЫ АРГАНІЗУЕМ УЛАСНУЮ СІСТЭМУ РАСПАЎСЮДУ. ТАМУ ВЫ І ДАЛЕЙ ЗМОЖАЦЕ НАС ЧЫТАЦЬ.**

**ШТО ДЛЯ ГЭТАГА ТРЭБА?**

**Любым зручным для вас спосабам паведаміць нам адрас дастаўкі газеты. Гэта можна зрабіць па рэдакцыйных тэлефонах, па рэдакцыйнай электроннай пошце, праз сацыяльныя сеткі і месенджары ці нават звычайным лістом.**

**АПЛАЦІЦЬ КОШТ ПАДПІСКІ — 5 РУБЛЁЎ ЗА МЕСЯЦ, — ПЕРАЛІЧЫЎШЫ ГРОШЫ НА НАШ РАХУНАК: Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў» № BY48BLBB30120190790926 001001 Дырэкцыя ААА «Белінвестбанк» па Мінску і Мінскай вобл., BLBBBY2X, УНП 190790926.**

**Улічвайце, калі ласка, што банк бярэ камісію 2 руб. Таму больш выгадна аплочваць адразу некалькі месяцаў. Калі такой магчымасці зараз няма, можна аплаціць праз некалькі месяцаў. Газета ў любым выпадку будзе вам адпраўляцца.**

**Мы цяпер працуем над тым, каб зрабіць аплату больш зручнай, але такая магчымасць з'явіцца пазней.**

**Нагадваем, што ўсе чэрвеньскія нумары прыйдуць вам па падпісцы праз «Белпошту». Рэдакцыйная падпіска пачне дзейнічаць з ліпеня.**

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ВАШУ ПАДТРЫМКУ!**

# Санкцыі з усіх бакоў

**Салідарнасць з беларускай грамадзянскай супольнасцю ахапіла самыя розныя сферы жыцця па ўсім свеце. А тым часам улады дзейнічаюць звыклым чынам. Прапануем дайджэст падзей за мінулы тыдзень.**

У Мінску па выніках пасяджэння Сінода Беларускай праваслаўнай царквы было прынята рашэнне аб вызваленні ад пасады архіепіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія. Пасля прэзідэнцкіх выбараў архіепіскап Арцемій стаў адным з нямногіх іерархаў Беларускай праваслаўнай царквы, хто адкрыта выказваўся аб тым, што адбываецца ў Беларусі. На тэрміновым пасяджэнні Сінода РПЦ іерарх быў «адпраўлены на спачын па стане здароўя». Новым епіскапам у Гродне стаў 41-гадовы Антоній (свецкае імя Дзяніс Даронін), які да гэтага быў епіскапам Слуцкім і Салігорскім.

Святлана Ціханоўская ў анлайн-фармаце звярнулася да Сенату ЗША ў Камітэце па замежных справах. Яна распавяла пра самалёт Ryanair, перaслед актывістаў і журналістаў рэжымам Лукашэнкі, эскалацыю рэпрэсій у Беларусі і адказала на пытанні амерыканскіх сенатараў. Ціханоўская заклікала ЗША пашырыць санкцыі супраць саўдзельнікаў Лукашэнкі, якія фінансуюць рэжым; абмяркаваць крызіс у Беларусі падчас важных міжнародных мерапрыемстваў; падтрымаць ЕС у арганізацыі міжнароднай канферэнцыі высокага ўзроўню па ўрэгуляванні крызісу ў Беларусі; распрацаваць пакет дапамогі ЗША, заснаваны на ўсёабдымным плане ЕС для дэмакратычнай Беларусі.

10 чэрвеня суд пастанавіў прызначыць палітвязню Сцяпану Латыпаву стацыянарную судова-псіхіятрычную экспертызу. Неабходна высветліць, ці ёсць у яго захворванне. Калі так, то ці можа ён браць удзел у судовых мерапрыемствах. Падчас мінулага пасяджэння, якое адбылося 1 чэрвеня, Сцяпан распавёў пра катаванні і паспрабаваў перарэзаць сабе горла.

У Мінску чацвёра палітвязняў асуджаныя на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Гэта валанцёры штаба Віктара Бабарыкі Ігар Ярмолаў, Дзмітрый Канапелька, Уладзіслаў Карэцкі і Мікалай Сасеў. Суддзя Святлана Бандарэнка прызнала мужчын вінаватымі ў «падрыхтоўцы да масавых беспарадкаў» і «навучанні ці іншай падрыхтоўцы асоб да ўдзелу ў масавых беспарадках». Суд пачаўся ў красавіку. Актывістаў абвінавацілі ў набыцці… лазерных указак. Іх і іншыя купленыя прадметы мужчыны ў жніўні 2020-га нібыта прывезлі на згаданым аўтамабілі да месца, дзе адбываліся «масавыя беспарадкі». Палітвязні сваёй віны не прызналі.

З улікам рызыкаў для выканання бюджэту неабходна скасаваць шэраг падатковых льгот, заявіў першы намеснік міністра фінансаў Дзмітрый Кійко ў ведамасным часопісе «Фінансы, улік, аўдыт». У 2021 годзе дзяржаўны бюджэт Беларусі выконваецца з дэфіцытам. Па выніках студзеня-красавіка выдаткі перавысілі даходы амаль на 750 мільёнаў рублёў. Першапачаткова бюджэт на 2021 год быў сфарміраваны з дэфіцытам у 4 мільярда рублёў. Пазней дэфіцыт павялічылі да 5,6 мільярда рублёў. Аднак цяпер яго велічыня ацэньваецца Мініфінам у 6 мільярдаў рублёў.

З былым пракурорам Яўгенам Бабаком знікла сувязь — нечакана для чалавека, які сядзіць дома з каронавірусам. Брат, які прыехаў праведаць Яўгена, знайшоў узламаныя дзверы і ўшчэнт разнесеную кватэру, ускрывалі нават плінтусы. Паводле суседзяў, раніцай да Бабака прыехала група захопу ў бронекамізэльках, гэтыя людзі ў тамбуры крычалі «Адмыкай», у двары былі два характэрныя бусікі. Пазней МУС паведаміла, што Бабак затрыманы «у межах адміністрацыйнага працэсу». Яўген Бабак сышоў з пасады памочніка пракурора Першамайскага раёна пасля таго, як у пракуратуры праігнаравалі яго падпісанне аб правядзенні праверкі па факце жорсткага збіцця байкераў людзьмі ў форме супрацоўнікаў ДАІ ў жніўні 2020-га. Пасля гэтага Бабак заявіў, што не можа працаваць ва ўмовах бяздзеяння юстыцыянальных органаў і маўчання ўсіх адказных асоб наконт беззаконня на вуліцах.

Еўрапейскі парламент прыняў рэзалюцыю па Беларусі з заклікам да пашыраных санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі. За яе прагаласавалі 626 дэпутатаў, 16 былі супраць, 36 устрымаліся. Рэзалюцыя з'яўляецца толькі рэкамендацыйнай для кіраўніцтва Еўрасаюза.

Ва Украіне забаранілі вяшчанне дзяржаўнага беларускага канала «Беларусь 24». Такое рашэнне прыняла Нацыянальная рада Украіны па пытаннях тэлебачання і радыёвяшчання.

Трое ўплывовых шведскіх палітыкаў Фрэдрык Мальм, Мая Нільсан і Карын Карлсбра прапанавалі афіцыйна выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяг Беларусі замест цяперашняга чырвона-зялёнага. Адпаведны зварот яны даслалі кіраўніцы МЗС Швецыі Ан Ліндэ. На іх думку, выкарыстанне чырвона-зялёнага сцяга на афіцыйных міжнародных мерапрыемствах надае легітымнасць Лукашэнку.

Адразу некалькі работнікаў Мёрскага металапракатнага завода распавялі, што да іх на прадпрыемства 11 чэрвеня нібыта прыходзілі спецслужбы. Паведамляюць, што арыштавалі генеральнага дырэктара, бухгалтара і яшчэ некалькіх супрацоўнікаў. Таксама завадчане казалі, што да іх на прадпрыемства ў той дзень павінен быў прыехаць Лукашэнка, але візіт не адбыўся.

На Берлінскім кінафестывалі зладзілі акцыяю салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. Месцам акцыі стала пляцоўка, дзе праходзіла публічная прэм'ера фільма «Смеласць» пра беларускія пратэсты. Перад праглядам карціны на заклік рэжысёра Аляксея Палуяна гледачы ўзнялі над сабой партрэты палітвязняў. Гасцямі прэм'еры сталі Святлана Ціханоўская і Святлана Алексіевіч.

«Газпрам» плануе рэзка скараціць транзіт газу праз Беларусь пачынаючы з 4-га квартала 2021 года. Транзіт газу скароціцца амаль на 8 мільярдаў кубоў у квартал, або на 80%. Планаванае зніжэнне транзіту праз Беларусь, мусіць, звязана з хуткім пускам новага газапровада па дне Балтыйскага мора «Паўночны паток–2». ЗША вычарпалі магчымасці далей блакаваць яго будаўніцтва.

Затрыманага 14 траўня Анатоля Лябедзьку павінны былі вызваліць 13 чэрвеня з Акрэсціна. Аднак дзяжурны ЦІП паведаміў ягонай жонцы Святлане, што ў турме яго няма, ён вызвалены. Ля турмы сустрэць палітыка прыйшлі родныя, сябры і калегі па партыі. Пазней стала вядома, што Анатоль Лябедзька дабраўся дахаты на таксоўцы. Яго вывезлі на легкавіку ў Сляпянку тварам уніз.

Лідары G7 заклікалі беларускія ўлады правесці свабодныя і справядлівыя выбары прэзідэнта. Пра гэта гаворыцца ў камюніке, прынятым у нядзелю па выніках трохдзённага саміту лідараў нефармальнага аб'яднання Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Канады, ЗША, Францыі і Японіі ў горадзе Карбіс-Бэй.

Павел Латушка заявіў пра спыненне акцый пратэсту на польска-беларускай мяжы пасля атрыманага ліста ад прадстаўніка ЕС па міжнародных справах Жазепа Барэля. У сваім пасланні Барэль піша, што ў найбліжэйшы час ЕС плануе прыняць санкцыйныя рашэнні ў дачыненні да Беларусі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У разгубленасці і знерваванасці

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Сітуацыя ў Беларусі цікавая тым, што яна — не статычная. Няма правілаў гульні — дакладней, яны зьмяняюцца з кожным днём. Гэта выбівае глебу з-пад ног аналітыкаў і палітолагаў, дый улады таксама. Як жа так: тое, што працавала дзесяцігоддзямі, раптам не працуе цяпер?**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

У мінулым нумары мы пісалі пра тое, што ўлада звыкла паспрабавала пачаць гандаль палітвязнямі. Некаторым з іх было прапанавана напісаць прашэнне аб памілаванні, і вызваленне іх, на думку ўлады, магло б быць «кропкай пачатку дыялогу» з Захадам. Заўсёды раней такая тактыка спрацоўвала.

Прынамсі, на мінулым тыдні Уладзімір Макей, які ўзначальвае айчыннае Міністэрства замежных спраў, раптам сустрэўся з заходнімі дыпламатамі. Прычым, ініцыятыва сыходзіла ад беларускага ведамства. Імаверна, што на гэтай сустрэчы Макей якраз і павінен быў прасунуць такую «нармалізацыю».

Але нешта пайшло не так. У сумеснай заяве па выніках сустрэчы прадстаўнікі дыпмісій ЕС, ЗША, Вялікабрытаніі, Швейцарыі і Японіі паведамілі, што нагадалі пра пазіцыі сваіх урадаў у дачыненні да сітуацыі ў краіне і пра сродкі дасягнення мірнага і ўстойлівага вырашэння палітычнага крызісу і крызісу ў галіне правоў чалавека. Пры гэтым, як адзначаецца ў заяве, «спыталі пра планы беларускіх уладаў у дачыненні да выканання патрабаванняў Канстытуцыі краіны і міжнародных абавязацельстваў, якія тычацца фундаментальных правоў і свабодаў, а таксама вяршэнства права». І, канешне ж, заявілі, што чакаюць выканання «патрабаванняў беларускага народа»: спыненне рэпрэсій і катаванняў, вызваленне і рэабілітацыя несправядліва затрыманых, расследаванне дзеянняў сілавікоў і свабодныя ды справядлівыя выбары.

Гандаль не спрацаваў. Магчыма, менавіта згадка пра Канстытуцыю Беларусі, якую неабходна выконваць (асабліва здзекліва прагучала ў нашых умовах), прывяла да таго, што Макей сарваўся. «Заходнія "гаворачыя галовы" гатовыя дзейнічаць любымі сродкамі», «трыумф без мазгоў», «пігмей-Літва» і шмат чаго яшчэ нагаварыў кіраўнік беларускага МЗС на АНТ у дачыненні да суседзяў.

Гэтая рыторыка выдае значна больш, чым падаецца. Ці паводзіць сябе так моцная ўлада? Пытанне. Але відавочныя дзве рэчы.

Першая: «наш адказ Чэмберлену» — адказ Беларусі на заходнія санкцыі, — як казаў нейкі дыпламат з ведамства таго ж Макея, «пацярпеў чарговую перамогу». То-бок, акрамя як вербальна адказаць на ціск, як цяпер модна казаць, «калектыўнага Захаду», Сінявокая не ў стане.

Не, канешне, улады вырашылі адказаць той жа Літве ў сваім стылі — і зрабілі тое, пра што казалі. Літоўская памежная служба фіксуе «гістарычныя максімумы» патокаў нелегальнай міграцыі праз беларускую мяжу. Намеснік кіраўніка Службы аховы дзяржмяжы Літвы Відас Мачайціс кажа, што беларускія памежнікі перасталі дзяліцца інфармацыяй аб нелегальнай кантрабандзе і міграцыі. То-бок, калі раней Лукашэнка толькі палохаў Еўропу «наплывам мігрантаў праз Беларусь», то сёння гэтыя пужалкі ператвараюцца ў рэальнасць.

Аднак гэта зноў жа — стрэл сабе ў нагу. Прымусовая пасадка самалёта Ryanair у Мінску раз'юшыла Еўропу не таму, што ўлады Беларусі арыштавалі Рамана Пратасевіча. Еўропа ўзрушылася, бо пад пагрозу была пастаўленая бяспека еўрапейскіх грамадзян і бяспека міжнародных пералётаў. Цяпер жа дзеянні беларускіх памежнікаў ціснуць на тую ж балючую кропку — на бяспеку Еўропы ад нелегальнай міграцыі. А як Еўропа ставіцца да пагрозаў сваёй бяспецы — мы бачылі на прыкладзе таго ж рэйсу Ryanair.

**Рэзалюцыя — гэта папярэджанне пра тое, што можа адбыцца. У дакуменце пералічаны шэраг магчымых санкцый, прычым — аж да адключэння краіны ад міжнароднай плацёжнай сістэмы SWIFT**

Я б, шчыра кажучы, не рызыкнуў яшчэ раз выпрабоўваць Еўропу на рэакцыю пагрозам сваёй бяспецы. Аднак беларускія ўлады, падаецца, дзейнічаючы не тое што ірацыянальна, але і не вучацца на ўласных памылках.

Другая рэч — улады відавочна моцна разгубіліся і знерваваліся. Гэтаму стану спрыяла і рэзалюцыя Еўрапарламента, прынятая на мінулым тыдні.

Канешне, гэтая рэзалюцыя не з'яўляецца абавязковай да дзеяння, і яе можна было б лічыць чарговым «выказваннем глыбокай заклапочанасці». Аднак рэзалюцыя — гэта папярэджанне пра тое, што можа адбыцца, калі ўлады не спыняць сваю заганную практыку. У дакуменце пералічаны шэраг магчымых санкцый, прычым — аж да таго, што фінансісты называюць «атамнай бомбай» у гэтым рэчышчы: адключэнне краіны ад міжнароднай плацёжнай сістэмы SWIFT. Рэзалюцыя — гэта тонкі намёк на вельмі «тлустыя» абставіны.

Паніка ўладаў яшчэ не дасягнула максімуму, але яна адчуваецца не толькі ў заявах Макея. Лукашэнка прыняў адстаўку свайго бліжэйшага сябра і паплечніка — Віктара Шэймана. Ну, як прыняў: афіцыйна «адставіў», але папрасіў узяць на сябе «Кубу, Венесуэлу і "хвасты" ў Афрыцы». І панаракаў, што яшчэ давядзецца (з агаворкай «не дай бог») узяць аўтаматы і бараніць краіну.

Зразумела, Лукашэнка не адпусціць ад сябе чалавека, якога некаторыя лічаць датычным да стварэння «эскадронаў смерці» і знікненняў Ганчара, Красоўскага, Захаранкі і Завадскага. Аднак сама адстаўка «шэрага кардынала» можа паслужыць знакам няўпэўненасці ў непахіснасці ўлады. І, больш за тое, паслужыла. Па сацсетках папаўзлі чуткі, што шараговыя і не вельмі сілавікі пачалі прадаваць сваю нерухомасць. Такое адбываецца, калі ёсць пэўныя планы на (зноў моднае слова) рэлакацыю.

Што ж да «гандлю палітвязнямі»... Падаецца, для ўладаў яны ператварыліся ў пратэрмінаваны тавар: прадаць не выпадае, вярнуць — складана, а што з ім рабіць — невядома. Хіба выкінуць... Як стала вядома «Нашай Ніве», у атмасферы строгай сакрэтнасці пачалі складацца спісы асоб, якія могуць трапіць пад акт палітычнай амністыі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Таццяна Каравянкова



**На прэс-канферэнцыі ў МЗС з удзелам Рамана Пратасевіча падзеяй стала не прэс-канферэнцыя, а рэакцыя журналістаў у цэлым і журналісткі БелаПАН у прыватнасці.**

МЗС Беларусі праводзіла анлайн прэс-канферэнцыю з нагоды сітуацыі з Ryanair. Сярод удзельнікаў быў Раман Пратасевіч. Таксама былі заяўленыя тэмы: незаконная міграцыя праз беларуска-літоўскую мяжу, высылка чальцоў Саюза палякаў.

Праз нейкі час пасля пачатку мерапрыемства брыфінг сталі масава пакідаць замежныя дыпламаты. Сышлі як мінімум 10 журналістаў. Карэспандэнт BBC Джон Фішар напісаў у твітары, што не збіраецца ўдзельнічаць у брыфінгу, бо Раман Пратасевіч знаходзіцца там пад прымусам.

Падчас прэс-канферэнцыі ў МЗС Раман Пратасевіч спытаўся ў прысутных журналістаў, ці вераць яны яму.

«Раман, я вам шчыра спачуваю. Вам шчыра спачуваюць многія вашы калегі ў Беларусі. Я магу ўявіць, што з вамі маглі зрабіць. І ніводнаму вашаму слову я не веру. Проста трымайцеся, проста перажывіце гэта», — сказала Пратасевічу журналістка БелаПАН Таццяна Каравянкова.

## Сафія Сапега



**Суд у Мінску не задаволіў скаргу Сафіі Сапега, арыштаванай разам з Раманам Пратасевічам, на затрыманне яе, грамадзянкі Расіі.**

Скаргу разглядаў суд Партызанскага раёна 14 чэрвеня. Пасяджэнне прайшло ў закрытым рэжыме, Сапега ў ім не ўдзельнічала.

Адвакат паведаміў, што супраць Сафіі яшчэ ў траўні распачатая яшчэ адна крымінальная справа. Пра яе ён не расказваў, аднак падрабязнасці былі агучаны на прэс-канферэнцыі МЗС з удзелам Рамана Пратасевіча. Як высветлілася, Сапега была затрыманая па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага 342 артыкулам КК (удзел у масавых беспарадках), таксама яна была прыцягнутая ў якасці абвінавачанай па крымінальнай справе, якая расследуецца па частцы 3 арт. 130 КК (распальванне сацыяльнай варожасці і варожнечы).

Сафія Сапега была затрыманая 23 траўня ў мінскім аэрапорце разам з Раманам Пратасевічам пасля прымусовай пасадкі самалёта авіякампаніі Ryanair. Праз некалькі дзён на апублікаваным відэазапісе Сапега заявіла, што працуе рэдактарам Telegram-канала «Чорная кніга Беларусі», у якім размяшчаюцца асабістыя звесткі супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. У красавіку гэтага года суд Чыгуначнага раёна Гомеля прызнаў гэты канал экстрэмісцкім.

Кіраўнік Савета пры прэзідэнце РФ па развіцці грамадзянскай супольнасці і правах чалавека (СПЧ) Валерый Фадзееў заявіў, што будзе дамагацца экстрадыцыі ў Расію Сафіі Сапега. «Гэта расійская грамадзянка, мы будзем за гэтым сачыць і будзем дамагацца таго, каб было безумоўнае выкананне закона [у расследаванні], а яшчэ лепш, каб яе экстрадавалі ў Расію», — сказаў ён.

## Сяргей Ціханоўскі



**Блогер і патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты прайграў грамадзянскі суд падатковай інспекцыі. Ён павінен заплаціць падатак з 900 тысяч долараў, з трэцяга разу знойдзеных следчымі ў яго за канапай.**

Судовае пасяджэнне праходзіла ў закрытым рэжыме. Прадстаўнікі падатковай інспекцыі спасылаліся на тое, што «сілы, сродкі, метады і спосабы працы падатковай з'яўляюцца таямніцай, якая ахоўваецца законам». Акрамя таго, «у справе ўтрымліваюцца звесткі аб маёмасным становішчы Сяргея Ціханоўскага, якое складае падатковую таямніцу».

Сам блогер заявіў, што гэта былі не яго грошы, ён не ведае пра іх паходжанне, не мог іх выдаткаваць, таму што знаходзіўся і знаходзіцца ў СІЗА.

Суд па «справе Ціханоўскага» пачнецца 24 чэрвеня і пройдзе ў закрытым рэжыме ў гомельскім СІЗА. Разам з Сяргеем Ціханоўскім будуць судзіць Мікалая Статкевіча, Ігара Лосіка, Уладзіміра Цыгановіча, Дзмітрыя Папова і Арцёма Сакава. Усе яны прызнаны палітвязнямі.

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# «Ён быў і застаецца

**Баранавіцкага краязнаўцу і актывіста, інваліда другой групы Уладзіміра Гундара 20 траўня асудзілі на 3 гады калоніі за гвалт ці пагрозу ўжывання гвалту да службовай асобы. Апроч таго, ён фігурант справы Мікалая Аўтуховіча аб «тэрарызме», суда па якой яшчэ не было. Мы з'ездзілі ў Баранавічы і спыталі ў родных зняволенага, хто такі Уладзімір Гундар і што з ім адбываецца за кратамі.**

## Не трапіў у Афганістан, стаяў ля вытокаў БНФ, страціў нагу

Дачка Уладзіміра Гундара Інга з мужам і малодшай дачушкай сустракае нас і вязе да татавай жонкі спадарыні Алены. Менавіта з гэтай маленькай утульнай кватэры, вокны якой выходзяць на палісаднік, уласнаручна высаджаны сужонкамі, паўгода таму іх роднага чалавека пасляператрусу забралі супрацоўнікі КДБ.

Уладзімір Гундар прыйшоў да Беларусі падчас Перабудовы, на хвалі нацыянальнага Адраджэння, стаяў ля вытокаў БНФ.

— Ён часта ўспамінае сваю бабулю, якая, хоць і была неадукаванай, але заўсёды ведала, што ёсць што ў нашай краіне, хто па-сапраўднаму любіць свой край, а хто — прыхадні. Мабыць, гэта было закладзена ў ім з дзяцінства, таму, калі пачалася хваля Адраджэння, яна адразу яго захапіла, — распавядае спадарыня Алена.

Сёлета 15 сакавіка — на Дзень Канстытуцыі — сужонкі адзначылі 18-ю гадавіну шлюбу. Але сваё свята яны сустрэлі паасобку: на той час Уладзімір ужо тры месяцы знаходзіўся за кратамі.

Яны пазнаёміліся ў бібліятэцы, дзе Алена працавала, а Уладзімір ладзіў прэзентацыю кнігі. І Алена, і Уладзімір на той момант былі ў разводзе, абодва мелі дачок. Алену захапіла яго актыўнасць і моц: нягледзячы на інваліднасць — Уладзіміру ампутавалі нагу, — мужчына не ўпаў у роспач, не апусціўся, не пачаў піць, а, наадварот, ладзіў шмат культурніцкіх праектаў у родных Баранавічах.

Калі Алена і Уладзімір яшчэ не ведалі адно аднаго, яны, пэўна, некаторы час былі недзе зусім побач: яна тады вучылася ў інстытуце ў Пярмі, ён у гэты час служыў у войску ў Арэнбургу.

— Калі пачаліся падзеі ў Афганістане, ён пісаў заяву, хацеў туды трапіць, але яго туды, дзякуй Богу, не адправілі: ён служыў у касмічнай сувязі. Дзесьці пісалі, што ён афганец, але ён там не быў — проста яго звязалі з Аўтуховічам, а той — афганец.

Меркаванні пра ўдзел у вайне ў Афганістане магло ўзнікнуць і таму, што некалі Уладзімір Гундар страціў нагу — але насамрэч гэта адбылося праз хваробу, а не ў выніку баявых дзеянняў.

## Займаўся асветніцтвам і заснаваў грэка-каталіцкую парафію

Далучыўшыся да нацыянальнага руху, Уладзімір Гундар адразу пачаў размаўляць па-беларуску і карпатліва вывучаць гісторыю Беларусі. Гэта і перадвызначыла ўсё яго далейшае жыццё: у Баранавічах, дый па-за іх межамі, ён — вядомы краязнаўца, культурны дзеяч, распрацоўшчык макетаў кніг многіх мясцовых літаратараў.

— На хвалі незалежнасці ён з паплечнікамі пачаў асветніцкую дзейнасць. У нашых гарадскіх актывістаў было грамадскае аб'яднанне «Варута» — паводле легенды, гэта гара, дзе Міндоўг заснаваў нашу незалежную дзяржаву ВКЛ. І яны разам займаліся з дзецьмі і моладдзю вывучэннем гісторыі і беларускай мовы.

Калі Уладзімір Гундар захварэў і ў яго аднялі нагу, сябры накіравалі яго на камп'ютарныя курсы — гэта быў 1998 год, персанальныя камп'ютары тады толькі пачыналі з'яўляцца. Пасля навучання Уладзімір Гундар разам з гісторыкам Віктарам Сырыцам і баранавіцкай моладдзю пачалі выдаваць бюлетэнь «Варута», дзе публікавалі гістарычныя артыкулы, а таксама пісалі пра сваю дзейнасць. Яшчэ быў падобны бюлетэнь «Альтанка». А потым Уладзімір сам стаў выдаваць гістарычны альманах «Рыцар Свабоды».

— Але, мусіць, самая галоўная яго справа — ён быў заснавальнікам нашай баранавіцкай грэка-каталіцкай парафіі, яе зарэгістравалі ў 1999 годзе, — зазначае спадарыня Алена.

## Пра падзеі 2020 года казаў: «Гэта не мая вайна»

Жанчына гаворыць, што яе муж у сілу сваёй актыўнасці заўжды быў «падназіраннем». Але за ўсе амаль 27 гадоў рэжыму Лукашэнкі і ўдзелу ў барацьбе з гэтым рэжымам Уладзіміра Гундара ні разу не саджалі нават на суткі — ніхто не наважваўся кінуць у ізалятар чалавека без нагі, таму адміністрацыйныя справы супраць яго звычайна заканчваліся штрафамі. Цікава, што ў леташняй передвыбарчай кампаніі і звязаных з ёй пратэстах, па якіх цяпер даюць турэмныя тэрміны, ён не ўдзельнічаў. Але пад самы сыход 2020-га па яго прыйшлі.

Спадарыня Алена гаворыць: муж чакаў, што рана ці позна гэта можа здарыцца, бо бачыў, якая хваля рэпрэсій пайшла пасля пратэстаў.

— Але ж Валодзя ў іх не ўдзельнічаў, бо ён быў супраць усіх. Тут таксама вельмі яскрава праявіўся яго характар: ён лічыў, што ніводзін з кандыдатаў не падыходзіць для Беларусі, усе яны — не за Беларусь, і на гэтай падставе пасварыўся з многімі сябрамі. Ён сядзеў дома ўвесь год праз сітуацыю з кавідам, бо ў яго аслаблены імунітэт.

— Я памятаю, як мы сабраліся ўсёй сям'ёй і абмяркоўвалі сітуацыю ў краіне, і ён сказаў: «Гэта не мая вайна», — дадае Інга.

Спадарыня Алена працягвае:

— Ён лічыў, што мірным шляхам нічога зрабіць нельга. І на гэтай падставе, я так разумею, яны з Міколам (Аўтуховічам. — НЧ) перапісваліся. Іх погляды супадаюць. Але быццам бы яны нешта задумвалі — я больш чым упэўнена, што гэтага не было. Калі стварaўся БНФ, фарміраваліся атрады самаабароны, якія не нападалі, а абаранялі людзей, што выйшлі на тую ці іншую дэманстрацыю. Гэта, можа, і было ў іх галовах. Але тое, што нібыта былі нейкія змовы са зброяй — не было гэтага. Але паколькі ён з Міколам трымаў сувязь, на гэтай падставе ўсё і здарылася. Асабліва калі на Аўтуховіча зладзілі паляванне, Валодзя зразумеў, што міма яго гэта не пройдзе.

Але, гаворыць жонка вязня, калі яму прапанавалі з'ехаць, ён сказаў: «Гэта мой дом, я нікуды не паеду».

## «Нож схапіў дзеля самаабароны»

Гэта адбылося раніцай 30 снежня. У Алены была начная праца, у 8 раніцы яна вярнулася дахаты, схадзіла ў душ. І тут раздаўся настойлівы званок у дзверы.

— Я адразу зразумела, што яны прыйшлі. Адчыніла дзверы, Валодзя яшчэ спаў. Ніякіх дакументаў не паказалі, толькі паперу на вобшук у сувязі з абвінавачаннем па крымінальным артыкуле (289, ч.2 — акт тэрарызму. — НЧ). Гэта былі мінскія кдбшнікі. Яго паднялі, а Валодзя папрасіўся ў спальню, каб перавязаць нагу: у яго ад пратэзу рана на кульці, і ён кожную раніцу рабіў сабе перавязку.

Пра далейшае развіццё падзей распавяла Інга, якая прысутнічала падчас следчых дзеянняў у кватэры. У спальню з Уладзімірам прайшоў адзін з супрацоўнікаў. Пасля перавязкі гаспадар узяў у рукі свой тэлефон, але супрацоўнік захацеў яго забраць. У выніку Гундар упаў, супрацоўнік разам з ім, адбылася штурханіна, і тэлефон аказаўся разбітым.

— Потым Валодзя прыбег на кухню, супрацоўнік кінуў на стол разбіты тэлефон, звяртаючыся да іх галоўнага: «Вось, глядзі, што ён зрабіў», і пабег у кухню за Валодзем. Я стала паміж імі. Калі б я не стала і калі б Валодзя не схапіў нож, магчыма, гэты супрацоўнік на яго накінуўся і стаў біць. Але нож ён схапіў толькі дзеля самаабароны — я ў гэтым на 100 адсоткаў упэўнена, — гаворыць спадарыня Алена.

Далей усё адбывалася без фізічнай сілы, хіба што на Гундара надзелі кайданкі, але ж потым сцямілі, што з імі і на адной назе ён проста не зможа ісці, таму хутка знялі.






Менавіта той эпізод і стаў падставай, каб распачаць яшчэ адну крымінальную справу за гвалт або пагрозу гвалту ў дачыненні да службовай асобы (арт. 366 КК), па якой Уладзіміра Гундара судзілі закрытым судом і пакаралі трыма гадамі калоніі. Што да артыкула 289, то па ім ніякіх дзеянняў не праводзіцца, вядома толькі, што мужчыну падоўжылі тэрмін утрымання пад вартай да 2 верасня.

## У СІЗА КДБ не давалі таблеткі, перанёс гіпертанічны крыз

Актывіста забралі пасляператрусу. Жонка сабрала яму неабходныя лекі — таблеткі ад ціску, якія трэба прымаць кожны дзень, Біблію на беларускай мове. Але ўсё гэта Уладзіміру Гундару не перадалі.

— Яго забралі перад святамі, і нам удалося даведацца, дзе ён, толькі 5 студзеня, — распавядае Інга. — Што адбывалася да гэтага — мы не ведаем. Толькі потым у лісце тата напісаў, што яму не перадалі яго таблеткі і не давалі свае. І ён перанёс гіпертанічны крыз з ціскам 260, калі ў яго пры 140 ужо баліць галава.

Тады Уладзіміру Гундару выклікалі хуткую і пасля гэтага пачалі даваць нейкія таблеткі, ад якіх яму стала толькі горш.

— Як потым мне сказалі ў КДБ, для іх гэта — надзвычайнае здарэнне, — зазначае Алена.

Толькі 5 студзеня родным патэлефанавала дзяржаўная адвакатка, якая паведаміла, што Уладзімір Гундар знаходзіцца ў Мінску ў СІЗА КДБ. Хаця адразу пасля затрымання Інга рабіла запыт у КДБ, і 4 студзеня ёй даслалі адказ, што яго ў іх няма.

На Дзень Волі, 25 сакавіка, вязня перавялі з КДБ у СІЗА на Валадарскага, дзе ён правёў 10 дзён. Родныя пра гэта не ведалі. Уначы з 3 на 4 красавіка яго на суткі этапавалі ў СІЗА ў родныя Баранавічы, а затым — у Брэст, дзе ён знаходзіцца і цяпер.

— Потым тата казаў, што самае жахлівае стаўленне да яго было ў баранавіцкім СІЗА, ён быў для іх тэрарыстам. Яму там нават не дапамаглі з рэчамі: на адной назе ён сам цягнуў у ад-

# Рыцарам Свабоды»



ной руцэ аграмадныя торбы, у другой — дзве мыліцы (бо пратэз ад самага пачатку не прынялі).

### «Вы спрабуеце зрабіць з мяне тэрарыста, але тэрарысты — вы»

Пазней, калі ад Уладзіміра Гундара сталі прыходзіць лісты, ён пісаў, што ўжо супакоіўся і гатовы да таго, што будзе. Увогуле, з ліставаннем справы не вельмі: лісты Уладзіміру Гундару прыходзяць толькі ад родных — за вельмі рэдкім выняткам. За ўвесь час да яго прабіліся толькі тры паштоўкі ад несваякоў, хаця пішуць многія. За пяць месяцаў Алена атрымала 35 лістоў ад мужа, хаця ён дасылаў 41. Інга таксама не атрымала адзін бацькаў ліст.

У лістах шмат не напішаш, але нейкі настрой мужа Алене ўдаецца ўлоўліваць.

— Ён як быў Рыцар Свабоды, так ім і застаецца. Ён трымаецца, пачаў нават пісаць, як ён гэта называе, «складанкі-нескладанкі». Яго падтрымлівае яго сіла духа і вера ў Бога.

Прысуд у тры гады і сам Уладзімір Гундар, і спадарыня Алена ўспрынялі аднолькава: абы не 5 — менавіта столькі прадугледжваў артыкул, па якім яго судзілі. Пасля суда родным дазволілі спатканне з Уладзімірам Гундарам. Гэта адбылося 28 траўня, акурат на дзень народзінаў вязня.

— Ён усміхаецца, спрабуе жартаваць, але схуднеў, — зазначае Алена. — Я толькі адзначыла для сябе, што ён быў паголены, для мяне гэта нязвыкла, бо ўсе 18 гадоў ён быў з барадой.

У брэсцкім СІЗА Уладзіміра Гундара паставілі на прафілактычны ўлік як схільнага да экстрэмізму. Інга распавядае, за што:

— Адзін з начальнікаў падышоў да таты і спытаў, як ён ставіцца да існуючай улады. Тата гаворыць, што ніяк не ставіцца, бо гэта не ўлада. «А як вы ставіцеся да дзеючага прэзідэнта?» А тата — чалавек рэзкі, ён адказвае, што гэта не прэзідэнт, а самазванец. Потым тату выклікалі на нейкую камісію, дзе ён пацвердзіў свае словы. І дадаў: «Вы спрабуеце зрабіць з мяне тэрарыста, але насамрэч тэрарысты — вы». У гэты ж вечар яму павесілі на ложак шыльду, што ён схільны да экстрэмізму. Цяпер пры кожным абыходзе ён павінен гэта казаць — але ён, канечне ж, гэтага не робіць. Тата нам на спатканні пра гэта не сказаў, толькі пазней мы даведаліся ад адваката: яны ставяць яму рысачкі, ужо далі вымову, і калі будуць яшчэ дзве вымовы — яго могуць адправіць у карцар. А яшчэ яго пасадзілі ў камеру з крымінальнікам, які сядзіць ужо не першы раз, і ў яго быў туберкулёз.

Апроч таго над Уладзімірам Гундарам усё яшчэ «вісіць» «тэрарыстычны» артыкул, які прадугледжвае ад 8 да 20 гадоў зняволення.

— Я жыву думкай, што такога проста не можа быць, — гаворыць Алена. — Гэта ж Оруэл, «1984». Я чытала яго ў студэнцтве, а ў гэтыя месяцы праслухала аўдыёкнігу. Гэта забылася, бо было неактуальна, нейкія законы ў нас раней існавалі. Калісьці я чытала і думала пра савецкі час, 30-я гады. А цяпер гэта ўсё пераходзіць на нас. Я не магу прымірыцца з тым, каб у нас было, як у Оруэла.

### «Трэба змагацца за яго і з гэтай сістэмай»

— Нам цяпер трэба быць вельмі моцнымі — эмацыйна, маральна, фізічна. Яшчэ больш моцнымі, чым мы былі. Бо калі не мы тут — то хто будзе яго падтрымліваць? Сціснуў зубы — і руш наперад, — зазначае Інга.

Для яе бацька — чалавек, з якога хочацца браць прыклад і моц духа якога захапляе.

— Ён вельмі шмат чаго зрабіў сам — самаадукацыя і самаразвіццё, пастаяннае імкненне наперад. Ён вакол сябе сабраў такіх цікавых асобаў: гісторыкаў, мастакоў, пісьменнікаў. Я заўжды ганарылася і ганаруся ім, удзячная яму за выхаванне, хоць характар у яго не з лёгкіх: калі ён нешта вырашыў — так і будзе. Ён паказаў мне Беларусь і яе гісторыю, я вучылася ў беларускамоўным класе, мы ездзілі на рыцарскія турніры — тата стварыў рыцарскі клуб.

Калі Інга вучылася ў 10-м класе, бацька прапанаваў ёй рабіць школьную газету, якая называлася «Школьны перапыначак». Школьнікі пісалі туды матэрыялы, а Уладзімір Гундар займаўся вёрсткай. Так атрымалася, што школьным праектам зацікавіліся шведы і прапанавалі абмен досведам. Спачатку яны прыехалі ў Баранавічы ў сям'ю Інгі, а потым запрасілі школьнікаў да сябе — так дзякуючы бацьку Інга трапіла ў Швецыю.

Цяпер дачка Уладзіміра Гундара гаворыць, што не ўпэўнена ў сваёй бяспецы і бяспецы сваёй сям'і.

— Гэта жахліва, што такія думкі лезуць у галаву, але я не ўпэўнена, што па мяне не прыйдуць. Таму я сказала мужу: як што са мной здарыцца — хапай дзяцей і з'язджай.

— Першыя дні я нічога не рабіла, толькі сядзела і чакала, — узгадвае спадарыня Алена час пасля затрымання мужа. — А потым зразумела, што трэба браць сябе ў рукі і пачынаць нешта рабіць. Часам хочацца легчы і не ўставаць — але нічога, гэта 5–10 хвілін. Ты разумееш, што табе трэба ўстаць, паесці, хоць і не хочацца. Бо калі ты працягнеш ногі, не зможаш нічога зрабіць. Я ніколі ў жыцці не лічыла сябе слабой, даводзілася самой усяго дамагацца, потым злягла мама і была 9 гадоў у мяне на руках. Але цяпер патрэбна ў 10 разоў больш сілаў, бо трэба змагацца не толькі з сабой, трэба змагацца за яго і з гэтай сістэмай.

Спадарыня Алена прызнаецца: ніколі ў жыцці яна не задумвалася пра грошы: колькі іх ні было — а ў бібліятэкара іх было няшмат — заўсёды хапала. Але цяпер даводзіцца змагацца і за іх: каб было на што зрабіць мужу перадачу, каб ён нешта атрымліваў на рахунак. Толькі цяпер жанчыне ўдалося вырашыць пытанне з пенсіяй мужа. Ад затрымання яго рахункі заблакаваныя.

Сям'і зняволенага дапамагае трымацца тое, што яны яму патрэбныя, а таксама тое, што яны ёсць адзін у аднаго. А яшчэ — вялізная хваля салідарнасці ад знаёмых і незнаёмых людзей. Але пакуль Уладзімір Гундар застаецца ў зняволенні, яго сям'і патрэбная дапамога. Калі вы хочаце яе падтрымаць, просім вас звярнуцца ў рэдакцыю па кантакты спадарыні Алены.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

## Ці прызнаюць Уладзіміра Гундара палітвязнем?

**Уладзіміра Гундара не прызналі палітвязнем, хаця родныя вельмі гэтага хацелі б.**

— Я не выключаю, што можа паўтарыцца сітуацыя гандлю палітвязнямі. Гэта адзін са спадзеваў выцягнуць яго адтуль, — тлумачыць Інга.

Рашэнне аб прызнанні палітвязням прымаецца супольна некалькімі праваабарончымі арганізацыямі. Існуе Кіраўніцтва па вызначэнні паняцця «палітычны вязень», прынятае прадстаўнікамі праваабарончай супольнасці шэрагу постсавецкіх краін. Яно заснаванае на міжнародных стандартах абароны правоў чалавека.

Чаму ў адных выпадках людзі прызнаюцца палітвязнямі адразу пасля затрымання, а ў іншых — пасля абвяшчэння рашэння суда і нават пазней? Таму што гэта залежыць ад кожнай канкрэтнай крымінальнай справы. Так, адразу праваабаронцы прызнаюць палітвязнямі тых, хто трапіў за краты ў сувязі са сваімі перакананнямі — палітычнымі, рэлігійнымі, а таксама ў сувязі з негвалтоўным ажыццяўленнем сваіх грамадзянскіх правоў, напрыклад, на свабоду слова, перакананняў, свабоды сумлення, мірных сходаў. Таксама адразу палітзняволенымі прызнаюць людзей, якія аказаліся ў турме праз дзеянні па абароне правоў чалавека.

Сам судовы працэс, яго вынікі таксама могуць стаць падставай для прызнання палітвязнем.

Ці ёсць шанцы на прызнанне палітычным зняволеным Уладзіміра Гундара? «Новаму Часу» тлумачыць намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч:

— Уладзімір Гундар праходзіць па «справе Аўтуховіча», па якой у нас няма цяпер ніякай інфармацыі. Таму пакуль мы не ведаем, у чым канкрэтна абвінавачваюць Гундара. Вядома толькі, што іх усіх абвінавачваюць у тэрарызме, але якія дзеянні Гундара ставяць яму ў віну, якая канкрэтна ягоная роля ў гэтым — нам невядома. Таму пакуль ніякіх высноваў зрабіць немагчыма. Тую ж Вольгу Маёраву прызналі палітзняволенай таму, што было паведамлена, у чым яе абвінавачваюць — у вядзенні тэлеграм-канала Аўтуховіча. І таксама паведамілі, што яна не была ў курсе таго, што ён рабіў, планаваў і г.д. У яе выпадку была інфармацыя з афіцыйных крыніц, якую можна было ацаніць.

Па словах праваабаронцы, артыкулы, у якіх прысутнічае абвінавачанне ў гвалце, выклікаюць пытанні і патрабуюць больш дасканалага вывучэння ўсіх абставін. Выключэнне складаюць выпадкі самаабароны, калі чалавек бараніў сябе і іншых ад непрапарцыйных дзеянняў прадстаўнікоў улады, і такім чынам учыніў гвалт да той асобы, якая ўчыняла гвалт адносна яго.

— Актыўныя перашкоды прадстаўнікоў улады ў рэалізацыі свабоды сходаў нельга разглядаць як дзейнасць па захаванні грамадскага парадку. Таму падчас разгонаў мірных масавых пратэстаў мы ўсю адказнасць усклалі на ўлады — бо тады былі непрапарцыйныя дзеянні міліцыі. І ёсць некалькі справаў, калі палітвязнямі прызналі людзей, якіх абвінавачвалі нават у замаху на забойства сілавікоў (тая ж справа Ціхана Осіпава і інш.) — па такіх справах, апроч калектыўнай заявы, праваабаронцы робяць асобныя заключэнні. Бо ў чалавека прамой задумы на замах не было, ён так дзейнічаў, бо была рэальная пагроза яго жыццю, — тлумачыць Валянцін Стэфановіч.

У такіх выпадках праваабаронцы настойваюць на пераглядзе справаў. У гэтым адрозненне ад выпадкаў, калі людзей зняволіваюць за абарону сваіх правоў і свабодаў — тады праваабаронцы патрабуюць неадкладнага вызвалення.

— Калі чалавек загадзя не рыхтаваўся да гвалтоўных дзеянняў, а дзейнічаў у адказ у выніку правакацыі сілавікоў, мы прызнаем яго палітвязнем, — працягвае Валянцін Стэфановіч. — Але мы не прызнаем мірнымі дзеянні па знішчэнні маёмасці, калі гэта не наносіць сімвалічную шкоду. А гэтыя справы патрабуюць дадатковай інфармацыі. Бо спальванне машын і выбухі (што нібыта інкрымінуюць «групе Аўтуховіча». — НЧ) — гэта не мірныя дзеянні.

Валянцін Стэфановіч падкрэслівае, што самым першым крокам па ўрэгуляванні сітуацыі ў Беларусі павінна стаць вызваленне ўсіх — і гэта прынцыповы момант — палітзняволеных, таму гэты статус мае значэнне, нягледзячы на агульнае беззаконне ў краіне. Найперш, перакананы Стэфановіч, павінна адбыцца шырокая палітычная амністыя — такія прыклады ёсць у суседняй Расіі, дзе палітычная амністыя ўжывалася некалькі разоў нават за больш цяжкія дзеянні.

а | Азбука паліталогіі

# Па чыёй віне ад Лісабона да Уладзівастока па прамой не даляцець



Сяргей НІКАЛЮК

**Чарговая інфармацыя, вартая ўвагі чытачоў НЧ пра «нашу Расію», з нашай жа Расіі і прыйшла.**

Цытую па сайце «Эхо Москвы»: «У красавіку 2019 года ў ходзе паездкі па рэгіёнах быў атручаны пісьменнік Дзмітрый Быкаў, яму цудам удалося пазбегнуць смерці. The Insider і Bellingcat здолелі высветліць, што ў гэтым замаху на забойства ўдзельнічалі тыя ж супрацоўнікі ФСБ з НДІ-2 і Другой службы, якія атруцілі Аляксея Навальнага і Уладзіміра Кара-Мурзу. Замаху таксама папярэднічала доўгае сачэнне (ФСБ лётала ўслед за Быкавым на працягу года) і, як і ў выпадку з Навальным, пасля атручвання рабіліся лжывыя заявы аб «нетранспартабельнасці» пацыента. Гасцініца, дзе, мяркуючы па ўсім, атруцілі Быкава, можа быць звязаная і з атручваннем Навальнага».

Пералічваць падрабязнасці не буду. У два клікі яны даступныя цікаўным. Чаго не скажаш пра змест «чорнага дыпламата», які фігураваў на відэакадрах падчас сустрэчы адзінага палітыка (АП) з расійскім калегам у Сочы.

Па прызнанні ўладальніка дыпламата, яго змесціва складалі «аналітычныя матэрыялы, падрыхтаваныя беларускімі спецслужбамі», а практыка «абменьвацца падобнай інфармацыяй» паўстала даўно.

Такую практыку варта вітаць. Зразумела, што інфармацыя, якая змяшчаецца ў «чорных дыпламатах», не падлягае агучванню. У лепшым выпадку, дазаванымі порцыямі яна ўкідваецца ў публічную прастору для вырашэння канкрэтных задач, сярод якіх пераважаюць задачы па дыскрэдытацыі праціўнікаў улады.

Але закрытасць інфармацыі толькі распальвае цікавасць да яе. У прыватнасці, хацелася б ведаць, наколькі падрабязна расійскія рыцары плашча і кінжала дзеляцца са сваімі беларускімі калегамі вопытам па ўжыванні «Навічка». Мяркуючы па рэгулярных публікацыях The Insider і Bellingcat, вопыт назапашаны каласальны.

## Ад якой спадчыны яны адракліся

Пётр адказваў Яму: «Госпадзе! З табой я гатовы і ў турму, і на смерць ісці». Але Ён сказаў: «Кажу табе, Пётр, не заспявае певень сёння, як ты тройчы зрачэшся, што не ведаеш Мяне». У гэтай гісторыі з Евангелля ёсць шанец не толькі прэтэндаваць на ролю эпіграфа да нашай «Азбукі паліталогіі», яны гарманічна глядзеліся б на першай старонцы акадэмічнага выдання, прысвечанага гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Паспрабуем разабрацца, ад якой спадчыны яны адмовіліся.

«Беларусь — гэта еўрапейская дзяржава». Такім адкрыццём у жніўні 2009 года адзіны палітык (АП) падзяліўся са сваім калегам падчас візіту ў Літву. Спіс жа патрабаванняў, які высоўваецца еўрапейцамі, «ніякай алергіі, ніякага адпрэчвання» не выклікаў. Адзінае, што патрабавалася для яго прыняцця «без шкоды нашай унутранай палітыцы», — «трохі часу».

Далей-больш. У Пасланні–2012 гаворка ўжо ішла пра «інтэграцыю інтэграцый», мэтай якой называлася «стварэнне агульнай эканамічнай прасторы ад Лісабона да Уладзівастока».

На жаль, не склалася, і не па прычыне дзяржавы, размешчанай у геаграфічным цэнтры Еўропы, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці. Нашы партнёры аказаліся «апошнімі гнюсамі». Яны не вытрымалі выпрабаванні «інтэграцыяй інтэграцый». У выніку ад Лісабона да Уладзівастока па прамой без загагуліны не даляцець.

Пад ціскам новых абставінаў, не дачакаўшыся крыку пеўня, штатным прапагандыстам давялося разварочвацца на 180 градусаў. Я нават пачаў за іх непакоіцца, але дарэмна. Тварам у бруд ніхто не ўдарыў, што і пацвярджае цытата, запазычаная з артыкула навуковага супрацоўніка Інстытута філасофіі НАН РБ Аляксея Дзерманта: «Сёння нам, разумеючы нязменную драпежніцкую прыроду заходняй палітыкі, ні ў якім разе нельга дазволіць заспець сябе знянацку, заспакоіць прыгожымі словамі, распаліць супярэчнасці, каб мы не здолелі супольна з саюзнікамі дзейнічаць разам і зладжана ў любой сітуацыі. Гэта не клікушаства, гэта звычайны рэалізм, неабходны для таго, каб ніякай вайны на нашай зямлі больш ніколі не было».

Дзякуй, Аляксей. Галоўнае, каб не было вайны.

## Са жніўня быццам прарвала

Выкарыстанне курсіву пры напісанні асабістага займенніка множнага ліку трэцяй асобы — яны — у падзагалоўку папярэдняй часткі артыкула, відаць, варта патлумачыць. Хай прабачаць мне тыя, каму па штаце належыць сачыць за чысцінёй маіх аўтарскіх намераў, але, калі я выкарыстаў курсіў, дык тым самым паставіў пад сумнеў факт адзінства беларускага народа. Маўляў, ёсць "яны" і "яны". Першыя аддаюць перавагу аб'яднанню з Расіяй, другія — інтэграцыі з Еўропай. Другіх, у адрозненне ад першых, страшылкі Дзерманта не палохаюць.

Але якія суадносіны першых з другімі? Адказ на гэтае пытанне нельга ўзяць са столі або высмактаць з пальца. На жаль, з іншымі крыніцамі сацыялагічных ведаў у Беларусі не вельмі добра. Тыя, хто па штаце за грошы падаткаплацельшчыкаў абавязаны такія веды грамадству прадастаўляць, маўчаць, падобна народу ў фінальнай сцэне пушкінскага «Барыса Гадунова».

Тым не менш, калі паскрэбці па засеках, дык чым-нічым пажывіцца можна. Галоўнае — не патрапіць пад скарэктаваны чарговым разам закон аб СМІ. У нас жа ўсё ў імя чалавека, усё для дабрабыту чалавека...

Звернемся да апытання Беларускай аналітычнай майстэрні, праведзенага ў лістападзе 2020 года. За знаходжанне ў саюзе з Расіяй выказалася 40% (52% у верасні) пры 33% ахвочых аб'ядноўвацца з Еўропай (27% у верасні).

Большасць, такім чынам, застацца за першымі, але пасля восеньскага «прызыву», доля другіх павялічылася да адной трацiны. Чым гэта пагражае грамадству і дзяржаве?

«Нармальная краіна, — растлумачыў у сваім апошнім інтэрв'ю фінансіст Андрэй Моўчан, — не можа будавацца без кампрамісу і дыялогу розных людзей з разнастайнымі перакананнямі». Сярод родных бяроз і асін на афіцыйным узроўні пра дыялог гавораць шмат і ахвотна. Калі звярнуцца да дзяржаўнай прэсы, то складваецца ўражанне, што ўся краіна пакрытая дыялогавымі пляцоўкамі, але нягледзячы на гэта яны працягваюць пладзіцца і памнажацца, нібы трусы.

Статыстыка, узятая з сайта самай салідная газеты краіны, гэта пацвярджае.

Нескладана зразумець прычыну «ўраджайнасці» 2020 года. Для менш здагадлівых дадаткова растлумачу, што за студзень-ліпень пошукавік знайшоў толькі 5 артыкулаў, якія змяшчаюць фразеалагізм, які нас зацікавіў, а пачынаючы са жніўня — быццам штосьці прарвала ў нябеснай канцылярыі...

**КОЛЬКАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ, ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ ФРАЗЕАЛАГІЗМ «ДЫЯЛОГАВАЯ ПЛЯЦОЎКА» Ў ГАЗЕЦЕ «СБ. БЕЛАРУСЬ СЕГОДНЯ»**

| 2016 | 2017 | 2018 | 2019 | 2020 | 2021 |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 7 | 10 | 18 | 223 | 209* |

* З 1 студзеня па 11 чэрвеня

## Чым хутчэй, тым лепш

Але сама па сабе колькасць дыялогавых пляцовак не пераходзіць у якасць дыялогу, зрэшты, як павелічэнне царкоўных прыходаў не спараджае росту колькасці ўцаркоўленых, г. зн. людзей, што не проста прынялі хрышчэнне, але якія рэгулярна ўдзельнічаюць у царкоўным жыцці, якія імкнуцца жыць па-хрысціянску і падтрымліваюць сацыяльных аднасіны ў межах сваёй царкоўнай абшчыны. Такіх інфармацыйна-аналітычны цэнтр у 2017 годзе налічыў 8,5% пры 95% рэспандэнтаў, якія адзначылі сваю прыналежнасць да розных рэлігійных канфесій.

Нармальныя краіны будуюцца на кампрамісах. Дыялог — гэта інструмент, з дапамогай якога пошук кампрамісаў ажыццяўляецца. Словы «дыялог» і «кампраміс» у беларускай Канстытуцыі адсутнічаюць. Але адчайвацца не варта. Артыкул 4 («дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і меркаванняў») гэты прабел з лішкам кампенсуе.

Пасля жніўня 2020 года «залатыя пёры» дзяржаўнай прапаганды навыперадкі кінуліся выяўляць знешніх і ўнутраных ворагаў незалежнасці і суверэнітэту. Справа архіважная, таму з-за абмежаваных магчымасцяў я паспрабую зрабіць свой сціплы ўнёсак у дасягненне канчатковага выніку, імя якому — «нацыянальнае адзінства».

У полк нашых ворагаў можна смела залічаць усіх, хто выступае супраць разнастайнасці ва ўсіх яе праявах (глядзі артыкул 4 Канстытуцыі). Я дзвюма рукамі гатовы галасаваць «за» дзяржаўную ідэалогію, заснаваную на пошуку кансенсусу, без якога сучасная сацыяльная супольнасць немагчымая.

Любая аднадушная падтрымка каго б там ні было ці чаго б там ні было павінна выклікаць насцярожанасць, як і бурныя працяглыя апладысменты, што пераходзяць у авацыі.

Дыялог, як падкрэсліваў у свой час гісторык Аляксандр Ахіезер, — «элемент тоеснасці, адзінства», без якога немагчыма ўзаемнае пранікненне сэнсаў. На жаль, усім нам выпала шчасце быць носьбітамі культуры, у якой пераважае маналагічнае мысленне.

Вертыкальны прынцып падтрымання адзінства — «ты начальнік — я дурань», які дастаўся нам у спадчыну ад савецкага мінулага, сваёй актуальнасці за гады незалежнасці не згубіў. Ад яго неабходна пазбаўляцца — і чым хутчэй, тым лепш.



Беларусь Спартыўная
СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



Фота Reuters

# Свята свабодных людзей

Сяргей КАЙКО

**Публіцыст Ілля Мільштэйн некалі напісаў: «Калі ў чалавечай гісторыі ёсць які-небудзь сэнс, то гэта — рух народаў да свабоды». Прыкладна тое самае можна сказаць і пра спорт: самае карыснае, што ён робіць для чалавецтва, — дорыць адчуванне свабоды, палёту, шчасця.**

Усё гэта мы зараз бачым на футбольных палях Еўропы, па якіх бадзёра крочыць EURO. Знясілены пандэміяй і татальнай ізаляцыяй, знямоглы ад аднастайнасці каронавіруснага існавання, спакутаваны ад абмежаванняў і зачыненых межаў, Стары Свет нанова цешыцца вольнасцю свабоднага жыцця. Так, дзьмухаючы на ваду, з велізарнымі асцярогамі, але больш не трэба сядзець дома на датацыі ці «ўдалёнцы» і дыхаць свежым паветрам толькі на акрэсленай санэпідстанцыяй тэрыторыі ў сваім мікраараёне. І тое радасць, бо свабода лепш, чым несвабода, як казаў адзін расійскі палітык.

Час бяжыць імкліва, і сёння мы выпускаем ужо чацвёрты спартыўны дадатак. Традыцыйна стракаты на тэмы, багаты на жанры і меркаванні. Галоўнае ж сярод актуальных спартыўных мастацтваў вылучаць і не трэба, і так усё зразумела: гэта ён самы, футбольны чэмпіянат Еўропы, якім дыхае не толькі Еўропа, а і ўвесь свет. У глыбіні старонак вы прачытаеце працяглы анонс турніру — з разважаннямі пра бягучы момант і пра асаблівасці фармату, з асцярожнымі прагнозамі і сімпатыямі да асобных каманд. Гэтыя ж радкі — пра нешта больш важнае, што выплюхнулася на нас праз тэлеэкраны ўжо ў першыя дні чэмпіянату.

Перш за ўсё, гэта прыкметы свята для свабодных людзей. Заўсёдныя ў такія дні, але ж надта адчувальныя цяпер, пасля панылых месяцаў у карантыне, калі абнуліліся многія стэрэатыпы і настройкі.

Калі паўабаронца Крысціян Эрыксен са зборнай Даніі паваліўся на траву ад прыпынення сэрца, яму кінуліся дапамагаць і свае, і чужыя, а трыбуны — і потым увесь свет — сцяўліся ад салідарнасці з футбалістам і выбухнуў радасцю, калі ён ачуняў у лякарні. Калі ўкраінцы ў Амстэрдаме адыграліся з 0:2 у матчы з зорнымі нідэрландцамі, захапляльным ходырам захадзілі не толькі трыбуны стадыёна, але — так-так — нават фан-зона ў расійскім Піцеры. Калі 37-гадовы Горан Пандзеў забіў аўстрыйцам, гэта стала падзеяй, нягледзячы нават на тое, што «маленькая» зборная Паўночнай Македоніі ў выніку ўсё роўна прайграла.

Бо свята і свабода для ўсіх — гульцоў, заўзятараў, тэлевізійшчыкаў і тэлегледачоў. Тры гады мы жылі без такой спартыўнай ажыятацыі — тры доўгія гады не адчувалі локця і пляча адно аднаго.

З Беларусі гэтыя мянтальныя абшары бачацца асабліва востра. Эстэтычныя кантрасты б'юць проста ў лоб. І ў той час, калі трыбуны лонданскага «Уэмблі» стракацяць ад усякіх-розных сцягоў і слоганаў, у Мінску на гульні першай лігі сілавікі не дазваляюць заўзятарам падтрымаць зняволенага блогера-футбаліста Аляксандра Івуліна — і некаторых звыкла забіраюць у бусік. І ў той час, калі перад матчамі EURO кожны жадаючы можа падтрымаць (ці адмовіцца) сусветны рух супраць расізму «Black Lives Matter», у беларускім футболе, дзе «спорт па-за палітыкай», клубы змушаюць падпісваць праўладны ліст пад пагрозай скарачэння фінансавання. І ў той час, калі на чэмпіянаце Еўропы журналісты-каментатары сядзяць у працоўных ложах ды прэс-цэнтрах, у Беларусі журналісты — і не толькі спартыўныя — сядзяць на Акрэсціна.

У Мінску, вядома, намагаюцца адпавядаць вялікаму футбольнаму фэсту — нават адкрылі на стадыёне "Дынама" фан-зону з півам і рознымі актыўнасцямі. Але калі меркаваць па сціплых справаздачах медыя, то неяк не падобна, што беларусы масава рынуліся глядзець футбол на свежым паветры. І гэта нягledзячы на вольны ўваход. У асноўным спажываюць EURO дома ці ў гасцях — ды толькі жартуюць у сеціве, што як пойдзеш на «Дынама» заўзець са сцягам Англіі ці Польшчы, то вечар можна лёгка скончыць у бліжэйшым РУУС. І пасля гэтага выпасці з працэса тыдні на два — а то і да самага фіналу ў Лондане.

У гэтым сэнсе лепей адчуваюць сябе беларускія дыяспары. Бо там, дзе для адных свабода заканчваецца, для іншых яна толькі пачынаецца. Варшава, Кракаў, Уроцлаў... Кіеў, Львоў, Чарнігаў... Усюды весела, шматлюдна і можна гаварыць што хочаш, і размахваць чым хочаш, і ніхто табе нічога не скажа пра «незаконнае пікетаванне» і «несанкцыянаванае мерапрыемства».

Заўзець, што праўда, беларусам няма за каго, бо наша зборная зноў на вялікае свята не патрапіла — і невядома калі патрапіць. Зрэшты, тэма ўдзелу беларускіх футбалістаў у будзь-якім форуме нацыянальных каманд занадта даўняя, балючая і «заюзаная», каб яе цяпер развіваць і ціснуць на старыя мазалі. Таму не будзем — і так усё зразумела.

Будзем глядзець на іншых і старацца атрымліваць асалоду. Тым больш, мяркуючы па беларускім фэйсбуку, стаміўшыся чакаць прарыву ад сваіх, айчынныя прыхільнікі футбола ўжо набылі сабе паралельныя сімпатыі на такіх топ-форумах. Адны за украінцаў ці расіян — бо суседзі. Другія — за датчан, харватаў, шведаў, бо і мы маглі б, як яны. Трэція — за магутных французаў, італьянцаў, іспанцаў, бо тыя — майстры і гранды, на якіх прыемна паглядзець.

То будзем назіраць — і спасцігаць гульню народаў, і падзяляць свята свабодных, і атрымліваць недаатрыманае, і верыць у лепшае.

**Працяг тэмы чэмпіянату Еўропы на 12–13 старонках »**

# Вымушаная пасадка:
## як паветранае эмбарга Еўропы паўплывае на беларускі спорт

Аляксей АСАНОВІЧ

**Спачатку мы даведаліся, што Беларусь спартыўная будзе без дзявочага (U19) чэмпіянату Еўропы па футболе. Потым — без хаккейнага чэмпіянату свету. Потым — па чарзе: без чэмпіянату свету па пяцібор'і, каманднага чэмпіянату Еўропы па настольным тэнісе, этапа Кубка свету па біятлоне, велатрэкавага чэмпіянату Еўропы, сусветнага першынства па пауэрліфцінгу.**

Але катаклізмы вакол беларускага спорту працягваюцца. Цяпер мы назіраем, як на яго ўплывае еўрапейская забарона на палёты на Захад і назад.




Фота AFP 2021 / ONLINER.BY

### «Непрадказальная і небяспечная краіна»

Афтэршокі пазапланавай пасадкі рэйса «Ryanair» RYR 1TZ па спорце пайшлі амаль адразу. Праз два дні пасля «выдатнай аперацыі спецслужб» гуляць таварыскі матч у Мінску адмовіліся літоўцы.

«Падзеі ў нядзелю паказалі, што гэта непрадказальная і небяспечная краіна не толькі для грамадзян Беларусі, але і для нашых суайчыннікаў. Асацыяцыя футбалістаў Літвы заклікае Федэрацыю футбола Літвы агучыць дакладную пазіцыю ў сітуацыі, якая склалася, адмяніць гульню і ўпэўніцца, што ў будучыні ўсе матчы будуць праводзіцца толькі ў бяспечных краінах», — так адрэагавалі на «зазямленне» борта ў Асацыяцыі футбалістаў Літвы.

«Улічваючы сёняшнюю сітуацыю, нацыянальная і маладзёжная каманды не будуць прымаць удзел у матчах у Беларусі. Гэта занадта рызыкоўна, мы не хочам рызыкаваць гульцамі і іх блізкімі. Наш план — не ехаць на гэтую гульню», — заявіў генеральны сакратар Федэрацыі футбола Літвы Эдгарас Станкявічус.

Потым з календара беларускай «маладзёжкі» зляцела і сустрэча адбору EURO'23 супраць Кіпра. Гуляць збіраліся 5 чэрвеня 2021 ў Беларусі — цяпер матч запланаваны на 1 чэрвеня 2022 года. «Пасля кансультацыі паміж дзвюма федэрацыямі і УЕФА» — удакладняе афіцыйны рэліз з гэтай нагоды.

Потым далі заднюю і патэнцыяльныя госці Сінявокай са Сьера-Леонэ. Зборная гэтай афрыканскай краіны адмовілася ляцець у Мінск з-за... «У федэрацыі футбола афрыканскай краіны адбыліся выбары, а ў іх выніку — змянілася кіраўніцтва. Яшчэ да таго прадстаўнікі Сьера-Леонэ перасталі выходзіць на сувязь з БФФ і УЕФА», — тлумачыць рэліз беларускай федэрацыі. «Мы павінны былі згуляць таварыскі матч супраць Беларусі. Але ў нас здарылася шмат траўм, і перад важнай гульнёй супраць Беніна давялося правільна паставіць прыярытэты», — удакладняе галоўны трэнер сьералеонцаў Джон Кейстэр...

Календары прарэдзіліся, як градкі на агародзіку ў Ландыш-Анетаве пасля праходу руплівай гаспадыні. І што ты будзеш рабіць? Прычым зразумела, што хоць трохі рэальныя палітычныя ноткі ёсць толькі ў адмове літоўцаў. Бо ім і ляцець не трэба, і яны больш-менш ведаюць, што нічога страшнага на самой справе з імі ў Беларусі не здарыцца. Ну, хутчэй за ўсё...

Астатнія адмаўляюцца аб'ектыўна: як ляцець са С'ера-Леонэ ці нават з Кіпра? Кіпрыёты 31 мая афіцыйна закрылі сваё неба для палётаў з Беларусі і самі ў РБ лятаць кінулі.

Што да С'ера-Леонэ, то ў навіны пра траўмы можна і паверыць. Але для гэтага важна разумець: яны збіраліся ляцець рэйсавым ці чартэрам — і адкуль? Калі рэйсавым і з радзімы — усё зразумела: «Skyscanner» нават не дае варыянтаў пралёту з Фрытаўна да Мінска ў чэрвені. Калі чартэрам — то ці далі б ім шанец праляцець над Еўрасаюзам у Мінск? А тут яшчэ і «матч дваццацігоддзя» з Бенінам неўзабаве... Прасцей адмовіцца, пакуль не позна.

Але адмаўляюцца не толькі дзеючыя прафесіяналы, у якіх сапраўды ёсць справы, важнейшыя за «таварнякі». Матч-святкаванне 110-годдзя беларускага футбола таксама знік з павесткі так жа раптоўна, як і з'явіўся. «Перанесены на неазначаны час», — развяла рукі ў бакі Беларуская федэрацыя футбола. Перад гэтым адмовіліся ад удзелу літовец Эдгарас Янкаўскас і чэх Томаш Расіцкі. Абодва зусім нядаўна вельмі хацелі выйсці на газон «Дынама» — але вырашылі пасля выпадку з «Боінгам» пачакаць...

### «На жаль, умовы не гарантаваны»

І так кожны новы дзень прыносіць неспадзяванку. 8 чэрвеня зноў падкузьмілі хакеістаў: мінскае «Юнацтва» выключылі з ліку ўдзельнікаў Лігі чэмпіёнаў-2021/22. «Адной з абавязковых умоў нашага агульнаеўрапейскага спаборніцтва з'яўляецца бяспечнае перасоўванне і знаходжанне ў краінах каманд, заўзятараў, афіцыйных прадстаўнікоў, партнёраў і дастаўнікаў паслуг. На жаль, у дадзены момант такія ўмовы не гарантаваны ў дачыненні да паездак у Беларусь і з Беларусі», — выказаліся босы турніра. Што не так нечакана: у мінулым сезоне «па палітычных» адмовіўся ляцець у Мінск на гульню КХЛ фінскі «Ёкерыт», а незадоўга да выключэння — шведскі «Лександ» на матч з тым жа «Юнацтвам» у Лізе чэмпіёнаў. Як мінскае «Дынама» у КХЛ будзе ездзіць да рыжскіх аднаклубнікаў і тых жа фінаў — пытанне адкрытае.

Тым часам імкліва набліжаецца ліпень — традыцыйная пара кваліфікацыйных еўракубкавых раундаў. Чатыры беларускія клубы рыхтуюцца стартаваць у дзвюх Лігах — чэмпіёнаў і канферэнцый. Пытанне, як дабрацца да Беларусі, неўзабаве паўстане перад супернікамі беларускіх клубаў — і вось тут некаторыя з іх могуць паспрабаваць выкарыстаць карту «рызыкі і небяспекі», каб спросціць сябе вынікі лёсавання.

Уявіце, калі на нейкім этапе еўракубкаў умоўнаму аўстрыйскаму клубу выпадае доля ляцець у Беларусь: ляцець на чартэры з ЕС ён не можа — еўрапейскія самалёты над Моцнай і Квітнеючай не лятаюць. Выклікаць чартэр з Беларусі ён не можа — «Белавіі» над ЕС лятаць таксама забаронена. З чартэрных варыянтаў застаецца, напрыклад, спроба арандаваць борт ва ўмоўнага «Аэрафлота», які прыляцець з Масквы, завязе аўстрыякаў у Мінск і адтуль, а потым адправіцца назад у Маскву. Лішнія грошы, лішнія складанасці — а вырашаць падчас кваліфікацыі давядзецца даволі хутка, паміж раўндамі бывае і па тыдні, і па шэсць дзён часу. Можна проста не паспець. Камбінаваны варыянт: чартэр да ўмоўнага Вільнюса і адтуль на аўтобусе? Можна паспрабаваць, але ў гэтым выпадку патрэбныя візы: «аэрапортавае» 5-дзённае бязвізавае «акно» сухаземна не адчыняецца. Неабходна яшчэ і жаданне ехаць. А супернік можа пачаць зноў «грукацца ў лічку» УЕФА: «А ці бяспечна туды ўвогуле ехаць, у гэтую Беларусь?»

Калі глядзець на рэйсавыя варыянты, нашмат лягчэй не становіцца. Самае простае — ляцець у Маскву, адтуль — у Мінск. Але колькасць гадзін стыкоўкі, неабходнасць начоўкі, лішнія (і немалыя) траты...

І чым далей ад Беларусі, тым складаней. Як ляцець умоўным паўночнаірландцам ці ісландцам? Партугальцам? Андорцам? У Лізе канферэнцый умоўны супернік БАТЭ пры складаным маршруце можа выйсці ў нядрэнны «мінус».

Санмарынцам выпадзе гуляць з салігорскім «Шахцёрам» — гэта рэальна можа сур'ёзна ляснуць па бюджэце аматараў. У «Трэ Фіорэ» свайго Першага Рудакіравання, якое, калі што здарыцца, падкіне грошыкаў, няма. І найлепшы шанец вырашыць гэтае пытанне — падняць лямант пагучней. А што ў адказ сказаць беларусам пра сваё чыстае мірнае неба?

Таму еўракубкі для беларускіх клубаў — гэта вялікае пытанне. Паглядзім, як яно вырашыцца. Ці можа тут быць выключэнне накшталт хакейнага? Тэарэтычна, так, але, хутчэй за ўсё, УЕФА будзе вырашаць праблемы па меры іх лёсавання.

### «Неспартыўныя паводзіны кампаній Еўрасаюза»

Усё гэта працуе не толькі на ўваход, але і на выхад. Як лятаць беларускім спартсменам? Праз што? «Рэйс па маршруце "Беларусь — Францыя" быў адменены, але мы трымаем руку на пульсе. Імгненна перабраніравалі білеты на Маскву. Але і гэты рэйс быў адменены. На дадзены момант мы зноў перабраніравалі — і цяпер ляцім праз Кіеў. Складанасць у тым, што наш рэйс павінен быць прамым, а калі будзе стыкоўка, мы павінны вытрымаць дзесяцідзённы каранцін. Таму робім усё магчымае, каб даставіць нашых спартсменаў у цэласці... У Кіеў мы трапім на аўтобусе, замовім аўтобус канкрэтна для нашай дэлегацыі. У 9 вечара аўтобус адправіцца, у 4 раніцы мы будзем у "Барыспалі". Фінансавы бок павялічыцца, але мы павінны рабіць усё, каб спартсмены трапілі на гэты турнір», — скардзіцца ў сюжэце АТН старэйшы трэнер беларускай зборнай па боксе Святлана Навумчык.

На аўтобусе паехалі ў Польшчу весляры. На аўтобусе ж вярнуліся пасля рыжскага першынства свету хакеісты. Валейбалісткі на этап «Залатой Еўралігі» ў Прагу дабраліся праз Стамбул: з начоўкай там шлях заняў 20 гадзін замест 2-х...

«Камандзе Уладзіміра Шантаровіча хутка выступаць на чэмпіянаце Еўропы ў Познані. Такія неспартыўныя паводзіны кампаній Еўрасаюза ставіць у няроўныя ўмовы ўдзельнікаў будучых стартаў, што падрывае асноўныя прынцыпы спорту», — выносіць прысуд «Беларусь 1».

Сапраўды: лішнія гадзіны, а калі-небудзь і суткі падарожжа, наўрад ці нададуць спартсменам настрою перад важнымі стартамі. Але такі ў нас зараз казачны лёс.

Футбалістам у тых жа еўракубках будзе таксама цяжка намаляваць прамы маршрут да месца спаборніцтваў. Хіба што ўсё тыя ж хітрыкі: праз Маскву, праз Стамбул і гэтак далей. Варыянты могуць быць рознымі, але выбіраць давядзецца паміж дрэнным і яшчэ горшым. І памятаць, што, напэўна, лепш лішняе налятаць і даплаціць, чым зусім без еўракубкаў, як хакейнае «Юнацтва».

Футбалісты і хакеісты — яшчэ ладна, у іх звычайна ёсць чым плаціць. А вось усе астатнія лятаюць строга рэйсавымі — і ім давядзецца (і ўжо даводзіцца) накручваць кругі. І нават ужо ў алімпійскі Токіа нельга адправіцца рэйсам «Белавія».

Вельмі дорага і балюча адгукаецца беларускаму спорту дэтэктыўная гісторыя з гвалтоўнай пасадкай у Мінску «Боінга» з апальным блогерам на борце.

# Што паказаў чэмпіянат свету ў Рызе

Іван КАРПЕНКА

**Скончыўся ці не самы незвычайны хакейны ЧС за шмат апошніх гадоў. Чаго ў ім толькі ні было: і скандальны перанос часткі турніра праз палітыку, і бязлюддзе на трыбунах праз каронавірус, і сенсацыйныя вынікі асобных матчаў, і выніковае чэмпіёнства каманды, якая пачала чэмпіянат з трох параз запар.**



Фота Reuters

Фух... Самы час, супакоіўшыся, асэнсаваць сусветны форум на грунце яго самых значных з'яў. І зрабіць высновы, не ўсе з якіх заведама навідавоку.

### Захараў праваліўся

Так, пра гэта ўжо шмат сказана, але ж зафіксуем: стаўка беларускага хакейнага камандавання на дзяржаўнага лаяліста Міхаіла Захарава правалілася з велізарным грукатам. Прайграўшы шэсць матчаў з сямі (у тым ліку брытанцам), зборная Беларусі фінішавала на апошнім месцы ў сваёй групе — і на перадапошнім агульным. Горш атрымалася толькі ў італьянцаў, але ж і яны ў сваёй сонечнай краіне хакей не надта культывуюць.

Гэта быў ужо трэці падыход трэнера Захарава да стырна нацыянальнай зборнай, і як тут не ўзгадаць — хай і трохі прыцягнуўшы — вядомы выраз пра тое, што гісторыя звычайна паўтараецца ў выглядзе трагедыі і фарса. Бо нідзе і ані разу гэты кіпучы спецыяліст не ашчасліўў ні каманду, ні яе заўзятараў.

У 2005-м усё скончылася фантасмагарычным фіяска ў алімпійскай кваліфікацыі, якое многія лічаць ці не самым чорным днём у гісторыі беларускага хакея. Тады (дарэчы, зноў-ткі, у Рызе) лёс пуцёўкі на Гульні-2006 вырашаўся ў матчы «Латвія — Беларусь». І нашы хлопцы яшчэ за пяць хвілін да фінальнай сірэны ўпэўнена вялі справу да перамогі — 4:2. Але затым здарылася сапраўдная канфузія: цягам 140 секунд, датэрмінова разняволеныя, беларусы прымудрыліся прапусціць тры шайбы і застацца без Алімпіяды і ля разбітых ночваў.

У 2010-м Захараў нарэшце павёз зборную на Гульні — у канадскі Ванкувер. Туды беларусы патрапілі ўвогуле без адбору, за кошт высокага сусветнага рэйтынгу, які забяспечылі заакіянскія трэнеры Курт Фрэйзер і асабліва Глен Хэнлан. Але ў Канадзе каманду зноў чакаў смутак: прайграўшы тры матчы з чатырох, «захараўцы» засталіся па-за чвэрцьфіналам. Такі вынік галоўны трэнер, у прыватнасці, патлумачыў словамі, якія ўвайшлі ў летапіс як «Паданне аб голых фінскіх хакеістках».



Фота www.hockey.by

І гэта не жарт. «Да вырашальнага матча каманда была вымушана рыхтавацца ў маленькім пакоі, дзе не было туалета і душа, — скардзіўся Захараў па вяртанні ў Мінск. — Гульцы былі абураныя. Ім даводзілася хадзіць у агульную прыбіральню. А побач была распранальня жаночай зборнай Фінляндыі, і гэтыя дзяўчаты бегалі перад хакеістамі голымі».

Ну вось: ад Рыгі да Рыгі транзітам праз Ванкувер — так усё і закальцавалася. З тым самым прадказальным вынікам: Захарава зноў звольнілі. Гэта адбылося падчас выканкама ФХБ 7 чэрвеня, пра што «НЧ» ужо пісаў.

### Вудкрафта прызначылі

Пісалі мы і пра пераемніка Захарава на галоўнай трэнерскай пасадзе беларускага хакея. Ім стаў канадзец Крэйг Вудкрафт, які паралельна працягне кіраваць мінскім «Дынама».

У гэтай звестцы ёсць дзве навіны: добрая і дрэнная. Добрая — што з кандыдатурай вызначыліся так хутка, і, на першы погляд, гэта годны варыянт. Бо мінулы сезон у КХЛ канадцу па мянушцы Вудзі пайшоў у залік — «зубры» няблага глядзеліся, паспяхова пераадолелі «рэгулярку» і патрапілі ў плэй-офф. Дый беларускі хакей ён ведае добра, уздоўж і ўпоперак, а тут яшчэ і цэйтнот: у жніўні ў зборнай чарговая алімпійская кваліфікацыя — няма калі перабіраць імёны-прозвішчы.

Кепскае ж за такім выбарам іншае. Ці дакладней сказаць — выбуханебяспечнае. Прынамсі, у бліжэйшыя месяцы Вудкрафту і яго памочнікам давядзецца рупіцца на два фронты: у клубе і ў зборнай. Як мы ўжо адзначалі, гэта даволі сумнеўная практыка і ў лепшых хакейных дамах свету яе імкнуцца пазбягаць.

Бо глядзіце: у жніўні «Дынама» чакае рашаючы этап падрыхтоўкі да новага сезону ў КХЛ, які стартуе 1 верасня. Перад гэтым — у сярэдзіне трэцяга летняга месяца — «зубры» возьмуць удзел у Кубку Салея, дзе ім патрэбна перамагчы, ужо хаця б з гледзішча іміджу. Алімпійская кваліфікацыя запланавана на 26-29 жніўня — і пройдзе ў Славакіі, дзе супернікамі беларусаў, акрамя гаспадароў, будуць аўстрыйцы і палякі.

Карацей, накладанні па часе бачныя ўжо сёння, і калі гульцоў яшчэ можна падзяліць паміж зборнай і клубам — гэта ўвогуле звычайная справа — то як падзяліць трэнера, які адначасова мусіць быць і там, і там? Выглядае, што частку абавязкаў Вудкрафт вымушана ўскладзе на кагосьці з асістэнтаў — інакш ніяк. І, канешне, гэта падвышае рызыкі і можа вылезці бокам, як і любая імклівая пагоня за двума зайцамі. Дзесьці на адным са шляхоў, ці на абодвух адразу, патрапіць пад абцас бананавая лупіна — і як бы айчынны хакей у чарговы раз не аказаўся ў становішчы «дагары нагамі».

### Фазель ухіліўся ад адказу

Зрэшты вернемся ў Рыгу і адзначым, бадай, галоўнае — тое, якім прароцкі слушным стала рашэнне ІІХФ аб пераносе часткі ЧС з Мінска. Рэнэ Фазель, як мог, блакаваў такі захад: адмыслова ездзіў у Беларусь, абдымаўся з Аляксандрам Лукашэнкам і Дзмітрыем Баскавым, даваў заспакойлівыя інтэрв'ю — маўляў, у краіне ўсё добра, пратэсты сціхлі, можна гуляць хоць у хакей, хоць у даміно. Цікава, што ён зараз думае пра гэты хвалёны беларускі спакой, што ў любы момант можа ўзарвацца міжнародным скандалам?

Бо гэта ж акурат пасярод чэмпіянату ў Мінску саджалі не толькі людзей у турму, але і чужыя пасажырскія самалёты ў суправаджэнні знішчальніка. Давайце ўявім, што гісторыя імя Рамана Пратасевіча і Сафіі Сапега адбылася б на тле хакейных матчаў у «Мінск-Арэне». Як бы далей гулялі хакеісты? Як паводзілі б сябе заўзятары? А галоўнае — як прайшлі б рашаючыя матчы? Бо фінал і двубой за трэцяе месца планаваліся ў беларускай сталіцы. І тым жа канадцам, фінам, амерыканцам, немцам давялося б неяк дабірацца дзеля гэтага з Рыгі ў Мінск — цераз паветраную прастору, якую на той момант Еўрасаюз намёртва закрыў. Яны дакладна паехалі б на аўтобусе за 500 кіламетраў (плюс мяжа і мытня)? Паехалі б туды, дзе адзін палітвязень толькі што загадкава памёр у калоніі, а другі спрабаваў здзейсніць суіцыд проста ў судзе? Ці ўчынілі б дэмарш, як шведскі «Лександ» у Лізе чэмпіёнаў альбо фінскі «Ёкерыт» у КХЛ?

А тут жа яшчэ і дыпламатычныя скандалы паміж краінамі, і БЧБ-сцяг у цэнтры Рыгі, і ўзаемныя адкліканні амбасадараў, і шмат што іншае... І калі Рэнэ Фазель умее быць шчырым хаця б з самім сабой, то ён употай павінен быў прызнаць, што Мінск без чэмпіянату — гэта добра і правільна. Гэта пазбавіла турнір мноства праблем, а што да Рыгі, то яна і адна справілася з арганізацыяй ЧС на цвёрдае «добра» — хай сабе нехта і скардзіўся напачатку на занадта мяккі лёд у Алімпійскім спартыўным цэнтры.

Дарэчы, на прэс-канферэнцыі Фазеля ўсё ж спыталі наконт Мінска і пераносу. Спыталі без эківокаў — так бы мовіць, проста ў лоб. Дык 71-гадовы швейцарац зацягнуў у адказ такую працяглую валынку, што яго адказу ніхто з журналістаў так і не зразумеў. Рэпарцёрам давялося грузіць у стужкі навін загалоўкі накшталт «Прэзідэнт ІІХФ ухіліўся ад пытання аб пераносе чэмпіянату з Беларусі». Ну, ок, спадар Рэнэ — мы ўмеем чытаць між радкоў.

### Канадцы як Фенікс

Ну а што, уласна, да спартыўнага складніку, то і тут сусветны форум не падвёў. Хіба што канцэнтрацыя сенсацыйных вынікаў аказалася настолькі празмернай, што заўзятары ўсё больш вар'яцелі з кожным новым турам. Зразумела: праз наступствы пандэміі, якая скамечыла сезон, лепшыя зборныя прывезлі ў Рыгу саслабелыя склады. Гэта падраўняла ўзровень, і, прынамсі, на групавым этапе літаральна кожны мог адвалтузіць літаральна кожнага. І яны валтузілі: казахі — фінаў і немцаў, датчане — шведаў, брытанцы — беларусаў, беларусы — тых жа шведаў...

Што казаць: канадцы распачалі турнір так, што, як той Шцірліц, аказаліся на мяжы правалу. Тры паразы запар: ад латышоў, амерыканцаў і немцаў. Такога з родапачынальнікамі хакея не здаралася ніколі ў гісторыі, не дзіва, што іх на ЧС заўчасна і «пахавалі».

Але тое было памылкай. Загнаўшы сябе пад плінтус, «Кляновае лісце» затым магутна выпрасталіся — і выдалі серыю з шасці перамог запар. У чвэрцьфінале канадцы пераадолелі расіян — галоўных фаварытаў чэмпіянату. У паўфінале ўзялі рэванш у суседзяў-амерыканцаў, нарэшце, у тытульным баі пераўзышлі з лікам 3:2 хлопцаў з краіны Суомі.

Так і сталі 27-разовымі чэмпіёнамі свету, з чым мы іх і віншуем.

**ВЫНІКОВАЯ ТАБЛІЦА ЧС-2021**

| | |
|---|---|
| 1. | Канада |
| 2. | Фінляндыя |
| 3. | ЗША |
| 4. | Германія |
| 5. | Расія* |
| 6. | Швейцарыя |
| 7. | Чехія |
| 8. | Славакія |
| 9. | Швецыя |
| 10. | Казахстан |
| 11. | Латвія |
| 12. | Данія |
| 13. | Нарвегія |
| 14. | Вялікабрытанія |
| 15. | Беларусь |
| 16. | Італія |

* — Зборная Расіі на ЧС выступала пад назвай АКР (Алімпійскі камітэт Расіі) з прычыны санкцый, накладзеных на расійскі спорт за злоўжыванне допінгам.

# Чэмпіянат Еўропы без лідараў пратэсту

Рыгор ТРАФІМЕНКАЎ

**На тле футбольнага чэмпіянату Еўропы гэты турнір, канешне, выглядае блякла, але яго таксама аніяк нельга прапусціць. Жаночы Еўрабаскет пачаўся ўчора і скончыцца 27 чэрвеня. Інтарэс беларускіх заўзятараў тут прамы: нашы дзяўчаты ў тэме і напярэдадні позна вечарам згулялі з іспанкамі.**


Фота belarus.basketball

Кацярына Сныціна і Алена Леўчанка: па-за зборнай і Еўрабаскету

Які там быў першы блін, абазнаны чытач, вядома, ведае. Але гэта, у любым выпадку, недастаткова для разважанняў. Бо пытанняў насамрэч шмат. Як абыдзецца наша зборная без шматгадовых лідарак Алены Леўчанка і Кацярыны Сныцінай? Ці знойдзецца ў калектыве капітан, які пацягне ўсіх за сабой? Ці здолее трэнерка Наталля Трафімава, карыстаючыся абставінамі, у рэшце рэшт амаладзіць каманду — тобок вырашыць задачу, з якой, на думку федэрацыі, некалі не зладзіў сам Анатоль Буяльскі?

Пытанняў мноства, але напачатку — факты.

## Напярэдадні

Правядзенне старасвецкага форуму сёлета ўлетку — выпадак не выключны. У тым сэнсе, што ніякім чынам каронавірус на тэрміны Еўрабаскета не паўплываў. Турнір сярод жаночых каманд праходзіць праз кожныя два гады. Мінулым разам, у 2019-м, яго прымалі Сербія з Латвіяй. Зараз у якасці краін-гаспадынь — Іспанія і Францыя.

Першапачаткова чэмпіянат павінен быў прайсці ў трох гарадах: Валенсіі, Ліёне і Парыжы. Аднак месяц таму на гарызонце намаляваўся яшчэ і гасцінны Страсбург.

За медалі, як звычайна, будуць змагацца 16 зборных. Гаспадары спаборніцтваў атрымалі такое права па-за конкурсам, яшчэ 14 месцаў аспрэчваліся ў кваліфікацыі.

Зборная Беларусі на этапе адбору трапіла ў групу «F» — разам з дзяўчатамі з Польшчы і Вялікабрытаніі. Нягледзячы на даволі сенсацыйную паразу дома ад заходніх суседак, тры наступныя перамогі дазволілі беларускім баскетбалісткам выйсці ў фінальную частку Еўрабаскета.

Цікава, што першы тур у гэтай адборачнай групе адбыўся яшчэ ў лістападзе 2019-га, а наступныя — ужо ў лютым бягучага. Планаванне календару — не самая моцная якасць Міжнароднай баскетбольнай федэрацыі. Але ж усе былі ў роўных умовах, і вось якая сітуацыя склалася напрыканцы: 1.БЕЛАРУСЬ — 7 балаў (3-1). 2.Вялікабрытанія — 6 (2-2). 3.Польшча — 5 (1-3).


Фота belarus.basketball

## Зараз

Пасля паспяховага дасягнення мэты беларускі папляскалі ў ладкі, павіншавалі адна адну і раз'ехаліся па сваіх клубах — на тры месяцы, каб завяршыць сезон.

У сярэдзіне мая Трафімава абвясціла чарговы збор, куды былі запрошаны дванаццаць баскетбалістак: Марыя Папова, Вольга Зюзькова, Анастасія Верамеенка, Яніна Інкіна, Юлія Рыцікава, Алёна Карасевіч, Вікторыя Гаспер, Юлія Васілевіч, Ксенія Малашка, Наталля Гарбачова, Ганна Брыч, Арына Масько.

Для дасведчаных відавочна: гэты спіс быў перагружаны маладымі імёнамі, з аднаго боку, а з іншага — у ім не хапала некалькіх зорак, якія здабывалі яшчэ культавую бронзу ЧЕ-2007.

Безумоўна, гаворка ідзе пра Леўчанка і Сныціну — самых «пратэсных» беларускіх баскетбалістак усіх часоў. Увіоць Алену ў сённяшняй зборнай увогуле немагчыма ні пры якіх абставінах. У наймацнейшай цэнтравой краіны, першай беларускі ў жаночай НБА і проста вялікага майстра канфлікт з кіраўніцтвам федэрацыі распачаўся даўно — яшчэ задоўга да 9 жніўня. Справа ў тым, што аднойчы, у 2017-м, Леўчанка папрасіла трэнерскі штаб зборнай не распачатку на яе падчас чарговага чэмпіянату Еўропы — маўляў, патрэбны перапынак, каб паправіць здароўе і пазбавіцца турбуючых траўм.

Старшыня БФБ (і паралельна буйны дзяржаўны чыноўнік) Максім Рыжанкоў не палічыў такія тлумачэнні вычарпальнымі, і праз нейкі час Алена страціла стаўку ў Мінспорту. Адпаведна, не вярнулася і ў нацыянальную каманду.

Тым не менш, Леўчанка працягвала пільна сачыць за выступленнямі сяброўак і перажывала за іх. Так, яна разышлася ў поглядах з чыноўнікамі, пазней стала адной з найбольш яскравых асоб беларускага мірнага пратэсту, адсядзела за гэта 15 сутак на Акрэсціна ў жудасных умовах, падхапіла каронавірус, ахвяраваўшы ў выніку здароўем і планам падрыхтоўкі да новага сезону. Аднак, нягледзячы на пакуты і ўвогуле грамадска-палітычную дзейнасць, былых партнёрак Алена не забывала — і заўсёды знаходзіла час, каб у сацсетках павіншаваць тую ці іншую з удалай гульнёй.

Урэшце ўсё ў яе наладзілася. Леўчанка вярнулася на пляцоўку, падпісала кантракт з «Панацінаікосам», у складзе якога стала чэмпіёнкай Грэцыі.

Зараз Алене 38 — няпросты ўзрост для прафесійнага спорту, і, верагодна, сваё за зборную яна ўжо адгуляла.

Кацярына Сныціна з нацыянальнай каманда сышла нядаўна, папярэдне закрыўшы ўсе гештальты. Цяпер ужо экс-капітан цягнула зборную за сабой яшчэ ў лютым. Раней, як і Леўчанка, яна падпісала адкрыты ліст спартсменаў супраць гвалту і за новыя выбары, і напачатку нічога ёй за гэта не было. Не было, па вялікім рахунку, і пазней, хаця за словам ў кішэню баскетбалістка не лезла. Іншая справа, што пры падпісанні новага кантракта са зборнай беларускія чыноўнікі вырашылі абмежаваць гульцоў у свабодзе выказванняў — і уключылі ў дакумент пункт аб абавязковым узгадненні з начальствам любых інтэрв'ю.

Здаецца, гэтая акалічнасць стала для Кацярыны апошняй кропляй — і з «нацыяналкай» яна развіталася. Не стала чакаць нават чэмпіянату Еўропы, куды асабістымі намаганнямі цягнула каманду. На развітанне Сныціна сказала, што «больш не можа прадстаўляць колеры краіны, пакуль пакутуе народ».

Што характэрна: той самы адкрыты ліст пратэсту з ліку баскетбалістак-зборніц падпісалі не толькі Алена Леўчанка і Кацярына Сныціна. Тое ж самае, хай і не так гучна, не пабаяліся зрабіць таксама Тацціяна Ліхтаровіч, Аляксандра Тарасава, Ганна Брыч і Арына Масько. Ніякіх санкцый з боку сістэмы за гэта баскетбалісткам не «прыляцела» (магчыма, таму што гуляць жа камусьці трэба). І па сённяшні Масько, Брыч і Тарасава знаходзяцца ў распараджэнні Трафімавай, дзве сустрэчы на стадыі падрыхтоўкі паспела згуляць і Ліхтаровіч.

Ёсць у жаночай зборнай Беларусі і свой легіянер — не толькі ж хакеістам карыстацца гэтай сумнеўнай прывілеяй. Гэта цемнаскурая амерыканка Алекс Бэнтлі, якая выступае за курскае «Дынама». За Беларусь дзяўчына гуляе з ахвотай, іншая справа, што эфектыўнасць яе дзеянняў на пляцоўцы значна меншая чым у папярэдніцы. Папярэдніцай жа — і першапраходніцай — была іншая ўраджэнка ЗША Ліндсэй Хардзінг, так што практыка натуралізацыі замежніц у БФБ даўно адпрацаваная.

Тым часам таварыскія паядынкі напярэдадні Еўрабаскета радасці беларускам не прынеслі. Наадварот — яны агалілі мноства праблем. Беларуская зборная прайграла пяць разоў — прычым аднойчы расійскім суперніцам, якія ўжо не адносяцца да еўрапейскай эліты, са зневажальным лікам 36:74. Адзінае, чым можна суцешыцца, — гэта перамога над чэшкамі на пачатку месяца. Дый тая, так бы мовіць, на тоненькага — 57:54. Карацей, турбавацца за светлы шлях каманды на ЧЕ заўзятары пачалі загадзя, і небеспадстаўна.

## Будучыня

Пасля заканчэння адбору ва ўсіх групах ФІБА размеркавала 16 зборных па чатырох групах дзеля лёсавання. Беларускі аказаліся ў трэцяй — і ў суперніцы па групавым раўндзе Еўрабаскета ім дасталіся іспанкі, шведкі і славачкі.

Група «А»: Іспанія, Швецыя, БЕЛАРУСЬ, Славакія.

Група «В»: Сербія, Італія, Чарнагорыя, Грэцыя.

Група «С»: Бельгія, Славенія, Турцыя, Боснія і Герцагавіна.

Група «D»: Францыя, Расія, Чэхія, Харватыя.

А вось як выглядае каляндар для нашых суайчынніц:

17.06. БЕЛАРУСЬ — Іспанія. 22.00

18.06. Славакія — БЕЛАРУСЬ. 19.00

20.06. Швецыя — БЕЛАРУСЬ. 16.00

21.06 1/8 фіналу

23.06. Чвэрцьфіналы

25.06. Паўфіналы

27.06 Фінал

Першая гульня беларускай каманды, нагадаем, ужо адбылася і скончылася пасля падпісання гэтага нумара ў друк. Разлічваць на перамогу над Іспаніяй было наіўна, таму не бяда, калі нашы дзяўчаты саступілі. Так ці інакш, галоўныя выпрабаванні для зборнай наперадзе — сустрэчы са славачкамі ды шведкамі.

Самы час нагадаць рэгламент. Згодна з ім, лепшыя каманды квартэтаў адразу трапляюць у чвэрцьфінал. А вось іх працаўнікі там высвятляюцца наступным чынам: зборныя, якія занялі ў групах другое і трэцяе месцы, гуляюць паміж сабой у так званых сустрэчах 1/8 фіналу. Верагодна, гэта і ёсць шчыліна для беларускіх баскетбалістак.

Шчыліна, трэба адзначыць, не толькі ў далейшай барацьбе на ЧЕ, але і за правы выступіць на бліжэйшым першынстве свету ў верасні 2022-га. Аднак ці патрапіць у яе зборная Беларусі — каманда, якая засталася без лідараў і ў апошнія гады памалу здае былыя пазіцыі? Тут не ўгадаеш, бо надта непрадказальная гэта справа — жаночы баскетбол.

# Беларускі футбол аднойчы ўжо быў на мяжы міжнароднай ізаляцыі

Антон МАКАЎЧУК

**Над беларускім спортам згушчаюцца хмары. На хвалі палітычнага крызісу вагаецца легітымнасць многіх інстытутаў. Кіраўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта не прызнанае МАК, старшыня хакейнай федэрацыі не можа выехаць у Еўропу, у Беларусі пазабіралі міжнародныя турніры і новых наўрад ці дадуць.**

Футбол яшчэ неяк трымаецца, хаця асобныя матчы ўжо ідуць пад нож. Напярэдзе еўракубкі, і невядома, ці адбудуцца яны ўвогуле праз нашы перакрытыя паветраныя прасторы. Калі не, то футбольная Беларусь фактычна акажацца ў міжнароднай ізаляцыі, стане чорнай дзіркай на карце Еўропы...

Між тым, такое ўжо было. Напрыканцы 1990-х айчынны футбол таксама хадзіў па лязе. Самы час прыгадаць тую гісторыю.

## Шунтаў і праблемы

У гульні нумар адзін усё сур'ёзна. Міжнародныя федэрацыі прапаведуюць прынцып неўмяшання дзяржавы ў футбольныя справы. Парушэнне гэтага прынцыпу можа прывесці да выключэння мясцовай федэрацыі з ліку членаў ФІФА і УЕФА — з усімі вынікаючымі наступствамі: ад забароны на ўдзел зборных і клубаў у міжнародных турнірах да замарозкі фінансавання. У 1998 годзе гэта ледзь не здарылася з Беларускай федэрацыяй футбола.

Гэтая гісторыя каранямі сыходзіць у першыя суверэнныя гады. Яшчэ ў 1989-м федэрацыя футбола БССР была ператворана ў Беларускую федэрацыю футбола, якая праз тры гады атрымала афіцыйны статут, членства ва УЕФА і ФІФА, а нацыянальная зборная і клубы абзавяліся правам выступаць на міжнародных турнірах.

Федэрацыю ўзначаліў, выйграўшы дэмакратычныя канкурэнтныя выбары, вядомы функцыянер Яўген Шунтаў, які прапрацаваў у беларускім футболе практычна ўсё жыццё.

Станаўленне незалежнага футбола, як і незалежнай краіны, праходзіла хваравіта. Не хапала грошай, інфраструктуры, кульгалі арганізацыйныя пытанні... Як следства — не лепшыя былі і рэзультаты на міжнароднай арэне.

Мінскае «Дынама» на савецкім багажы некаторы час яшчэ трымалася, выйграючы чэмпіянат за чэмпіянатам, але потым пачаліся праблемы і ў яго. У першую чаргу, вядома, праблемы фінансавыя. Пасля паспешлівай эміграцыі гаспадара клуба бізнесмена Яўгена Хвастовіча «Дынама» паспрабавалі нацыяналізаваць «імем рэвалюцыі», але гэта толькі пагоршыла сітуацыю і прывяло галоўны футбольны брэнд краіны да зусім ужо татальнага безграшоўя.

Так і сышлося ўсё. Клуб-флагман, які тоне тэмпамі «Тытаніка». Правалы зборнай у адборачных турнірах. Няважны стан футбольнай гаспадаркі ў цэлым.

Не хапала толькі каталізатара, аднак і яго чакалі нядоўга. Майскі фінал Кубка-1998 выбухнуў магутным судзейскім скандалам. Мінскае «Дынама» вяло ў ліку да апошняй хвіліны і рыхтавалася ўзяць чарговы трафей, але арбітр Сяргей Шмолік раптам прызначыў пенальці пасля відавочнай сімуляцыі гульца «Лакаматыва-96». Віцябляне зраўнялі лік, а ў дадатковы час вырвалі перамогу. Ведаць не ведаючы, як усё гэта здэтаніруе ў вышэйшых, як кажуць, эшалонах улады.

## Лукашэнка і жывы эфір

27 мая Аляксандр Лукашэнка праводзіў нараду, падчас якой абрынуўся з моцнай крытыкай на ўрад, кіраўніцтва БФФ і ўладальніка «Дынама». Галоўнае пытанне сустрэчы датычылася якраз сітуацыі ў сталічным клубе. «Мне часам агідна глядзець тэлебачанне і чытаць газеты, як асобныя дзялкі ад футбола пачынаюць распавядаць казкі, якія яны вялікія, у той жа час дазваляючы сабе па паўгода не плаціць зарплату футбалістам», — распаляўся Лукашэнка. Ён быў традыцыйна рэзкі і пагражаў разагнаць-звольніць ледзьве не ўсіх датычных — віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна, міністра спорту Мікалая Ананьева, яго намесніка Сяргея Цяцерына... Нават мэр Мінска Уладзімір Ярмошын і губернатар Міншчыны Пётр Пётух патрапілі пад гарачую руку і былі звінавачаны ў тым, што не дапамагаюць футбольным клубам.

І самае важнае — абвёўшы позіркам залу, у нейкі момант Лукашэнка дабраўся і да прэзідэнта БФФ Шунтава. Якому таксама сказаў з усёй сялянскай шчырасцю: «Вы чым, спадар Шунтаў, займаецеся? Вы што, думаеце, я за вас працаваць буду? Пакуль ідзе нарада, вы самі напішыце заяву. Не ўмееце працаваць — ідзіце на пенсію».

Гэты быў час жывых эфіраў, і выступ маладога гаранта Канстытуцыі транслявалі ўсе вядучыя тэлеканалы СНД. Зразумела, што спроба звольніць дэмакратычна выбранага кіраўніка федэрацыі не засталася незаўважанай у УЕФА.

Шчоўкаць абцасамі новая беларуская наменклатура тады ўжо навучылася, і Шунтаў, каб не будзіць ліха, заяву на звальненне апаратыўна напісаў. Бюро выканкама БФФ яе прыняло, бо таксама «ўсё разумела». Быў нават прызначаны «в. а.» главы федэрацыі — ім стаў вядомы арбітр Вадзім



Фота «Прэсбол»

Яўген Шунтаў і Рыгор Фёдараў: паміж двух агнёў



Фота «Прэсбол»

Вадзім Жук: ад суддзі да «выконваючага абавязкі»

Жук. Не зразумелі такія зігзагі толькі ў Швейцарыі. Бо як гэта? Прэзідэнт краіны наўпрост кажа кіраўніку федэрацыі (фактычна, грамадская аб'яднання) сысці ў адстаўку — і той сыходзіць? Умяшання дзяржавы відавочней прыдумаць няпроста.

Рэакцыя афіцыйнага Ньёна была хуткай. Тагачасны генеральны сакратар УЕФА Герхард Айгнер накіраваў факс міністру спорту Беларусі, у якім настойліва прасіў растлумачыць, ці не ашукваюць яго вочы. Ці сапраўды кіраўнік дзяржавы дэ-факта зняў старшыню федэрацыі. Бо калі так, то УЕФА давядзецца адхіліць БФФ — з усімі вынікаючымі: пазбаўленнем права голасу, забаронай на ўдзел у турнірах для зборнай і клубаў. Айгнер ветліва прасіў міністра растлумачыць сітуацыю. Але адказу не паследавала. Ні на наступны дзень, ні праз тыдзень.

І прыйшоў час ультыматума. 20 чэрвеня ў Мінспорта прыйшла яшчэ адна папера, ужо за подпісам намесніка генеральнага сакратара УЕФА. Маркус Штудэр даў ведамству Ананьева пяць дзён на адказ. Калі міністр не паспее, то гатуйцеся, беларусы: УЕФА ініцыюе адхіленне БФФ.

Тут ужо Мінспорта гуляць з агнём не стала і на факс усё-ткі адказала. Адказ быў эпічным: маўляў, вы ўсё няправільна зразумелі. Нарада ў прэзідэнта была склікана па просьбе футбалістаў «Дынама», а словы Аляксандра Лукашэнкі насілі выключна рэкамендацыйны характар. Дый паглядзіце: Яўген Шунтаў нікуды не дзеўся — працягвае працаваць, дай бог яму здароўя. І ў справы федэрацыі ніхто не ўмешваецца. І сапраўды, выканкам БФФ неўзабаве сабраўся і дэманстрацыйна не зацвердзіў адстаўку прэзідэнта федэрацыі.

Такі фінт выратаваў беларускі футбол ад імгненнай ізаляцыі, але гісторыя і не думала заканчвацца. Бо сістэма ўсведамляла: трэба зрабіць так, як хоча Лукашэнка.

## УЕФА і зборышча

На пачатку ліпеня Шунтаў у другі раз абвясціў, што сыходзіць у адстаўку. У інтэрв'ю «Прэсболу» ён распавёў пра асабістыя матывы — што больш не жадае знаходзіцца ў пастаянным стрэсе, быць громаадводам, «чырвонай анучай» для дзяржаўнай улады. Маўляў, гады не тыя, перажыванні пераносяцца ўсё цяжэй, ды і на карысць футболу ўсе гэтыя справы сапраўды не ідуць.

У хуткім часе Яўген Феліксавіч папрасіў выканкам прыняць яго заяву на звальненне, але... выканаўчы орган федэрацыі зноў не стаў браць на сябе адказнасць. Натуральна, з аглядкай на УЕФА, адкуль зноў прыйшлі недвухсэнсоўныя сігналы. Ньён сачыў за працэсамі і даваў зразумець: адстаўка Шунтава выкліча санкцыі. Сітуацыя здавалася патавай.

Напрыканцы ліпеня Беларусь наведаў прадстаўнік кіраўніцтва УЕФА Эрык Эпле, які яшчэ раз пацвердзіў: датэрміновы сыход кіраўніка федэрацыі будзе ўспрымацца як ціск і БФФ неадкладна будзе адхілена. Адпаведна, любы выканкам, які прыме заяву Шунтава, будзе прызнаны нелегітымным. Затым швейцарац сустрэўся з віцэ-прэм'ерам Замяталіным, і гутарка быццам бы выйшла прадуктыўнай. Але раптам разарвалася яшчэ адна інфармацыйная бомба.

18 членаў выканкама БФФ сабраліся ў прысутнасці віцэ-прэм'ера і міністра спорту ды ініцыявалі правядзенне напрыканцы лета пазачарговай выбарчай канферэнцыі федэрацыі. Ну, а што, разважалі функцыянеры, гэта вышэйшы орган, які ўпаўнаважаны вырашаць любыя пытанні, у тым ліку кадравыя. Эпле быў у шоку. Ён назваў выканкам зборышчам, заявіў, што УЕФА неадкладна замарожвае фінансаванне БФФ, а рашэнне пра адхіленне беларускай федэрацыі будзе прымаць адмысловы камітэт па надзвычайных сітуацыях.

Цікава, што паралельна падобныя драматычныя падзеі развіваліся ў суседняй Польшчы. Там урад наўпрост абвясціў па-за законам кіраўніцтва федэрацыі, якое адмовілася дапушчаць да дакументаў падатковыя органы. Аднак пасля ўльтыматума ад ФІФА і УЕФА і пагрозы байкоту матчаў чэмпіянату з боку клубаў палітычныя ўлады «ўключылі заднюю».

У Беларусі ж так рабіць не прынята, таму футбольную вертыкаль працяў страх будучыні. Пад пагрозай аказаўся матч зборнай з датчанамі, бліжэйшыя еўракубкавыя сустрэчы. І наогул жыццё самога беларускага футбола.

І тут сітуацыя раптам стала вырашацца. Стаміўшыся жыць паміж двух агнёў, Шунтаў сабраўся і паехаў у Швейцарыю, дзе дабіўся аўдыенцыі ў кіраўніцтва УЕФА. Уключыўшы ўсё сваё красамоўства, Яўген Феліксавіч запэўніў Ньён, што падае ў адстаўку выключна па ўласнай волі і па асабістым жаданні. А тут яшчэ і віцэ-прэм'ер Замяталін у лісце прыязна запрасіў еўрапейцаў наведаць канферэнцыю 31 жніўня, а віцэ-прэзідэнт федэрацыі Вадзім Жук узяў на сябе поўную адказнасць за забеспячэнне празрыстасці і незалежнасці правядзення форума.

І Швейцарыя нарэшце пайшла насустрач. У ФІФА сказалі, што можна абысціся без санкцый, а рыторыка УЕФА, якому расхацелася ісці на крайнія меры, змякчэла.

Канферэнцыя прайшла як па масле і нарэшце абрала новага старшыню. На месца Шунтава прыйшоў Рыгор Фёдараў — міністр авіяцыі. БФФ пазбегла ізаляцыі, але пачалася новая эра — эра дзяржаўных службоўцаў на чале беларускага футбола.

# Надзвычайны чэмпіянат Еўропы:

Георгій ЗАГОНСКІ,
Сяргей КАЙКО

**Звычайна футбольныя топ-турніры зборных праходзяць у цотныя гады, аднак праз пандэмію каронавіруса свет устаў на дыбкі. Усё перамяшалася: коні, людзі, палітыка, культура, спорт… Усё перайшло ў анлайн, дзе кавід не распаўсюджваецца і не патрэбныя маскі, вакцыны і ПЦР-тэсты… Усё набыло прыкметы надзвычайнай сітуацыі — карантыны, лакдаўны, закрытыя межы, абарваныя камунікацыі…**



Стадыён «Уэмблі» ў Лондане. Тут пройдзе фінал

Але чалавецтва стамілася жыць у пастаянным саспенсе і бясконцай ізаляцыі. Спачатку яно звыкла запатрабавала хлеба — і быў яму хлеб, а потым і відовішч — і відовішчы таксама не прымусілі сябе чакаць. Балазе, першую хвалю сусветнага захворвання прагрэсіўная цывізацыя адолела, а другая, трэцяя і якая там яшчэ — яны не такія крыважэрныя.

І вось дайшла справа да футбольнага EURO — чэмпіяната Еўропы, які ў нейкі момант меркавалі ўвогуле адмяніць, але потым перадумалі. Першынства Старога Свету перанеслі на год наперад і, здаецца, не памыліліся. Эпідэміялагічная абстаноўка на густанаселеным кантыненце дазваляе асцярожна пагуляцца — і нават пакрыху пусціць на трыбуны гледачоў. Нацыянальныя чэмпіянаты паціху дагулялі, і ніхто не памёр. Дагулялі і еўракубкі — паветра нармальнае, дыхаць можна. Ну, то здароў, ЧЕ — цябе якраз і не хапала.

Уласна, мы павіталі чэмпіянат яшчэ тыдзень таму — калі ён распачаўся ў Рыме матчам італьянцаў і туркаў. Але ж наперадзе яшчэ доўгія і захапляльныя 24 дні, і ўсе шляхі вядуць у Лондан, дзе 11 ліпеня адбудзецца фінальны матч. Той самы, за якім будзе назіраць увесь свет — не толькі Еўропа.

І пакуль да «дэдлайна» далёка, «НЧ» прапануе невялікі і ненавязлівы даведнік па турніры, які з'яўляецца ўнікальным ужо па факце свайго правядзення.

## 11 краін, 11 гарадоў

Гістарычная непаўторнасць гэтага EURO закладзеная ўжо ў самім фармаце. Яшчэ калі не было аніякай пандэміі, а ў кітайскім Ухані людзі спакойна хадзілі на той славуты рыбны рынак, крыэйтары УЕФА прыдумалі навацыю — правесці чэмпіянат Еўропы не ў якой-небудзь адной краіне, не ў дзвюх краінах-суседках, а… І тут палёт думкі рэфарматараў сягнуў за нябёсы, і яны матэрыялізавалі ідэю ЧЕ, раскіданага па ўсім кантыненце, як гарох па падлозе.

Сказалі — зрабілі: такім чынам, матчы чэмпіянату ўбачаць гледачы адзінаццаці краін і адзінаццаці гарадоў. Гэта Англія (Лондан), Італія (Рым), Германія (Мюнхен), Іспанія (Севілья), Расія (Санкт-Пецярбург), Нідэрланды (Амстэрдам), Венгрыя (Будапешт), Шатландыя (Глазга), Румынія (Бухарэст), Данія (Капенгаген), Азербайджан (Баку).

З гэтай нагоды, вядома, кансерватыўныя заўзятары і артадаксальныя аглядальнікі каторы месяц ужо моршчаць ілбы і сыходзяць атрутай. Маўляў, размазваць такую падзею танюткім слоем па ўсёй геаграфічнай мапе Еўропы — то так аніякага смаку не адчуеш. Вось «раньш было» — з'язджаліся ўсе лепшыя ў адзін кластар, якую-небудзь Італію ці Францыю, паветра густа насычалася канцэнтраваным духам футбола, гатэлі і вуліцы запаўняліся фанатамі, панавала атмасфера карнавалу і гэта было святам, якое заўсёды з табой. А цяпер… Ну што за свята ў тых жа Баку ці Будапешце, якія прымуць па чатыры матчы, ды яшчэ з вялікі інтэрваламі? Адчуць пульсацыі форуму будзе цяжка — і тым больш усвядоміць сябе часткай вялікага цэлага.

Зрэшты, досыць бухцець. Бо, магчыма, арганізатары як у ваду глядзелі і ЧЕ таму і вырашылі правесці, што ў эпідэміялагічным сэнсе такая пашыраная геаграфія — тое, што трэба. А калі б здарыўся вавілон на абмежаваным кавалачку зямлі, то так нядоўга было б узнавіць распаўсюд каронавіруса ў ранейшых жудасных масштабах.

Дый потым: пераважная большасць гледачоў усё ж убачыць EURO на экране тэлевізара, а тут ужо якая розніца? Стадыёны ўсе прыгожыя (у Беларусі хаця б адзін такі), палі зялёныя і роўныя, а мяч круглы — глядзі ды атрымлівай асалоду.

**Прыклад футбольнай Македоніі — надзвычай павучальны. У той час як мы перманентна робім гучныя заявы пра заўтрашняе перасяленне ў Эдэм, у сціплых, невялікіх і небагатых краінах лічаць за лепшае менш гаварыць і больш рабіць**

## 24 зборныя

А паглядзець, канешне, будзе на што. Нездарма менавіта чэмпіянат Еўропы многімі аналітыкамі лічыцца лепшым, што ёсць у свеце на ўзроўні нацыянальных зборных. Так-так, лепшым нават за чэмпіянат свету.

Мундзіяль, як яго яшчэ называюць, ЧС усё ж моцна разбаўлены маламагутнай экзотыкай з далёкіх частак свету. Добра яшчэ Лацінская Амерыка, якая дэлегуе славутых і зорных бразільцаў, аргентынцаў і мексіканцаў. Афрыка, пры ўсёй павазе, даўно няздатная на сапраўды ашаламляльныя сенсацыі. Што казаць пра Азію ці, тым больш, Акеанію з Паўночнай Амерыкай, дзе тэхніка валодання мячом дагэтуль пакідае жадаць лепшага.

А Еўропа — гэты суцэльны густ і элітны ўзровень. Гэта клас, які падраўняўся, і інтрыга, якая захапляе дух. Вось паглядзіце ніжэй на склады груп — да пачатку турніру ці былі вы гатовыя аднесці бліжэйшаму букмекеру колькі-небудзь купюр, каб паставіць на вынік барацьбы хоць у якім квартэце? Іспанія, Швецыя, Польша, Славакія — хто адсюль выйдзе ў плэй-оф? Італія, Турцыя, Уэльс, Швейцарыя — а адсюль? Не гаворачы ўжо пра сапраўдную «групу смерці» пад літарай F — Партугалія, Францыя, Германія, Венгрыя.

Псуе ідылію хіба толькі фармат: у 1/8 фіналу патрапяць не толькі па дзве лепшыя зборныя з кожнай групы, але часткова і ўладальнікі трэцяга месца (тут прыярытэты вызначыць завочнае параўнанне паказчыкаў). Ну, ды што ж, за ўсё трэбы плаціць. У дадзеным выпадку перакос — гэта цана расшырэння колькасці ўдзельнікаў ЧЕ да 24 каманд. З гэтым трэба неяк мірыцца, хоць, зноў жа: кансерватары настальгічна скардзяцца, што пры 16 зборных было істотна лепей.

## Топаюць топы

Нарэшце ад колькасці пяройдзем да якасці — ды паразважаем, хто з суіскальнікаў найбольш саспеў для тытулу. Тут, праўда, адразу трэба зрабіць агаворку, нават дзве агаворкі.

Па-першае, калі пішуцца гэтыя радкі, матчаў згуляна мала. Калі гэтыя радкі чытаюцца — матчаў згуляна болей, адпаведна, чытач знаходзіцца ў пераважным становішчы перад журналістам. Нічога не зробіш: такая спецыфіка ў сённяшняй выдавецкай справе. І па-другое: увогуле любыя смелыя ацэнкі ў бітвах сапраўдных футбольных эліт — гэта апрыёры тыканне пальцам у неба і звычайная схаластыка. Бо лепшыя зборныя Еўропы — яны плюс-мінус аднолькавага ўзроўню, а каму больш пашанцуе ў канкрэтны дзень, гэтага аніякім экспертным меркаваннем не дацяміш.

І ўсё-ткі эксперты не носяць думкі ў сабе, актыўна дзеляцца калі не прагнозамі, то ўласнымі прадчуваннямі. Нічога новага, вядома, у іх бачанні няма — пул галоўных прэндэнтаў на чэмпіёнства навідавоку.

Гэта, зразумела, зборная Францыі — дзеючы чэмпіён свету. Каманда, для якой не бывае безвыхадных становішчаў і якая насычана зоркамі планетарнай велічыні, як гарбуз семкамі. У варотах — Лорыс, у абароне — Варан, у паўабароне — Кантэ і Пагба, ад атакі ўвогуле галава ідзе кругам: Мбапе, Грызман, Бензема, Жыру… Пераможныя традыцыі, добры настрой, хайклас ва ўсіх лініях — што яшчэ трэба, каб узяць рашучым штурмам чарговую вяршыню?

Гэта, зразумела, зборная Бельгіі — першы нумар актуальнага рэйтынгу ФІФА. Уласна, пра яе можна сказаць тое ж самае, што і пра французаў — толькі замяніць прозвішчы і нагадаць пра недалечаную траўму Дэ Брэйнэ. Як бельгійцы бягуць наперад, добра памятаюць нашы бядовыя футбалісты: сакавіцкія 0:8 ніколі не сатруцца ў памяці беларускіх заўзятараў. Пры гэтым дадзеная каманда адчувае моцны голад да тытульных перамог, бо трафеяў — так сталася — у яе няма, бронзай мінулага ЧС-2018 душу не падманеш.

Гэта, зразумела, зборная Партугаліі — дзеючы чэмпіён Еўропы. Моцная, збалансаваная каманда на чале з фенаменальным Крышціяну Раналду, які на EURO праспявае, бадай, лебядзіную песню. Тым больш, спяваць у пірэнейцаў ёсць каму і акрамя 36-гадовага лідара. Іх поспех на ЧЕ-2016 быў, у пэўнай ступені, сенсацыяй, але з той пары партугальцы анічога не страцілі — хутчэй наадварот. Дык чаму іх акцыі мусяць быць ніжэй, чым пяць гадоў таму?

Зрэшты, пералічваць старасвецкіх мастадонтаў і іх наяўныя казыры — тут ніякага месца ў газеце не хопіць. Таму далей — коратка і ясна. Заўсёды цвёрда крочаць па дыстанцыі немцы. У якім бы годзе, у якім бы стане, з якім бы трэнерам ні была «бундэсманшафт», тут і цяпер яна здольная разбамбіць каго заўгодна. Нідэрланды, магчыма, зараз перажываюць і не лепшыя часы: апошнія чэмпіянаты Еўропы і свету прайшлі без іх, але хто скажа, што яны развучыліся гуляць на касмічным узроўні, што ў іх абойме няма бранябойных патронаў? Іспанцы, можа, сёння і не тыя, што ў часы Хаві і Іньесты, дый склад у іх беспрэцэдэнтны — упершыню ў гісторыі ў ім няма нікога з мадрыдскага «Рэала», — але на кароткай дыстанцыі сінергія здольная спрацаваць і выбухнуць. Сіметрычна і італьянцы — дзе б і калі б ні выступалі, якое б ліхалецце ні перажывалі, яны заўсёды застаюцца магутнай сілай, адной з мацнейшых зборных у свеце.

Выснова: велізарная імавернасць, што на найвышэйшую прыступку п'едэстала 11 ліпеня падымецца нейкая з пералічаных каманд. І ніхто не скажа, што ў яе перамозе ёсць нешта незвычайнае. Наадварот — эксперты імгненна знойдуць безліч аргументаў, чаму ўсё адбылося менавіта так і чаму інакш быць не магло.

Канешне, ёсць спакуса дадаць у складзены шорт-спіс яшчэ дзве зборныя — Англіі і Харватыі. Аднак, так бы мовіць, нешта перашкаджае. Бо тыя ж харваты, хто б казаў, вялікія малайцы — узялі срэбра на чэмпіянаце свету-2018. Але прайшоў час, ужо не так звініць склад — пастарэлі лідары (капітану Луку Модрычу хутка 36), скончыў гуляць за зборную Іван Ракіціч… Не, цяжка будзе балканцам дайсці нават да паўфіналу. Што да англічан, то тытульныя дамаганні родапачынальнікаў футбола даўно ўжо выклікаюць іранічную ўсмешку. Здаецца, усё ў іх ёсць для подзвігу: і гульцы, і трэнеры, і традыцыі, і армія заўзятараў… Але толькі бяруцца за гуж — і спраўна сядаюць у галошу.

## Маленькія-ўдаленькія

Традыцыйна цікава будзе паназіраць на чэмпіянаце за так званымі «маленькімі» зборнымі. Іншымі словамі — камандамі

# гэта там, дзе нас няма

тых краін, само з'яўленне якіх на такой арбіце выклікае вялікую павагу. Такіх на EURO дзве: Фінляндыя і Паўночная Македонія.

Гістарычна краіна Суомі — гэта не пра футбол. Гэта перш за ўсё пра хакей, у якім гарачыя фінскія хлопцы ведаюць усе сакрэты. З гульнёй жа нумар адзін у «чухонскіх балотах» неяк усё ніяк не складвалася. Не ставілася яна дастаткова масавай, каб атрымаць кумулятыўны выхлап. Не мела неабходных рэсурсаў, каб развівалася сістэмна. Наогул, бракавала папулярнасці, і да сучасных рэалій у Еўропе добра ведалі хіба што толькі двух фінскіх гульцоў — Яры Літманена і Самі Хююпія, якія грымелі ў далёкіх 90-х.

Зараз селебрыці такога калібра ў камандзе, можа, і няма — затое ведаюць саму каманду. Тую, якая ўпершыню ў гісторыі адабралася на топ-турнір — бягучы чэмпіянат Еўропы.

Гэта было цяжка, бо канкурэнты ў адборачнай групе трапіліся сур'ёзныя. За дзве прамыя пуцёўкі ў футбольны космас давялося змагацца з італьянцамі, грэкамі, баснійцамі — супернікамі, якія мелі досвед удзелу ў статусных форумах. Фіны яго не мелі — і вось здабылі, у калейдаскапічна бліскучай барацьбе заняўшы другое месца.

Знакамітых футбалістаў у гэтай камандзе сапраўды няма. Самы-самы — ну, напэўна, нападаючы з прозвішчам Пукі са сціплага англійскага «Норвіча». Пры гэтым маецца ў складзе хлопец, якога добра памятаюць беларускія заўзятары — цемнаскуры паўкроўка Піры Сойры, былы паўабаронца салігорскага «Шахцёра», а зараз — легіянер дацкага «Эсб'ерга». Вось так бывае: яшчэ ўчора ты бегаў супраць «Гарадзеі» і «Іслачы», а сёння спаборнічаеш на EURO з Лукаку і Азарам.

З камандай Паўночнай Македоніі ўсё яшчэ цікавей. Пра яе гульцы беларускай зборнай могуць сказаць: на гэтым месцы маглі быць мы. Так, могуць — але не скажуць, і вось чаму.

Македонцы ўрвалі «грынкард» на ЧЕ асаблівым чынам — за кошт «сацпакета» УЕФА. А менавіта — выйграўшы Лігу нацый сярод тых самых «маленькіх» дружын. Адметна, што ў імправізаваны «фінал чатырох», акрамя іх, прайшлі грузіны, касавары і, так, беларусы. Аднак нашы сокалы, як у той камедыі, раскалоліся ўжо пры першым шухеры — паныла саступілі на выездзе ў матчы з Грузіяй. «Стральба ж па-македонскі» аказаўся самай трапнай: ад яе сканала спачатку каманда Косава, а потым (у фінале) і грузіны. Так чэмпіянат Еўропы прыдбаў каларытнага ўдзельніка з маленькай паўднёвай краіны, дзе народу жыве — як у нас у Мінску.

**Пры ўзаемна паспяховай гульні расіяне і украінцы на гэтым ЧЕ могуць сустрэцца на адным полі — прыблізна ў чвэрцьфінале. Выглядае, што ў гэтым выпадку іх матч стане ці не галоўнай падзеяй турніра**



Зборная Францыі: чэмпіёны свету хочуць скарыць Еўропу



Вялікія гульні «маленькай» Паўночнай Македоніі

Прыклад футбольнай Македоніі — надзвычай павучальны і паказальны, у тым ліку для вечна амбіцыйных беларусаў. У той час як мы перманентна надзімаем шчокі і робім гучныя заявы пра заўтрашняе перасяленне ў Эдэм, нават у такіх сціплых, невялікіх і небагатых краінах лічаць за лепшае менш гаварыць і больш рабіць. Вось македонцы і нарабілі спраў — і гэта толькі на першы погляд яны прыхапілі пуцёўку на EURO па льготным тарыфе. Насамрэч яны яе заслужылі па гамбургскім рахунку.

Гэтыя смуглявыя балканцы і ў «звычайным» адборы не каталі, як кажуць, вату. У сваёй кваліфікацыйнай групе зборная Македоніі заняла трэцяе месца, апярэдзіўшы неслабых славенцаў і ізраільцян. Гэта само па сабе дасягненне, якое пры ўдалым збегу абставін дорыць права на стыкавыя матчы за праход на ЧЕ. Значыць, па факце і па справе каманда ўшчыльную наблізілася да элітных колаў еўрапейскага футболу.

А ростар? Вы бачылі македонскі ростар на чэмпіянат? Там аніякага сораму — і за спінай культавага 37-гадовага Горана Пандзева з італьянскага «Джэнаа» ўзрасла цэлая плеяда таленавітых гульцоў. І яны ўжо паспелі раз'ехацца па салідных еўрапейскіх клубах. Хтосьці ў Іспанію — у «Райа Вальекана», «Левантэ», «Мальёрку». Хтосьці ў Італію — у «Напалі», «Леччэ». Ёсць македонскія «амбасадоры» ў нямецкім «Штутгарце», англійскім «Лідзе», бельгійскім «Шарлеруа».

Годная, карацей, банда сярэдненеўрапейскага ўзроўню — яна і надалей будзе трымацца узровень і змагацца за выхад на топ-форумы. Чым не прыклад для футбольнай Беларусі, адкуль за мяжу ў моцныя лігі ўжо даўно з'язджаюць адзінкавыя людзі?

## Слава Украіне?

З'язджаюць беларусы, дарэчы, пераважна ў Расію і Украіну, і пра гэтых заклятых сяброў у кантэксце ЧЕ асобны расповед. З палітычнай, вядома, афарбоўкай — і адсылкай у часы анексіі Крыма сямігадовай даўніны.

Украінцы для ўдзелу ў чэмпіянаце вырабілі адмысловую форму — з прамаляваным на футболках контурам сваёй краіны, дзе Крымскі паўвостраў па-ранейшаму падпарадкоўвацца Кіеву. Дадатковае аздабленне экіпіроўкі — патрыятычны надпіс «Слава Украіне! Героям слава!».

Натуральна, афіцыйнай Расіі такія мастацтвы суседзяў не спадабаліся, і футбольныя ўлады РФ паскардзіліся на гэта УЕФА. Да кучы ўзбудзіліся расійскае МЗС і некаторыя дэпутаты Дзярждумы. Маўляў, і «Крым — наш», і тыя надпісы выкарыстоўвалі ўкраінскія бандэраўцы-нацыяналісты. Нельга ў такім адзенні на EURO, бо спорт жа па-за палітыкай.

УЕФА скаргу на разгляд узяў, крыху пакеміў — і ў выніку, калі не ўдавацца ў падрабязнасці, дазволіў украінцам пакінуць усё як ёсць. Відавочна, што ў Ньёне кіраваліся, у першую чаргу, міжнародным правам, а паводле яго Крым застаецца часткай Украіны. Расійскім яго прызналі толькі Афганістан, Венесуэла, Куба, Нікарагуа, Сірыя, Судан і КНДР — мякка кажучы, не зусім еўрапейскія і не вельмі дэмакратычныя дзяржавы. Не прызнала нават Беларусь, хаця нейкія памкненні радары часам ловяць. То з чаго УЕФА будзе наракаць на адлюстраваныя на форме межы? Як і на патрыятычныя слоганы. У Швейцарыі палічылі, што патрыятызм і палітыка — гэта не адно і тое ж, і закрылі тэму.

Але самае цікавае тут у іншым. Пры ўзаемна паспяховай гульні расіяне і украінцы на гэтым ЧЕ могуць сустрэцца на адным полі — прыблізна ў чвэрцьфінале. Выглядае, што ў гэтым выпадку іх матч стане ці не галоўнай падзеяй турніра. Прынамсі, у арганізатараў і ў служб бяспекі галаўнога болю пабольшае. А ў заўзятараў пабольшае імпэту. Бо што такое Расія супраць Украіны ў футболе, даўно ніхто не ведае — з таго самага 2014-га каманды між сабой ніколі не гулялі.

Можа, наканавана згуляць цяпер? Калі так, то ў такім постсавецкім і постмайданным дэрбі больш шанцаў на перамогу будзе, бадай, ва ўкраінцаў. Бо ў надта ж цікавы і захапляльны футбол гуляе каманда пад кіраўніцтвам легендарнага Андрэя Шаўчэнкі. Бо цудоўнае пакаленне выгадавана там, нягледзячы на ўсе цяжкасці і тлеючы канфлікт на Данбасе. Бо, нарэшце, кваліфікацыю нашы паўднёвыя суседзі прайшлі на адным дыханні, заняўшы ў групе першае месца і апярэдзіўшы дзеючых чэмпіёнаў Еўропы партугальцаў.

І калі нехта на турніры выскачыць на галоўны план у якасці чорта з табакеркі — а сюрпрызы на ЧЕ адназначна будуць — то чаму б гэта не зрабіць імпазантным «жоўта-блакітным» пабрацімам?

ГРУПА «A»

Турцыя, Італія, Уэльс, Швейцарыя.

ГРУПА «B»

Бельгія, Расія, Данія, Фінляндыя.

ГРУПА «C»

Нідэрланды, Украіна, Аўстрыя, Паўночная Македонія.

ГРУПА «D»

Англія, Харватыя, Шатландыя, Чэхія.

ГРУПА «E»

Іспанія, Швецыя, Польша, Славакія.

ГРУПА «F»

Партугалія, Францыя, Германія, Венгрыя.




Зорная каманда Бельгіі: іх ведаюць усе

# Алена Гендэль: «Веру, мы будзем радавацца жыццю ў цудоўнай краіне»

Сяргей ШЧУРКО

**Алена Гендэль — адна з самых тытулаваных айчынных валейбалістак. Заваяваўшы дзве бронзы еўрапейскіх чэмпіянатаў з беларускай «маладзёжкай», яна затым з'ехала ў расійскі чэмпіянат. І правяла там дванаццаць выдатных сезонаў — выключна ў складзе топ-клубаў. Апошні — гуляючы за «Ленінградку». Тую самую, якую сенсацыйна перамагла ў плэй-оф «Мінчанка», пазбавіўшы шанцаў пазмагацца за медалі адкрытага чэмпіянату.**



***— Як жа так, Алена? Бо бюджэты і клас гульцоў, пры ўсёй павазе да беларусак, несумяшчальныя...***

— Калі б хтосьці ведаў адказ на гэтае апытанне, ён быў бы ўжо чэмпіёнам Расіі. У спорце здараюцца сюрпрызы — і асабліва ў плэй-оф. Нашы матчы сталі яшчэ адным таму пацвярджэннем.

Можна сказаць, што сезон у «Ленінградкі» выдаўся складаным. У лістападзе мы ўсёй камандай сышлі на каранцін, а затым зноў пачалі набіраць форму. І, магчыма, працэс ішоў не так хутка, як нам усім хацелася. З іншага боку, «Мінчанка» была ў такіх жа ўмовах. І нават горш.

***— Рэгулярны чэмпіянат вы скончылі на пятым месцы, «мінчанкі» — на дзясятым. Можа, мела месца недаацэнка суперніка?***

— Ні ў якай меры. У нас былі вельмі зацятыя матчы ў чэмпіянаце, і ўсе ведалі, што, асабліва дома, «Мінчанку» абыграць вельмі няпроста.

Па сутнасці, у першым матчы плэй-оф так і атрымалася. Мы «гарэлі» 0:2 і прайгралі і трэцюю партыю. Заўзятары ўжо амаль рынуліся на пляцоўку святкаваць перамогу, але наш трэнер Кашын папрасіў відэапрагляд.

Гэта быў пераломны момант. Нам вярнулі ачко, мы сабраліся і з вялікай цяжкасцю выйгралі 3:2. Але дома, на жаль, поспех, развіць не ўдалося. Хоць мы мелі цяжкую размову ў распранальні і сышліся ў тым, што і ў Піцеры «мінчанак» шапкамі не закідаем. Але выйшла як выйшла.

***— У вас, варта прызнаць, унікальны трэнер. Ён жа — і кіраўнік, і спонсар каманды. Не ведаю, ці ёсць яшчэ такія прыклады ў спорце.***

— Так, Аляксандр Леанідавіч у гэтым плане сапраўды эксклюзіўны. Прычым ён жа быў маім першым трэнерам у расійскай Суперлізе, куды я прыехала 12 гадоў таму. І ўвесь гэты час працягваў узначальваць «Ленінградку».

На самой справе, я яго вельмі моцна люблю і паважаю хоць бы за тое, што ён умее ствараць добры калектыў. Неверагодна, як ён усё паспявае адначасова — і сур'ёзна займацца бізнесам, і трэніраваць.

Яго не было на трэніроўках толькі тады, калі ён хварэў на каронавірус. Дый тое, усе нашы гульні глядзеў, лежачы ў бальніцы. Дарэчы, можа, менавіта тых трэніровак без Кашына нам і не хапіла, каб выступіць у плэй-оф больш паспяхова.

***— Спадзяюся, вас і іншую беларуску з «Ленінградкі» Насцю Гарэлік не пакінулі крайнімі — маўляў, дапамаглі землякам? Такое ж, пагадзіцеся, часам бывае.***

— Бывае ўсякае, але трэнер высокай кваліфікацыі такога сабе ніколі не дазволіць. Мы каманда — і выйграём, і прайграём заўсёды разам. Менавіта такая філасофія ў «Ленінградкі», таму мне там і было так камфортна.

***— Гэты сезон стаў першым, калі вы вярнуліся ў спорт пасля нараджэння дзіцяці.***

— Так. І таму нечакана цяжкім. Думала, што будзе лягчэй. Кашын паставіўся з разуменнем. Сказаў, што я буду пачынаць паволі. Першую палову сезону я адыграла, а ў другой асабліва не выходзіла. Напэўна, узрост дае пра сябе ведаць. У верасні мне споўніцца 37.

***— Вы яшчэ плануеце гуляць?***

— Хацелася б дадаць да сваёй кар'еры гадок-другі. На самой справе, нават сорак гадоў для валейбалістак — яшчэ той узрост, у якім гуляюць. Як, напрыклад, мая сяброўка Ганна Мацыенка, ёй праз месяц якраз столькі і будзе. Праўда, яна звязуючая (амплуа ў валейболе. — С. Ш.).

Але свет ведае і прыклад Ірыны Кірылавай, якая ў 46 гадоў выйграла бронзу чэмпіяната Расіі. Так што, па ідэі, ёсць да чаго імкнуцца.

***— Аднак, з іншага боку, і сумна, калі спартсмен нікуды не можа сысці. Бо больш нічога рабіць не ўмее.***

— Пытанне не ў гэтым — проста, пакуль сілы ёсць, трэба гуляць. Дый зарабляць, чаго ўжо там. А пра адукацыю я ніколі не забывала. У мяне два дыпломы: трэнерскі з Беларускага фізкультурнага і «корачкі»

> **Хацелася б дадаць да сваёй кар'еры гадок-другі. Нават сорак гадоў для валейбалістак — яшчэ той узрост, у якім гуляюць. Ірына Кірылава ў 46 гадоў выйграла бронзу чэмпіяната Расіі**

Новасібірскага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Дзяржаўнае кіраванне».

***— Якім жа чынам вы апынуліся ў сібірскай ВНУ?***

— Я тады гуляла за «Амічку» з Омска і сур'ёзна цікавілася палітыкай. У мяне ўся сям'я, можна сказаць, палітызаваная. І мне параілі займець адпаведную адукацыю. І вось я паступіла, адвучылася, атрымала дыплом. А потым зразумела, што пагарачылася і сістэму ў адзіночку не зламаць.

***— Вашы любімыя палітыкі той пары?***

— Яўген Ройзман і Барыс Нямцоў. Былі і з'яўляюцца да гэтага часу. Але пра палітыку я цяпер калі і думаю, то ў дачыненні да роднай Беларусі. Але, зноў жа, я назіральнік і магу выказаць толькі нейкія ўласныя меркаванні. Прафесіяналам я з'яўляюся толькі ў валейболе.

***— Пра яго пакуль і пагаворым. Праўда, што расійскі клубны чэмпіянат — самы моцны ў свеце?***

— Думаю, што цяпер з ім па фінансавых магчымасцях зраўняліся турэцкі і італьянскі. Апошні заўсёды быў культавым, і трапіць туды заўсёды было «топ». Турэцкія клубы прымудраліся выйграваць Лігу чэмпіёнаў нават тады, калі наступаў фінансавы крызіс і ў каманд былі маленькія бюджэты. У адным з розыгрышаў казанскае «Дынама», за якое я тады гуляла, спыніў менавіта італьянскі супернік. Наш склад быў значна больш грозным, але мы саступілі.

Італьянскі чэмпіянат — гэта знак якасці ў любы час. Усё роўна як італьянскі футбол. У яго могуць быць спады, але ўсе ведаюць, што проста патрапіць туды і гуляць — гэта ўжо ганарова. Тое ж самае тычыцца і валейбола.

Дарэчы, у дваццаць гадоў, яшчэ калі выступала за мінскую «Славянку», то мела прапанову з Апенін, але мяне не адпусцілі. А потым лёс даў расійскі ўхіл, мяне так усё задавальняла — і я замацавалася ў тамтэйшым чэмпіянаце.

***— Для чаго давялося прыняць і расійскае грамадзянства.***

— Гэта было патрабаванне часу, таму што ў кожнай камандзе мелася жорсткі ліміт на легіянераў. А ўлічваючы, што у Расію імкнуліся лепшыя гульцы свету, то ход быў заканамерным. Так паступілі многія беларускія і ўкраінскія спартсмены ў самых розных відах спорту.

Цікава, што ў нас гэта ўсе адэкватна ўспрынялі. Магчыма, таму што я адыграла за нашу зборную адзінаццаць гадоў і выйграла штосьці на еўрапейскай, хай і маладзёжнай, арэне.

***— На юніёрскім узроўні мы традыцыйна паспяховыя. А вось на дарослым справа неяк не ідзе. Якіх поспехаў мы маглі б дасягнуць, калі б захавалі тую вашу «бронзавую» каманду?***

— Ну гэта такое, ведаеце... Калі нашы баскетбалісткі сталі трэцімі на чэмпіянаце Еўропы, то мы на сваёй «Еўропе» нават



з групы не выйшлі. А цяперашні склад зборнай заняў на апошнім чэмпіянаце Еўропы сёмае месца. З гэтага можна зрабіць выснову, што цяперашняя версія каманды мацней, чым наша. І хто ведае, можа, на будучым першынстве Старога Свету гэты вынік атрымаецца палепшыць. Хоць ён і так даволі добры, улічваючы развіццё валейбола ў Еўропе.

***— Ці раіце беларускім гульцам з'язджаць за мяжу?***

— Хоць бы таму, што, чым з большай колькасцю добрых трэнераў ты працуеш, тым хутчэй расце твой клас. Зноў жа, іншыя сістэмы, майстры, побач з якімі трэніруешся і ў якіх можна шмат чаму навучыцца. Свет не стаіць на месцы, і кожны год нешта мяняецца ў плане тактыкі, тэхнікі або той жа фізічнай падрыхтоўкі.

Так што з'язджаць проста неабходна. Зразумела, пры наяўнасці нармальнага варыянту.

Мне ў гэтым плане пашанцавала. З задавальненнем узгадваю час, праведзены ў Казані. Там у клуба свая сучасная база, усё кампактна з пункту гледжання лагістыкі. Няма такіх адлегласцей, як у Маскве, хоць і там мне таксама вельмі спадабалася.

Нельга не ўспомніць і Краснадар, у якім з намі тады працаваў цяперашні трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі Станіслаў Салікаў. Ён жа нас цяпер і абыграў з «Мінчанкай». Думаю, шмат у чым за кошт вопыту, які ён набыў, працуючы ў Суперлізе. Трэнерам, дарэчы, таксама трэба з'язджаць і вучыцца.

***— Горад пражывання накладае адбітак на гульца?***

— У нейкай меры, так. У Маскве, напрыклад, было не вельмі ўтульна, таму што гэта проста вельмі вялікі горад і кудысьці дабрацца… Зразумела, што клуб нам здымаў кватэры недалёка ад трэніровачнай базы, але на гульні даводзілася ехаць вельмі доўга. Вечна гэтыя коркі, у якіх можна стаяць гадзінамі…

Пецярбург жа «мой» горад цалкам. Ёсць толькі два гарады, куды з'язджаюць валейбалісткі, калі скончылі кар'еру, — гэта Краснадар і Пецярбург. У першым выпадку зразумела: там цёпла. Хоць і другі таксама відавочны: Піцер проста выдатны, у яго можна закахацца з першага погляду. Ён найбольш еўрапейскі з усіх расійскіх. Так, таксама немаленькі, але і людзей, і коркаў там паменш, чым у Маскве.

Пяць разоў была ў Эрмітажы — апошні раз па заканчэнні сезона. І адна хадзіла, і з экскурсіямі. За адзін раз, вядома, там нічога ўбачыць нельга. Таму задавальненне трэба расцягваць.

Добра, што ў нас у камандзе дзяўчынкі, якія жыва ўсім цікавяцца. І калі нехта ў агульную групу піша, што ў выхадны добра б схадзіць у тэатр ці ў музей, то такія прапановы праходзяць «на ўра». А мне падабаецца, калі ты гуляеш у горадзе і знаёмішся з яго гісторыяй і культурай.

***— Не ўсім гарадам шанцуе з гісторыяй і помнікамі архітэктуры.***

— Омск, мабыць, менавіта з гэтай серыі: глядзець там асабліва няма чаго. Затое ў горадзе жывуць цудоўныя людзі — і гэта галоўнае яго багацце.



Сапраўдныя сібіракі — добрыя і адкрытыя. Дарэчы, гэты горад — чэмпіён краіны па колькасці сонечных дзён. Гэта здаецца неверагодным, але менавіта так. Нават не магу ўспомніць, каб неба над Омскам было хмурным. Цяпер там, напрыклад, ужо пад 30 градусаў гарачыні. Клімат кантынентальны, то-бок лета там сапраўднае, але і зіма таксама — з вялізнымі гурбамі і моцным марозам.

Ёсць яшчэ такі горад, як Урэнгой. Там зімой мінус 50 і знайсці людзем на вуліцы вельмі праблематычна. Усе сядзяць па хатах. У кожным доме ёсць маленькая крамка, дзе і праходзяць усе зносіны паміж жыхарамі. З кожнага акна, дзе жывуць уладальнікі аўтамабіля, тырчыць провад з падагрэвам. Інакш завесці машыну на такім марозе проста нерэальна.

Добра, што прыязджалі мы ў горад толькі на гульні, звычайна нас пасялялі на трэніровачнай базе. Таму што жыць у горадзе рэальна цяжка. Не хапае кіслароду. Пастаянна сінеюць вусны і вельмі цяжка дыхаць. Рана цямнее, у 2-3 гадзіны ўжо ўсё. Лета зусім маленькае, месяц, максімум два.

Вось вы спыталі пра гарады, а я ўзгадала, як першы раз паехала ў Омск, на матч усіх зорак расійскага чэмпіянату. Тады яшчэ грошай асабліва не зарабіла і як зачараваная глядзела на дзяўчат з «Амічкі» — кожная з іх была апранутая ў раскошныя футра.

Гэта былі яшчэ тыя часы, калі людзі не затлумляліся над абаронай пушнога звера і людзі ў футрах ўспрымаліся абсалютна натуральна. Хоць, як натуральна: усе жанчыны ім зайздросцілі. І мне, маладой дзяўчынцы, тады гэта здавалася сімвалам нябачанай раскошы. І я думала: вось, трэба добра гуляць, паказваць сябе — і тады таксама змагу дазволіць сабе такую прыгажосць.

***— Вы з піцерскімі дзяўчатамі абмяркоўвалі падзеі ў Беларусі?***

— Не з усімі, з найбольш блізкімі сяброўкамі. Тымі, хто цікавіцца, што адбываецца ў свеце. Калі яны даведваюцца, што ў нас робіцца, то, вядома, жахаюцца. Гэта не ўкладваецца ў іх свядомасці. Як, зрэшты, і ў нашай.

***— Пасля сезону вярталіся ў Мінск з якім пачуццём?***

— Першае — гэта ў любым выпадку радасць, бо гэта мая радзіма, дзе жывуць самыя блізкія людзі, родныя і сябры. Іншая справа, што калі аказваешся ў эпіцэнтры таго, што звычайна адбываецца на адлегласці, то гэта вельмі моцна прыцiскае. Тым больш, я шмат чытаю і гляджу. Часам здаецца, што можна з'ехаць з глузду толькі таму, што ты ўсяго толькі глядач і ніяк не можаш паўплываць на тое, што адбываецца.

Эмоцыя, у якой салідарныя многія мае суайчыннікі, — часам трэба ўмець абстрагавацца ад таго, што адбываецца. Таму што інакш можна сапраўды звар'яцець або ўвайсці ў такую дэпрэсію, з якой потым будзе вельмі цяжка выйсці.

## Я хачу жыць у гэтай краіне. Яна выдатная ўжо цяпер, а будзе наогул незвычайнай, калі здабудзе лепшыя еўрапейскія якасці. Дзе будуць законы, дзе пачнуць паважаць правы чалавека. І чалавек гэты не будзе баяцца выйсці на вуліцу, перастане жыць у страху

Як адцягваю ўвагу? З сынам гуляю, кніжкі чытаю. Але ўсё роўна, зразумела, цяжка кіравацца сваімі эмоцыямі і дыстанцыявацца ад таго, што адбываецца тут і цяпер. Думаю, гэта наогул немагчыма. Рэальнасць увесь час побач.

***— Якой бачыце будучыню Беларусі?***

— Выключна аптымістычнай. Я хачу жыць у гэтай краіне. Яна выдатная ўжо цяпер, а будзе наогул незвычайнай, калі здабудзе лепшыя еўрапейскія якасці. Дзе будуць законы, дзе пачнуць паважаць правы чалавека. І чалавек гэты не будзе баяцца выйсці на вуліцу, перастане жыць у страху ад таго, што дзверы кватэры могуць выламаць у любы час дня і ночы, а яго самога звезці далёка і надоўга.

Веру, што ўсё гэта пройдзе, як страшны сон. І мы будзем радавацца жыццю ў цудоўнай краіне.

***— Вам зараз не хочацца абнавіць свой атрыманы дыплом і пачаць свой шлях у палітыцы — цяпер ужо на радзіме?***

— Не, усё-ткі гэтым павінны займацца прафесіяналы. З кожным разам пераконваюся ў гэтым ўсё больш. Гэта такое сабе відовішча — расійская Дзярждума, дзе сядзяць спартсмены, якія час ад часу радуюць народ нейкім перламі. І ўсе пытаюцца: «Што гэтыя людзі там робяць?»

Вядома, кожны спартсмен можа, ды і, па сутнасці, абавязаны мець сваё меркаванне. Выказваць яго ў інтэрв'ю, нешта пісаць у сацсетках. Але ўсё-ткі палітыка — гэта асобная прафесія, якой трэба доўга і старанна вучыцца. Я пакуль да гэтага дакладна не гатовая.

***— Каго б вы бачылі будучым прэзідэнтам Беларусі?***

— Мне вельмі імпануе Віктар Бабарыка. І я збіралася аддаць за яго свой голас на выбарах. Добра адукаваны чалавек, які ўжо паказаў сябе як умелы кіраўнік. Валерый Цапкала, думаю, такі ж.

Падабаецца Павел Латушка — ён таксама не пачатковец у палітыцы, чалавек з добрым бэкграўндам. І, акрамя таго, мне заўсёды падабаліся мужчыны, якія мелі сваё меркаванне і не баяліся пацярпець за яго выказванне.

***— Святлана Ціханоўская?***

— Таксама смелая жанчына. Але, наколькі я разумею, яна не збіраецца быць у палітыцы і проста пастараецца дапамагчы правесці сумленныя выбары. І тады хай народ сам выбірае таго, каго ён хоча ўбачыць на чале дзяржавы.

Можа, прэзідэнтам стане не мужчына, а жанчына. У нас шмат выдатных жанчын, мы ўбачылі нямала прыкладаў за мінулы год. Таксама нічога не буду мець супраць. Вельмі хочацца пажыць у краіне, якую Еўропа не будзе шкадаваць, як цяпер, а наадварот — будзе ганарыцца і ставіць усім у прыклад.

Таму і з'язджаць нікуды не хачу. А бачу будучыню сваёй сям'і выключна ў роднай Беларусі. І пастараюся прынесці ёй максімальную карысць. Праўда, пакуль яшчэ не ведаю, на якой сцежцы: спартыўнай ці нейкай іншай.

***— Вы задаволеныя першай часткай свайго жыцця?***

— Усё-ткі мая мара — выйграць Лігу чэмпіёнаў — не спраўдзілася. І наўрад ці ўжо, паклаўшы руку на сэрца, увасобіцца ў жыццё. Ва ўсялякім выпадку, у якасці гульца. А з іншага боку, я правяла ў Лізе дзясятак сезонаў аж з чатырма клубамі — прычым такімі, проста прабіцца ў склад якіх ужо было нялёгка. Таму мне няма патрэбы казаць пра тое, што мая кар'ера гульца не ўдалася. Думаю, кар'ера атрымалася неблагой.

**Фота з сацсетак Алены Гендэль**



# «Мы не будзем гуляць, пакуль кіруе хунта»: галодныя гульні футбольнай зборнай М’янмы

Аляксей АСАНОВІЧ




**Пакуль у беларускім футболе з супрацівам збольшага глуха, можна зазірнуць у Азію. У М’янме таксама палітычны крызіс, таксама пратэсты, таксама палітвязні і таксама «спорт па-за палітыкай». Але тамтэйшая нацыянальная зборная прыняла зусім іншыя рашэнні.**

### Рэвалюцыя

Кароткі змест падзей у М’янме для тых, хто прапусціў. 1 лютага 2021 года ўзброеныя сілы пад кіраўніцтвам галоўнакамандуючага генерала Мін Аун Хлаіна захапілі ўладу і арыштавалі выбраных народам прэзідэнта Він М’іна і прэм’ер-міністарку Аун Сан Су Чжы. Таксама пад варту трапілі каля 400 членаў парламента.

Мін Аун Хлаін абвясціў, што папярэднія выбары 8 лістапада 2020-га, у выніку якіх каля 60 адсоткаў месцаў у абедзвюх палатах атрымала «Нацыянальная ліга за дэмакратыю» (партыя Аун Сан Су Чжы), «прайшлі са шматлікімі парушэннямі». Праваенны «Саюз салідарнасці і развіцця» сабраў толькі 33 месцы — каля 4 адсоткаў.

У краіне ўвялі ваеннае становішча, Він М’іна і Аун Сан Су Чжы абвінавацілі ў парушэнні кавіднага карантыну, прычым Аун Сан Су Чжы таксама інкрымінавалі незаконны ўвоз у краіну шасці рацый для яе службы бяспекі.

Ваенныя абвінавацілі дзеючую ўладу ў фальсіфікацыях і пачалі рыхтаваць краіну да новых, «справядлівых», выбараў. Абураныя грамадзяне масава выйшлі на вуліцы. Супраць іх выступілі ўзброеныя салдаты, якім дазволілі страляць баявымі.

Паводле даных Асацыяцыі дапамогі палітвязням, на 1 чэрвеня 2021-га пераварот абышоўся ў 841 жыццё. Тая ж арганізацыя ацэньвае колькасць «палітычных» у турмах у 3141 чалавека. «Некаторыя з іх былі арыштаваныя 1 лютага, але ёсць і тыя, што трапілі за краты потым», — распавёў для «Reuters» прадстаўнік пенітэнцыярнага дэпартамента М’янмы Кьяў Тун Оо. І, відавочна, у бліжэйшы час іх колькасць можа толькі павялічыцца.

Былая Бірма мае застарэлы досвед ваенных дыктатур. Краіна атрымала незалежнасць у 1948-м. За гэтым прайшлі дзесяць турбулентных гадоў, пасля якіх ваенныя ўпершыню афіцыйна захапілі ўладу. Спачатку ненадоўга (1958-60). Потым правялі выбары, аднак дэмакратыя пратрымалася менш за два гады: у 1962-м генерал У Нэ Він здзейніў пераварот і кіраваў 26 гадоў. 12 з іх у краіне было ваеннае становішча.

У 1988-м народ падняўся на дэманстрацыі супраць ваенных пад кіраўніцтвам той самай Аун Сан Су Чжы — дачкі заснавальніка Бірмы ў сучасным выглядзе Ан Сана і лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі міру-1991. Генералы нарэшце дазволілі правесці выбары, лічачы, што людзі поўнасцю падтрымліваюць палітыку адзінай на той момант партыі. Але здарылася непрадугледжанае: Аун Сан Су Чжы атрымала разгромную перамогу. Ваенныя пачухалі патыліцу — і не пагадзіліся аддаваць уладу. Генералы засталіся кіраваць, а лідарка апазіцыі адправілася пад хатні арышт.

Хунта заставалася ва ўладзе яшчэ 22 гады — да 2011-га. За гэты час назва краіны змянілася на М’янму, але ўнутраныя змены былі мінімальнымі. Толькі ў XXI стагоддзі 53-мільённая дзяржава зноў павярнулася да хаця б адноснай дэмакратыі. Аднак і яна прастаяла нядоўга.

### Дэманстрацыя

Пратэсны настрой ахапіў усе слаі насельніцтва. Не сталі выключэннем і спартсмены, асабліва футбалісты і іх фанаты. Тым больш, што ўжо на другі месяц пратэстаў здарылася першая смерць спартсмена. Як распавяла англійская «The Guardian», капітан моладзевай каманды клуба «Хантхарвадзі Юнайтэд» (адна з вядучых дружын М’янмы) Чыт Бо Бо Ньеін быў застрэлены на вуліцы падчас пратэстаў. Гэта здарылася 27 сакавіка — у дзень, калі ў вулічных сутыкненнях сышлі з жыцця каля 150 грамадзянскіх.

21-гадовы хлопец, кумірам якога быў француз Поль Пагба, адправіўся на дэманстрацыю ў Інсэйн — адзін з раёнаў Янгона. У пэўны момант паліцыя адкрыла агонь. Ньеін быў паранены і памёр праз некалькі хвілін пасля таго, як яго прывезлі ў шпіталь.

У адрозненне ад Беларусі, не сталі маўчаць топавыя профі — гульцы нацыянальнай зборнай. Адразу некалькі самых дасведчаных футбалістаў адмовіліся выходзіць на поле ў камізэльцы нацыянальнай каманды, пакуль странай кіруе хунта.

Гулец алімпійскай зборнай Хэйн Хтэт Аун, які выступае ў Малайзіі за «Селангор», у матчы дубляў забіў гол і паказаў фірмовы жэст пратэстоўцаў з М’янмы — тры пальцы, узнятыя ўверх. Гэты жэст узяты з кінафраншызы «Галодныя гульні». Бо, як і Сойка-перасмешніца, людзі змагаюцца супраць прыгнёту і за правы чалавека.

Дэманстрацыя нязгоды з хунтай Хэйн Хтэт Ауну каштавала адну гульню дыскваліфікацыі за «палітычную агітацыю». Толькі ён не сумаваў: «Мяне пакаралі па футбольным кодэксе, але я зрабіў гэта па этычных матывах».

«Было б добра, каб гульцы нацыянальнай зборнай таксама рабілі гэты жэст падчас кваліфікацыйнага турніра чэмпіянату свету-2022», — выказаўся галкіпер М’янмы Кьяў Зін Хтэт. І больш спрыяльны момант для пратэсту сапраўды цяжка знайсці.



Праз пандэмію другі раўнд адбору на ЧС-2022 у Азіі праводзіўся цэнтралізавана: усе групы з’язджаліся ў адно месца і гулялі ўсе астатнія матчы за два тыдні. М’янма была ў кампаніі з Японіяй, Таджыкістанам, Кыргыстанам і Манголіяй. Усе сустрэчы прымала Краіна Узыходзячага Сонца. Але сабраць каманду аказалася не так проста.

Той самы 31-гадовы Кьяў Зін Хтэт — асноўны галкіпер зборнай — адмовіўся ехаць у Японію. І ён не адзін такі. Вядучы абаронца Заў Мінь Тунь і выбітныя форварды К’яў Ко Ко і Аун Тху (больш за 160 гульняў у нацыянальнай камандзе на траіх) таксама не паляцелі ў Токіа. Прычына адна: пратэст супраць хунты.

«Мы будзем гуляць толькі на вуліцы, пакуль не наступіць дэмакратыя. Пры дыктатуры рабіць гэтага не збіраемся», — выказаўся за ўсіх Кьяў Зін Хтэт у інтэрв’ю нямецкаму ТБ.

Федэрацыя футбола М’янмы агучыла пагрозу дыскваліфікаваць адказнікаў, але гэта не напалохала гульцоў. «У гэты час ёсць больш важныя рэчы, чым футбол… Але ў нас таксама ёсць адказнасць… І я спадзяюся, што людзі М’янмы нас благаславяць», — сказаў галоўны трэнер зборнай немец Антуан Хэй напярэдадні турніра.

Хэй да апошняга спрабаваў сабраць лепшую каманду. Нават адклаў на тыдзень вылет у Японію. Мацнейшых сабраць усё роўна не атрымалася. «Калі б усе адмовіліся гуляць, гэта было б моцна. Але маладым футбалістам зараз пагражаюць іх будучыняй, калі яны не стануць гуляць. Таму ім цяжка», — упэўнены Кьяў Зін Хтэт.

Здаецца, супраць дыктатуры — значная частка тамтэйшай спартыўнай тусоўкі. Нават м’янмарскія заўзятары англійскіх і іспанскіх клубаў — якія ў большасці азіяцкіх краін звычайна проста коцікі, а не нейкія «ультрас» — хутка пасля перавароту выйшлі на масавыя маніфестацыі. Фан-клубы «Ліверпуля», «Тотэнхэма», «Манчэсцер Сіці», «Барселоны» і іншых дружын маршам прайшліся па вуліцах Янгона і правялі дэманстрацыю ля брытанскай амбасады.

«Мы хочам сапраўднай дэмакратыі. Мы ўсе ідзём наперад і ўжо не будзем глядзець назад. Мы не можам факусіраваць увагу ані на гульнях, ані на працы. Жыць пад ваеннай хунтай — гэта вельмі балюча», — распавялі яны журналістам. Фанаты трымалі ў руках плакаты: «Не хачу дыктатуры, хачу толькі новых трафеяў для “Ман Юнайтэд”», «Мы лічылі, што ВАР — гэта жарт, але пераварот — гэта сапраўдны жарт». Да таго ж, футбол глядзець стала няма як: і ТБ, і Інтэрнэт ваенныя вырубілі.

### Капітуляцыя

Хунта паспрабавала надавіць на зорных пратэстоўцаў, пачаўшы кампанію супраць іх. Некаторыя селебрыці трапілі за краты. Быў афіцыйна складзены ліст «здраднікаў», які цыркуляваўся ў медыя з забаронай супрацоўнічаць з тымі, хто супраць генеральскай улады. Хунта і ад футбалістаў чакала пакоры і калі не перамог, то хаця б барацьбы ў Японіі. Але…

Матч з гаспадарамі (як і ўсе астатнія, без заўзятараў) на стадыёне ў Тыба адразу пайшоў не па плане. Каля 70 пратэстоўцаў прыйшлі да арэны і правялі акцыю ў падтрымку дэмакратыі ў М’янме. «Гэтая каманда не прадстаўляе наш народ. Мы не спрабуем пратэставаць супраць гульцоў. Мы проста хочам, каб яны перасталі супрацоўнічаць з ваеннай хунтай». «Гэта не наша каманда. Яны не хочуць гуляць, але на іх ціснуць», — так адказалі заўзятары перад стадыёнам на пытанні channelnewsasia.com.

Выкананне гімнаў прайшло без эксцэсаў, але, калі апарат з камерай праходзіў міма запасных, адзін з іх (галкіпер П’е Лян Аун) усё-ткі паказаў усяму свету тры пальцы. На іх па-англійскі было напісана: «We Need Justice» — «Нам патрэбная справядлівасць».

Ну а сама гульня паставіла шмат пытанняў. Ужо да перапынку «сінія самураі» забілі ў вароты «азіяцкіх ільвоў» чатыры галы. Пасля — яшчэ шэсць. Прычым усе яны былі праведзены са штрафной пляцоўкі пры неверагоднай абыякавасці да жыцця гасцей. Для параўнання: на пачатку адбору супернікі сустракаліся ў Янгоне. І там японцы выйгралі толькі 2:0. Ніхто так і не зразумеў, што гэта: італьянская забастоўка ці м’янмарскі ўзровень?

Антуану Хэю было цяжка схавацца на прэс-канферэнцыі. Мала таго, што лік проста ганебны, дык яшчэ і пытанні палітычныя. А як на іх адказваць? Што ні скажаш, хтосьці ды паб’е — ці генералы, ці пратэстоўцы… «Не ведаю нагоды, з якой людзі сабраліся ля стадыёна… Мы сканцэнтраваны на футболе, на нашай працы, на нашай камандзе, гульцах. Мы не займаем ніякай палітычнай пазіцыі»…

Добра не займаць палітычнай пазіцыі — але пазіцыю ў табліцы адборачнай групы «F» заняць усё-ткі давялося. І яна будзе вельмі нізкая, бо пасля 0:10 ад Японіі здарыліся яшчэ 1:8 ад кіргізаў і 0:4 ад таджыкаў.

Без падтрымкі ўсяго народа нічога асабліва не зробіш — ні футбол, ні дыктатуру.

# Французскі Кудзін

Сяргей КАЙКО

**З лёгкасцю трэніраванага спартсмена ён пераскочыў цераз парапет і апынуўся ў самым эпіцэнтры падзей — сярод мноства паплечнікаў і якраз насупраць апанентаў. Адразу ж высунуўся наперад і пайшоў у наступ. Удар, яшчэ ўдар, яшчэ — завучаныя рухі, доўгія рукі, сціснутыя ў кулакі. І агрэсіўная энергетыка, якая вызначыла вынік сутыкнення. Ашаломленыя, праціўнікі пачалі адыходзіць — ім не дапамагалі ні дручкі, ні шчыты, ні шлемы...**


Фота AFP

Калі вы злавілі флэшбэк і вырашылі, што справа была ў жніўні ў Маладзечне, а кулакамі працаваў баец-чэмпіён Аляксей Кудзін, то гэта не так. Справа была ў Парыжы 5 студзеня 2019-га, падчас чарговай пратэснай акцыі «жоўтых камізэлек».

У той дзень было вельмі горача, і кадры супрацьстаяння на мастку Леапольда Сердара Сенгора абышлі не толькі Францыю, сабраўшы мільёны праглядаў. Галоўным героем віруснага відэа стаў Крыстоф Дэцінгер — былы баксёр-цяжкавік, двухразовы чэмпіён Францыі з ростам пад два метры. Чалавек, якога раней ведалі толькі спартыўныя заўзятары і які назаўтра прачнуўся знакамітым. Прачнуўся, дарэчы, у сябе дома — не ў мясцовым парыжскім РУУС.

Але з Аляксеем Кудзіным у Крыстофа Дэцінгера сапраўды шмат агульнага. Таму мы і распавядзем яго гісторыю — у чымсьці вельмі паказальную для сённяшніх беларускіх рэалій.

### Хто такі баксёр Дэцінгер?

Як у амаль любога еўрапейскага баксёра, у Крыстофа Дэцінгера былі дзве спартыўныя кар'еры: адна аматарская, другая — прафесійная.

У аматарскай ён дарос да бронзы юніёрскага першынства Еўропы, медалёў чэмпіянату Францыі і розных міжнародных турніраў. Яго марай быў удзел у Алімпійскіх гульнях, і ён да гэтага ішоў цвёрдымі крокамі, бачачы перад сабой Афіны-2004. Аднак у Грэцыі ёсць усё, а гэтага хлопца яна не дачакалася. Праз канфлікт з чыноўнікамі федэрацыі Крыстоф патрапіў у няміласць і быў выключаны з алімпійскай каманды.

Пасля гэтага ён сышоў у прафесіяналы, дзе таксама нашмат часцей біў, чым бываў бітым. Усяго на прафесійным рынгу Дэцінгер правёў 23 баі, з якіх выйграў 18. Неблагая ўвогуле статыстыка, хаця зорку з неба ён так і не сарваў. Пік яго кар'еры — бой за тытул чэмпіёна свету паводле версіі WBC, які француз саступіў бельгійцу Ісмаілу Абдулу.

Ці мог ён дасягнуць большага? Напэўна, мог. Бо пачаў займацца боксам позна — у 15 гадоў, калі асноўныя навыкі байцы ўжо выпрацоўваюць. Затое ў юнацтве Крыстоф паспеў напрацаваць на грозную мянушку Цыган з Масі («цыган» — праз адпаведнае паходжанне, «Масі» — прыгарад Парыжа, дзе хлопец юнак трэніраваўся).

Ці мог ён зарабіць боксам на забяспечаную старасць? Цяжка сказаць, але ж не зарабіў — таму і пайшоў у 2014-м, пасля завяршэння кар'еры, працаваць у аўтадарожную кампанію. Там яму, прынамсі, выдалі тую самую жоўтую камізэльку.

Яна спатрэбіцца Крыстофу Дэцінгеру праз чатыры гады, калі ён, 37-гадовы экс-баксёр і бацька траіх дзяцей, далучыцца да самых масавых пратэстаў у навейшай французскай гісторыі.

### Што такое «Рух "жоўтых камізэлек"»?

Увосень 2018 года прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон заявіў аб намеры павысіць падатак на аўтамабільнае паліва. Зразумеўшы, што гэта аўтаматычна выкліча адпаведны рост цэн на бензін і дызель, грамадзянская супольнасць Пятай Рэспублікі прыкметна ўсхвалявалася.

Цэны на паліва — традыцыйна балючая тэма для французаў, таму не дзіўна, што неўзабаве афарміўся самадастатковы пратэсны рух. Яго характэрныя асаблівасці — дэцэнтралізацыя і адсутнасць лідараў, камунікацыя праз сеціва і сацсеткі, дарожная святлоадбівальная камізэлька ў якасці «ўніформы» ўдзельнікаў.

Масавыя пратэсты пачаліся тады ж — восенню 2018-га. У розных гарадах краіны ў іх бралі ўдзел агулам сотні тысяч людзей. Яны перакрывалі дарогі і развязкі, займалі цэнтральныя плошчы гарадоў. Пры гэтым маніфестацыі не былі суцэльна мірнымі і рэгулярна пераўтвараліся ў гвалтоўныя сутыкненні з паліцыяй. З аднаго боку былі камяні, барыкады, бутэлькі з лёгкаўзгаральнай вадкасцю, пагромы крам і падпалы аўтамабіляў, з другога — слезацечны газ, вадамёты і святлошумавыя гранаты. Забягаючы наперад, адзначым, што ў наступных судовых разбіральніцтвах крымінальныя пакаранні атрымлівалі як пратэстоўцы, так і паліцэйскія.

Патрабаванні маніфестантаў з цягам часу разрасліся. Цэны на паліва перасталі быць галоўным пунктам павесткі «камізэлек», да іх дадаліся пытанні падатковай палітыкі, заробкаў і пенсій, працаўладкавання і жылля, нелегальнай міграцыі і экалогіі, і нават выхаду з ЕС і НАТА.

Высакародныя памкненні, здавалася б, павінны былі аб'яднаць краіну супраць палітыкі Макрона, рэйтынг якога не надта высокі, але гвалтоўныя метады барацьбы прыйшліся не даспадобы значнай частцы грамадства. У выніку ўжо ў лютым 2019 «Рух "жоўтых камізэлек"» падтрымлівалі толькі 43 працэнты французаў, аднак важна, што на іх баку заставаліся даволі шырокія палітычныя кругі.

Так ці інакш, але свайго пратэстоўцы збольшага дамагліся. Па многіх сацыяльных праблемах урад пайшоў ім насустрач — і дзе адмяніў непапулярныя праекты, дзе замарозіў, а дзе адправіў на дапрацоўку.

За ўвесь час «камізэлькавых» пратэстаў, якія ў актыўнай фазе працягваліся каля чатырох месяцаў, загінулі 11 чалавек.


Фота thesportsman.com



Фота reuters

### Чым скончылася парыжская справа?

Бойка на мастку Леапольда Сердара Сенгора скончылася на карысць маніфестантаў. Ад рук і ног Крыстофа Дэцінгера 5 студзеня 2019 года пацярпелі два парыжскія жандармы. Гэта выдатна відаць на запісах, якія і сёння лёгка знайсці ў YouTube.

Ужо на наступны дзень гэтыя кадры смакавала ўся Францыя, і галоўны герой «блокбастара» вычарпальна разумеў, што ўчарашні паядынак не скончыўся з гукам фінальнага гонга — наадварот, усё толькі пачынаецца. За ім не прыехалі на «бусіках», яго кватэру не ўзялі штурмам людзі ў масках — на той момант яго нават у вышук ніхто не абвясціў. Баксёр сам згуляў на апераджэнне: запісаўшы відэа, якое у нас назвалі б «пакаяльным», ён выйшаў з хаты і накіраваўся ў бліжэйшы паліцэйскі пастарунак — здавацца.

Судзілі яго праз месяц. «Я хацеў прадухіліць адну несправядлівасць, але здзейсніў іншую», — не хаваў віны Крыстоф падчас працэсу. Ён меў на ўвазе перадгісторыю канфлікта — збіццё паліцэйскімі з дапамогай дручкоў маладога хлопца і жанчыны. Нібыта гэта ён убачыў на ўласныя вочы, раз'юшыўся і паўстаў на абарону безабаронных.

Ці тое суд прыняў да ўвагі такія шчымлівыя падрабязнасці, ці — што хутчэй — на Захадзе проста паважлівае стаўленне да чалавечай свабоды, але пакаранне спартсмен атрымаў гэткае, аб якім застаецца толькі марыць беларускім палітвязням. Бо ў нашых гуманістычных шыротах даюць калонію за надпісы на асфальце, пазбаўляюць волі за каментары ў Тэлеграме, а пад артыкул аб масавых беспарадках падводзяць простых выхад на праезную частку.

Абвінавачаны за збіццё жандармаў былы баксёр Крыстоф Дэцінгер атрымаў ад французскага суда 30 месяцаў арышту, прычым 18 з іх — умоўна. Што да астатніх 12, то і іх спартсмен напачатку адбываў амаль у курортным рэжыме: у «казённым» доме толькі начаваў, удзень жа, як звычайна, працаваў і баўў час з сям'ёй. Праз паўгода, пабачыўшы ўзорныя паводзіны асуджанага, з яго знялі і гэтыя абмежаванні. У сухім астатку засталася хіба што кампенсацыя пацярпелым — 2000 і 3000 еўра — тут ужо расплочвацца давялося без дысконту. Зрэшты, дапамагла французская салідарнасць: «камізэлькавая» супольнасць актыўна данаціла свайму герою — хапіла і на адвакатаў, і пакрыццё іншых выдаткаў.

### Як там Кудзін?

Беларус Аляксей Кудзін на адсутнасць падтрымкі наўрад ці наракае, але яго становішча нашмат больш цяжкае, чым у Крыстофа Дэцінгера. У жніўні ён таксама не стрымаўся — і ў адказ на гвалт сілавікоў у Маладзечне ўжыў «спецсродкі» з арсеналу чэмпіёна свету па змешаных адзінаборствах.

Далей вы мусіце ведаць — драматычную гісторыю байца і бацькі пяцярых дзяцей мы ўжо распавядалі. Арышт, збіццё, раптоўнае вызваленне да суда, уцёкі ў Расію... Потым зноў арышт — ужо ў Маскве — і пытанне аб экстрадыцыі, якое вісіць амаль паўгода. Усе гэтыя месяцы Аляксей знаходзіцца ў расійскай турме ў поўным няведанні ўласнай будучыні.

Калі Кудзін паўстане перад судом на радзіме, на ўмоўны тэрмін разлічваць не даводзіцца. Беларусь не Францыя, дзе нават за аплявуху самому прэзідэнту Макрону аднаму нястрыманаму мусью нядаўна далі ўсяго толькі чатыры месяцы зняволення. Беларусь — гэта канвеер, які працуе ўжо колькі месяцаў і крышыць чалавечыя лёсы. 36-гадоваму заслужанаму майстру спорта пагражае да пяці гадоў турмы, і з улікам абставін — уцёкаў і цяжкай рукі, якой ён контратакаваў сілавікоў, — айчынная Феміда наўрад ці пасквапіцца на пакацельна жорсткі прысуд.

Пытанне аб экстрадыцыі расійскі бок будзе вырашаць ужо сёння. Аб гэтым у сацсетках паведаміла Таццяна Кудзіна — жонка вязня. Дадаўшы, што яе муж-чэмпіён трымаецца бадзёра, актыўна трэніруецца за кратамі і спадзяецца на лепшае.


Фота twitter.com

# Толькі бізнес.

## Без Марыны Граноўскай «Чэлсі» не выйграў бы гэтую Лігу чэмпіёнаў

Кірыл ІВАНЧУК

**З Граноўскай у Абрамовіча самыя доўгія і трывалыя адносіны. Яе дзелавыя якасці ён высока ацаніў яшчэ ў часы «Сібнафты», а пасля запрасіў з сабой у Лондан. З 2013-га яна ўступіла на пасаду дырэктара клуба і з тых часоў не раз трапляла ў розныя рэйтынгі самых уплывовых жанчын у свеце футбола**

**Прайшло паўмесяца, а жыць з думкай, што пераможца Лігі чэмпіёнаў-2020/21 «Чэлсі» ўсё яшчэ нязвыкла.**

У плэй-оф з «арыстакратамі» развіталіся ледзь не перад кожным раўндам. «Атлетыка»? Ды мадрыдцы, вымуштраваныя вялікім Дыега Сімеоне, нават да штрафной не падпусціць гэтую лонданскую каманду-развалюху... «Порту»? Пашанцавала з лёсаваннем, хоць хай яшчэ пройдуць партугальцаў, якія выбілі «Ювентус» з Раналду... «Рэал»? Ну тут дакладна брытанская песенька захлынецца — Зідан на такіх стадыях разбіраецца з супернікамі па-каралеўску і бярэ трафей. Яшчэ і Бензема у д'ябальскай форме... «Манчэстэр Сіці»? Вось казцы і канец: у ідэальнага Гвардыёлы ідэальная каманда, якая праводзіць ідэальны сезон, з MVP года дэ Брэйнэ наперавес. Ужо лепш бы ў фінал выйшаў «Рэал», можа, навязаў бы хоць нейкую барацьбу...

Хто мог выказаць здагадку, што «Сіці» на 90 хвілін без асаблівых перспектыў уткнецца ў шматузроўневую абарону «Чэлсі», а разумнік дэ Брэйнэ атрымае не прызнанне, а ў вока ад Рудзігера, і з гематомай пакіне поле пасля гадзіны гульні? Зрэшты, ключавым гэты эпізод ніяк не стаў: у якасці даганяючых «манчэстэрцы» аказаліся яшчэ пры бельгійцы, аднак не змаглі прыдумаць сіметрычнага адказу ні з ім, ні без яго. «Чэлсі» перайграў «Ман Сіці», Кантэ — усю групу атакі «гараджан», Тухель — Гвардыёлу.

Для Кантэ фінал Лігі чэмпіёнаў у прынцыпе стаў яркай кропкай магутнай другой паловы сезона. Каб было зразумела, наколькі менавіта: апорніка, які не забівае і нічога не стварае наперадзе, сур'ёзна абмяркоўваюць як прэтэндэнта на «Залаты мяч»: апошні раз гулец, арыентаваны на абарону, атрымліваў «ЗМ» у далёкім 2006-м — Фабія Канавара за перамогу на чэмпіянаце свету. Здзівіцца тады абсалютна ўсе, нават сам Канавара. Калі Кантэ далёка пройдзе са зборнай Францыі на чэмпіянаце Еўропы, то цалкам можа паўтарыць поспех італьянца.

Але галоўным творцам лонданскага трыумфу, вядома, лічыцца Тухель. Немец прыняў патрапаную каманду ў сярэдзіне сезона, падняў яе ў самым канкурэнтным еўрапейскім чэмпіянаце з дзявятага месца на трэцяе і прынёс перамогу ў Лізе чэмпіёнаў. А заадно, што для лонданскіх заўзятараў асабліва прыемна, выбіў «Манчэстэр Сіці» не толькі ў фінале ЛЧ, але і ў паўфінале Кубка Англіі. Пара росчыркаў — і Тухель сапсаваў «гараджанам» увесь год. Нават пераканаўчая перамога ў Прэм'ер-лізе перастала радаваць, а ўладальнік клуба Шэйх Мансур публічна заявіў, што сезонам не задаволены.

**Распавядаюць, за сталом перамоў яна непахісная. На першым часе гэта асабліва збівала з панталыку футбольных агентаў, якія спачатку паціралі рукі, даведаўшыся, што трэба мець справу з жанчынай, а затым пакутавалі**

Што тут дадаць, Тухель бліскучы. Тым не менш, ёсць на «Стэмфард Брыдж» чалавек, чыя роля аказалася яшчэ важнейшай. Ён не выходзіў на поле, не кіраваў камандай з тэхнічнай зоны і не размаўляў на прэс-канферэнцыях. Справа ў тым, што дырэктар клуба Марына Граноўская ў прынцыпе пазбягае публічнасці — нават яе фотаздымкаў у інтэрнэце напералік (у асноўным, як яна падпісвае кантракты з гульцамі). Аднак менавіта ёй як сабе давярае Раман Абрамовіч, і менавіта яна сабрала па частках гэты трыумфальны «Чэлсі».

### «Граноўская гаворыць усім, што рабіць, — і яны гэта робяць»

Усяго адзін штрых: без Граноўскай Тухеля ў «Чэлсі» магло не здарыцца. Калі ў Лэмпарда справы разладзіліся, паўстала пытанне, як быць. З аднаго боку, у «Чэлсі» з трэнерамі ніколі не цырымоніліся. З іншага, усё-ткі Лэмпард — легенда клуба. Да таго ж, ён прыняў каманду ў няпросты час, удала інтэграваў у склад лонданскую моладзь і выдаў выдатны папярэдні год. Асаблівага вонкавага ціску на клуб не было: амаль усе сыходзіліся, што трэнер заслужыў права дагуляць сезон, а там ужо можна падумаць. У распранальні не ўсё было гладка, аднак большасць гульцоў усё ж стаяла за Лэмпарда. Асабліва, тая самая моладзь.

Але кіраўніцтва «Чэлсі» ніколі не лічылася са знешнімі фактарамі, і ў студзені з Лэмпардам развіталіся — прычым пасля пераможнага кубкавага матча з «Лутонам». Трэнера наўрад ці выратавала б нават серыя перамог, бо Граноўская пачала пошук новага рулявога яшчэ ў снежні. Калі на рынку з'явіўся Тухель, яна зрэагавала вокамгненна і без усялякіх сантыментаў.

Цяжка сказаць, наколькі добра Граноўская разбіраецца ў футболе. Яна не дае інтэрв'ю, не ходзіць на ток-шоу, ніяк не выяўляе сябе публічна. Усё, што пра яе вядома, — скупыя характарыстыкі брытанскіх журналістаў са спасылкамі на інсайдараў. «Мае велізарную ўладу ў «Чэлсі», умее весці справы, жорсткая ў перамовах»... Калі ў 2014-м зайшло ў тупік абмеркаванне новага кантракта легенды клуба Тэры, Граноўская выпаліла нешта накшталт «Падпісвай або вымятайся!». Тэры падпісаў.

Затое дакладна можна сказаць, што рэдка памыляецца ў людзях уладальнік «Чэлсі» Раман Абрамовіч. Сам мільярдэр футбол больш любіць, чым кеміць у ім, таму заўсёды акружаў сябе прафесіяналамі, чыя парада каштуе дорага. Пры куплі лонданскага клуба Абрамовіч, па-першае, перавабіў у Лондан тагачаснага гендырэктара «Манчэстар Юнайтэд» Пітэра Кеньёна, а па-другое — зрабіў сваім дарадцам Піта дэ Фісера, аднаго з лепшых скаўтаў свету, які працаваў раней з галандскім ПСВ. Пазней прыслухоўваўся да Хідзінка, Гранта...

З Граноўскай у Абрамовіча самыя доўгія і трывалыя адносіны. Яе дзелавыя якасці ён высока ацаніў яшчэ ў часы «Сібнафты», а пасля продажу кампаніі запрасіў з сабой у Лондан. Спачатку статус Граноўскай у «Чэлсі» быў не зразумелы, аднак з 2010 года яна пачала наведваць пасяджэнні савета дырэктараў, а з 2013-га ўступіла на пасаду дырэктара клуба і з тых часоў не раз трапляла ў розныя рэйтынгі самых уплывовых жанчын у свеце футбола.

«Палітыка "Чэлсі" простая: Граноўская гаворыць усім, што рабіць, — і яны гэта робяць», — напісаў калумніст «TheTelegraph» Сэм Уоллес. Абрамовіч, мяркуючы па ўсім, такім становішчам спраў цалкам задаволены.

Тым больш вынікі «Чэлсі» за апошнія дзесяць гадоў кажуць, што гэтая жанчына — не проста дэспатычны пратэжэ ўладальніка клуба, а паспяховы менеджар. Тры чэмпіёнствы, тры Кубкі Англіі, Кубак Лігі, дзве перамогі ў Лізе чэмпіёнаў і Лізе Еўропы. Хто яшчэ можа пахваліцца супастаўнымі дасягненнямі на гэтым адрэзку?..

### «Абрамовіч — гэта грошы, Граноўская — уменне распарадзіцца імі»

Марына Граноўская прызначана бачыць у «Чэлсі» бізнес-праект, з гэтых пазіцый і вядзе справы. Гучыць пацешна ў дачыненні да аднаго з самых багатых клубаў свету, які нават у цяперашнія няпростыя часы можа сабе дазволіць за адно лета выкласці 200 мільёнаў еўра на трансферы. Але «арыстакраты» дзякуючы цвёрдасці дырэктара і расстаюцца з актывамі больш эфектыўна за іншых.

Продаж Азара у «Рэал» проста скалануў футбольны свет. У паўабаронцы заставаўся ўсяго год кантракту з «сінімі», гулец усімі фібрамі душы хацеў у Мадрыд, «Чэлсі» і сам планаваў пазбавіцца бельгійца, каб той не сышоў у выніку бясплатна... Граноўская з такой жудаснай дыспазіцыяй выціснула з «Рэала» 89 млн. еўра (з бонусамі сума вырасла да 150 млн.)!

Яшчэ адзін класічны прыклад — расстанне з Сары. Па ўсім выходзіла, што «Чэлсі» давядзецца выплаціць непажаданаму трэнеру велізарную кампенсацыю. Аднак Граноўская прымудрылася дамовіцца аб пераходзе трэнера ў «Ювентус», прычым яшчэ і выбіла з турынцаў каля 4 млн. еўра. У выніку лонданцы аказаліся яшчэ і ў плюсе. Кажуць, пазбаўляцца баласту — «канёк» цяперашняга дырэктара «Чэлсі».

Тыя, хто скептычна ставяцца да гэтага менеджара ў спадніцы, могуць парыраваць, што Сара — выключэнне з правіл. А праўда багатага жыцця ў тым, што «Чэлсі» за 18 гадоў пры Абрамовічы толькі трэнерам сумарна заплаціў страхавыя 112 млн. еўра няўстойкі. Мурыню (у два заходы) — больш за 30 млн., Контэ — больш за 26 млн., Скалары, Вілашу-Боашу і Дзі Матэа — больш за 10 млн... Пра якую эфектыўнасць наогул ідзе гаворка? Ну, і лёгка траціць, калі за спінай — невычэрпная крыніца ў асобе Абрамовіча. Захацелі Хаверца — выклалі без цяжкіх дум 80 млн. еўра. Так любы зможа.

Тым не менш, з 2013 года, калі Граноўская афіцыйна заняла пасаду, ніхто ў Прэм'ер-лізе і блізка не атрымлівае такіх даходаў ад продажу гульцоў, як«Чэлсі». «Сінія» выручылі больш за паўмільярда еўра! На гэтым адрэзку ў «Ліверпуля», які ідзе другім, амаль на 150 млн. менш. Акрамя таго, Граноўская змагла заключыць некалькі вельмі буйных кантрактаў са спонсарамі, уключаючы рэкордную здзелку з «Nike» на 900 млн. еўра за 15 гадоў.

Распавядаюць, за сталом перамоў яна непахісная, «жалезная лэдзі». На першым часе гэта асабліва збівала з панталыку футбольных агентаў, якія спачатку паціралі рукі, даведаўшыся, што трэба мець справу з жанчынай, а затым пакутавалі, спрабуючы выціснуць з Граноўскай хоць бы сімвалічна больш, чым яна была гатовая даць на старце.

Абрамовіч атрымлівае задавальненне ад валодання футбольным клубам, Граноўская вядзе бізнес. Нават цікава, наколькі цяжка зімой ёй далося рашэнне аб расставанні з Лэмпардам? Ці вагалася яна? Наўрад ці. Бо, калі адкінуць лірыку, нічога больш натуральнага і здарыцца не магло. Лэмпард — горшы трэнер «Чэлсі» па сярэдняй колькасці набраных ачкоў у Прэм'ер-лізе (1,67 бала за гульню — менш пры Абрамовічы не набіраў ніхто). На рынку аказаўся выдатны трэнер, які летась даводзіў сваю каманду да фіналу Лігі чэмпіёнаў.

Што было далей, вы ўжо ў курсе.

«ЧЭЛСІ»: ШЛЯХ ДА ТРАФЕЯ

Групавы раўнд
«Севілья» — 0:0, 4:0
«Краснадар» — 4:0, 1:1
«Рэн» — 3:0, 2:1

Плэй-оф
«Атлетыка» — 1:0, 2:0
«Порту» — 2:0, 0:1
«Рэал» — 1:1, 2:0
«Манчэстэр Сіці» — 1:0

# «Нас выціснулі з прафесіі»

**Траўматолаг-артапед Рустам Айзатулін разважае на «Радыё Свабода» пра чорныя спісы дактароў, выцясненне спецыялістаў з прафесіі, надзвычайны бюракратызм сістэмы аховы здароўя і эміграцыю выдатных спецыялістаў.**



Фота Радыё Свабода

### «Гэта была кропкавая помста за актыўную пазіцыю»

Рустам Айзатулін — унікальны адмысловец, траўматолаг-артапед, які кансультуе дзяцей з нейрацягліцавымі ды іншымі рэдкімі захворваннямі. Адпрацаваў 12 гадоў у РНПЦ траўматалогіі і артапедыі, а ў снежні 2020 года з ім не прадоўжылі кантракт. Фактычна, як ён лічыць, за пасты ў фэйсбуку.

«Калегі з РНПЦ сабралі больш за сотню подпісаў у маю падтрымку, ліст падпісалі і загадчыкі аддзяленняў, і медсёстры — мне было вельмі прыемна. Але ўсім было сказана, што калі гэты ліст трапіць у міністэрства ды яшчэ куды-небудзь, то лёгкага жыцця не чакайце.

Гэта была кропкавая помста за актыўную пазіцыю. Я гаварыў пра гэта яшчэ шмат месяцаў таму, калі толькі пачаліся першыя звальненні медыкаў. Ніхто не верыў, усе прапускалі гэта міма вушэй, а я казаў: «Вы дачакаецеся, што пачнуць з вярхоў, а потым дойдуць і да нізоў. Будзе кропкавая помста, абсалютна нелагічная, як у дзіцячай пясочніцы: “Ты мне не даў гаршчочак, дык я цябе абсыплю пясочкам”. Тое, што ў нас робіцца, — гэта ўпіванне сваёй беспакаранасцю, сваёй уладай. Ні да чаго добрага гэта не давядзе», — перакананы Рустам Айзатулін.

Праз 3 месяцы пасля звальнення з РНПЦ траўматалогіі і артапедыі Рустам убачыў, што там ёсць вакансія ў кансультацыйным аддзяленні, дзе заўсёды бракуе спецыялістаў. Аднак яго туды не ўзялі, хоць у вакансіі было пазначана патрабаванне: досвед працы, не меншы за адзін год.

### «Усе мы ведаем пра спісы дактароў, якіх нельга браць на працу»

Не пабаяўся ўзяць Айзатуліна на працу толькі галоўны доктар 3-й дзіцячай лякарні Максім Ачарэтні. Але ў канцы красавіка звольнілі і Ачарэтняга. Рустам Айзатулін у той жа дзень сышоў на знак салідарнасці з галоўным доктарам і сябрам.

«Мы ведаем толькі пра рэзанансныя справы са звальненнем. Але ў той дзень у красавіку, калі звальнялі галоўнага доктара 3-й дзіцячай лякарні Максіма Ачарэтняга, звольнілі яшчэ як мінімум 5 галоўных дактароў з іншых медычных устаноў.

Адзін з апошніх прыкладаў — загадчык аддзялення вострай траўмы РНПЦ траўматалогіі і артапедыі Сяргей Худніцкі — залаты чалавек, цудоўны адмысловец і кіраўнік. У адзін дзень ён страціў працу і быў выстаўлены са сваімі скрынямі з рэчамі за межы РНПЦ траўматалогіі.

Я не магу дакладна сказаць, хто на каго цісне, але адзін чалавек такіх пытанняў не вырашае, гэта сумесная праца ў запалохванні, у прымусе звальняць», — разважае Рустам Айзатулін.

Ён дапускае, што, магчыма, мог бы ўладкавацца ў якую-небудзь раённую паліклініку шараговым траўматолагам-артапедам, каб праводзіць прафілактычныя агляды.

«Але гэта не тая “праца мары”, да якой я ішоў доўгі час. Уладкавацца ў іншыя шпіталі ці РНПЦ я наўрад ці змагу, дзверы мне туды зачыненыя. Усе мы ведаем пра спісы дактароў, якіх нельга браць на працу. Нас, па сутнасці, выціснулі з прафесіі. Падстаўляць нейкія прыватныя медычныя цэнтры мне таксама не хочацца.

Таму я цяпер працаўладкаваны не як доктар, а як спецыяліст у адаптыўным фітнесе ў адным з цэнтраў».

### «Страцілі дзяцей, бо не паспелі сабраць грошы»

Доктар Айзатулін даўно працуе з пацыенцкімі дабрачыннымі арганізацыямі: кансультуе неданошаных дзетак, дзяцей з рэдкімі генетычнымі і нейрацягліцавымі захворваннямі па ўсёй краіне.

«“Геном”, “РАНА”, “Я РЕТТкая” — я працягваю кансультаваць дзетак, прыязджаю да іх. Гэта сем’і са спінальна-цягліцавай дыстрафіяй, з дыстрафіямі Дзюшэна і Бекера — бацькі з дзеткамі да мяне прыязджаюць, ці я з прадстаўнікамі “Геному” і шэрагам іншых кансультантаў едзем да іх дадому», — расказвае доктар.

> **«Дзіцячыя апараты штучнага дыхання падключаныя да звычайнага падаўжальніка, якія падключаны да яшчэ аднаго падаўжальніка, а той — да разеткі. І гэта ў сталічным дзіцячым шпіталі!»**

Ён абураецца бюракратыяй у сістэме аховы здароўя. Бо ў Беларусі дагэтуль не зарэгістраваны ніводзін з ухваленых прэпаратаў для лячэння цяжкага геннага захворвання — спінальнай цягліцавай атрафіі (СМА). Адна ін’екцыя швейцарскага прэпарату залгенсма (Zolgensma) каштуе 2 мільёны 125 тысяч долараў. Гадавы курс амерыканскай спінразы (Spinraza) — 750 тысяч долараў. Сем’і з хворымі дзеткамі абвяшчалі збор сродкаў і з’язджалі для правядзення лячэння ў іншыя краіны — ЗША, Ізраіль, Італію, Польшчу, Расію.

Вельмі працяглы час фармакалагічныя кампаніі, якія маглі б адкрыць дабрачынныя зборы і праграмы ранняга доступу да прэпаратаў, неабходных дзецям з цяжкімі парушэннямі, спрабуюць легалізавацца на тэрыторыі Беларусі. Ім адмаўляюць: нібыта дакументы, якія яны падаюць, не адпавядаюць нарматыўна-прававым актам беларускага Міністэрства аховы здароўя.

«Адна сур’ёзная замежная фармкампанія прапаноўвала пастаўляць на тэрыторыю Беларусі гэтыя дарагія прэпараты — пры пэўных умовах, якія дазвалялі б ім легалізавацца тут. Адзін прыклад: палякам яны прапанавалі тое ж самае, палякі падлічылі, што ім гэта фінансава выгадна. Чым бацькі будуць закупляць прэпараты за мяжой паасобку, прасцей купіць адну вялікую партыю, даць магчымасць легалізавацца гэтай кампаніі на сваёй тэрыторыі і далей купляць прэпараты са зніжкамі. Гэта фінансава выгадна, і гэта рэальная дапамога людзям. У нас такое “не пракаціла”.

Дзеткі са спінальна-цягліцавай атрафіяй паміраюць вельмі рана і хутка. Летась некалькі сем’яў страцілі дзяцей менавіта ад таго, што не паспелі знайсці магчымасць і грошы да таго, як дзіцяці споўніцца 2 гады — там вельмі важны час, дарагая кожная хвіліна», — кажа доктар.

Пацыенцкая арганізацыя «Геном» распрацавала інструкцыю для бацькоў, як легалізавацца ў Польшчы, працаўладкавацца і атрымаць бясплатна выратавальныя ўколы.

Пачынаючы са снежня 2020 года, чацвярым беларускім дзеткам увялі дарагія прэпараты ў РНПЦ «Маці і дзіця». Але не за кошт дзяржавы. Трое з іх выйгралі залгенсму ў латарэю, чацвёртай дзяўчынцы, якая ўжо не мела часу чакаць, дапамагло прадпрыемства «Савушкин продукт», аказала спонсарскую дапамогу амаль на 1,5 мільёна долараў.

«І цяпер, як бы Мінздароўя не дэкларавала, што дзеці са спінальна-цягліцавай атрафіяй атрымліваюць дарагія прэпараты залгенсму і спінразу дзякуючы Мінздароўю — гэта абсалютная хлусня. Насамрэч, дзякуючы толькі працы дабрачыннай арганізацыі “Геном”, дзякуючы асобам, якія працуюць з гэтымі дзеткамі, дзякуючы тым перамовам, якія шмат гадоў вяліся з фармкампаніямі, некалькі дзяцей атрымалі гэтыя ўколы ў Беларусі. Мінздароўя адыграла ролю пасярэдніка, прычым дастаткова нелагічнага. Гэта не мая галаслоўная заява. Любая сям’я, дзе ёсць дзіця з нейрацягліцавым захворваннем, вам гэта пацвердзіць».

### «Падвоху можна чакаць у любы момант»

На думку Рустама Айзатуліна, які шмат кантактуе з цяжка хворымі дзеткамі, што пакутуюць на генетычныя нейрацягліцавыя хваробы, у Беларусі ўвогуле няма сістэмы нармальнай рэабілітацыі.

«Усе, хто мае магчымасць, едуць на рэабілітацыю альбо ў Чэхію, альбо ў Польшчу, альбо ў Літву. Што да артэзавання, пратэзавання — таксама ўсе, хто можа, праз фонды з’язджаюць і вырабляюць артэзы, гарсэты, пратэзы за межамі Беларусі».

Ён расказаў, як 2 гады таму ездзіў у Польшчу на канферэнцыю і пазнаёміўся там з італьянскімі пратэзістамі і артэзістамі, якія займаюцца дзіцячай рэабілітацыяй.

«Мы з імі дамовіліся, калі будзе такая магчымасць, адкрыць філіял у Рэспубліцы Беларусь. Яны гатовыя былі прадаставіць усё абсталяванне, усе матэрыялы, прыслаць сваіх адмыслоўцаў, каб тыя навучылі нашых спецыялістаў. Нельга сказаць, што гэта дапамога была зусім бясплатная, пэўныя ўкладанні былі патрэбныя, але калі вытворчасць такога маштабу пачынаць з нуля, гэта каштавала б вельмі і вельмі вялікіх грошай. Італьянцы збольшага прапаноўвалі спонсарскую дапамогу.

З аднаго боку, справа нібыта пачалася, але ўсё ўпёрлася ў нарматыўныя, прававыя праблемы, у легалізацыю гэтай вытворчасці ў Беларусі — наша бюракратычная сістэма пабудаваная такім чынам, што нейкага падвоху можна чакаць адусюль у любы момант. І калі мы паказалі італьянцам усе дакументы, якія трэба было запоўніць, расказалі ўсе ўмовы, якія трэба было выканаць, яны сказалі: “Прабачце”.

І літаральна праз некалькі месяцаў яны адкрылі такі філіял у Польшчы. Гэта сведчыць пра бюракратызм нашага міністэрства. Італьянцы цяпер цудоўна працуюць у Польшчы. Нашы дзеткі вымушаны ехаць у Польшчу, дзе за 3–4 дні ім вырабляюць высокатэхналагічныя артапедычныя прылады. А гэтыя грошы маглі б заставацца ў краіне», — разважае доктар Айзатулін.

### «Каб запісацца на прыём да вузкага спецыяліста, трэба прайсці квэст»

«Паспрабуйце ў любой сталічнай паліклініцы запісацца на прыём да вузкага спецыяліста — лагапеда, дэфектолага, эндакрынолага, гематолага: трэба прайсці квэст і “кругі пекла”, усё гэта расцягнецца як мінімум на некалькі тыдняў, а то і некалькі месяцаў. Узяць маю спецыяльнасць: паспрабуйце запісацца ў кансультацыйны аддзел РНПЦ траўматалогіі — у лепшым выпадку праз месяц вы туды трапіце.

У мяне нядаўна была на прыёме жанчына з Брэсцкай вобласці, якая расказала, што некалькі сем’яў з дзецьмі прыехалі ў Мінск, знялі на тыдзень жытло і правялі прафілактычны агляд дзяцей: неўролаг, педыятр, хірург, афтальмолаг, ЛОР, бо ў раённай лякарні спецыялістаў не засталося. Ды няма ніякай аптымізацыі, гэта сваволя».

Трапіўшы ў адну з найлепшых дзіцячых рэанімацый Мінску, Рустам атрымаў шок. А ў рэгіёнах ва ўстановах аховы здароўя наагул «постапакаліпсіс», як выказаўся Айзатулін.

«Я пабачыў, што дзіцячыя апараты штучнага дыхання падключаныя да звычайнага падаўжальніка, які падключаны да яшчэ аднаго падаўжальніка, а той ужо падключаны да разеткі. І гэта ў сталічным дзіцячым шпіталі! Вось у гэтым сутнасць нашай сістэмы аховы здароўя.

Я не кажу ўжо пра рэгіёны — там постапакаліпсіс у медыцыне. Я неяк папрасіў сваіх калег, каб яны прысылалі відэа, фота медычных установаў, у якіх яны працуюць. Я атрымаў вялікую колькасць фота той разрухі, якая пануе ў раённых паліклініках і шпіталях: выбітыя дзверы, цвіль, абшарпаныя сцены, абарваныя драты на апаратах, жудасны стан аперацыйных», — апавядае доктар.

### «З’ехаць штосьці спыняе»

Рустам Айзатулін кажа, што некаторыя ягоныя калегі, з якімі сябруе яшчэ са студэнцтва, збіраюць чамаданы.

«У іх з 1 ліпеня заключаны кантракт з адной з прыватных клінік Польшчы. Гэта 5 сям’яў, 5 лекарак з мужамі і дзецьмі, як мінімум 15 чалавек. Усе яны з’едуць і будуць прыносіць карысць сістэме аховы здароўя іншай краіны. Гэта толькі з майго вузкага кола. Раней з’ехалі мае блізкія сябры: класны рэаніматолаг-анестэзіёлаг Максім Ачарэтні ў Адэсу, эндаскапістка і гастраэнтэролаг Лідзія Тарасенка — у Кіеў», — кажа Рустам.

На пытанне, ці збіраецца Айзатулін з’язджаць, прамога адказу доктар не дае.

«Думкі былі і ёсць. У Расію мне не вельмі хочацца, хоць было запрашэнне адной з вялікіх клінік. Была прапанова з Францыі адразу ж пасля майго першага звальнення, гатовы былі мяне ўзяць, але мова — асноўны бар’ер. Разглядаю варыянты Польшчы альбо Чэхіі. У адной з польскіх клінік у мяне была гутарка, пакуль я вырашаю», — кажа Рустам.

І дадае: «Пакуль тут я не бачу магчымасцяў для сваёй рэалізацыі. Возьмем сацыяльную абароненасць і дабрабыт маіх дзяцей. Хаця б дзеля гэтага, таму што мае бацькі не здолелі забяспечыць гэта сваім дзецям. Напэўна, лепш з’ехаць дзеля таго, каб маім дзецям было добра. Нават на школу самому сабе... Дакументы падрыхтаваныя, з візай праблем не будзе, але штосьці спыняе», — кажа Рустам.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. У музея РСДРП будзе канкурэнт?

У Казахстане не на жарт зацікавіліся феноменам дома-музея РСДРП у Мінску, які да эпідэміі COVID-19 быў для кітайцаў цікавым турыстычным аб'ектам.

Каб паўтарыць поспех беларусаў, прапанавана стварыць у Казахстане свой аб'ект «чырвонага турызму». Ім, на думку аўтараў ідэі, можа стаць гасцініца «Джэтысу» ў Алматы. Менавіта тут у 1928–1929 гадах жыў адзін з аўтараў савецкай дзяржавы Леў Троцкі, якога яго праціўнік Сталін саслаў у Казахстан. Трэба сказаць, што жыў Троцкі ў Алматы нядрэнна. Яму як паляўнічаму нават даслалі з Масквы яго сабаку Маю. Троцкі таксама любіў гуляць у парку, які насіў яго імя. Акрамя гэтага Леў Давыдавіч вёў актыўнае ліставанне з прыхільнікамі ў партыі, што ў выніку і абурыла Сталіна. 20 студзеня 1929 года была афармленая пастанова аб высылцы Троцкага за антысавецкую дзейнасць за межы СССР.

На думку казахаў, імя легендарнага Троцкага абавязкова прывядзе ў Алматы багата кітайскіх турыстаў, якім у Казахстан ехаць значна прасцей, чым у далёкі Мінск.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Ніякіх кампенсацый за каланіялізм

Парламентарыі нямецкай правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) выступілі супраць пераацэнкі каланіяльнай палітыкі імперскай Германіі.

Як вядома, у часы Кайзера немцы спрабавалі стварыць сваю каланіяльную сістэму. Пры гэтым найбольш брутальна яны паводзілі сябе ў Намібіі, дзе знішчылі цэлае племя герэра. Праз сто гадоў Берлін пагадзіўся афіцыйна папрасіць прабачэння за злачынствы, якія прызнаў генацыдам, а таксама выплаціць Намібіі суму кампенсацый ў памеры 1,1 мільярда еўра. Такім чынам Германія, як лічыць урад Меркель, як бы канчаткова загладзіць сваю віну перад афрыканцамі. Аднак правыя папулісты так не лічаць. На іх думку, за кошт спекуляцый на азначэнні «генацыд» намібійцы абавязкова будуць патрабаваць ад Берліна ўсё новыя і новыя выплаты.

Сапраўды, некаторыя плямёны Намібіі заявілі, што згаданай вышэй сумы недастаткова, і запатрабавалі ад Германіі дадатковых кампенсацый. Зрэшты, пакуль канкрэтнай сумы не агучвалася.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Новая скрэпа



З вялікім размахам 12 чэрвеня Расія сустрэла 800-годдзе князя Аляксандра Неўскага. Мерапрыемствы ў гонар князя прайшлі ва ўсіх рэгіёнах краіны ў розных фарматах: хросны ход, публічныя паказы фільма «Аляксандр Неўскі», адкрыццё музея з тэхналогіяй поўнага пагружэння ў эпоху Неўскай бітвы і Лядовага пабоішча і гэтак далей. Урок гісторыі пра ролю Неўскага адбыўся нават у бібліятэцы Грознага.

Усё гэта, на думку экспертаў, кажа пра новую фазу барацьбы за гістарычную памяць расіян. Увекавечанне памяці князя спрабуюць зрабіць агульнадзяржаўным трэндам па ўсёй краіне. Постаць Неўскага, як, напэўна, мяркуюць у Крамлі, — дастаткова нейтральная, і можа дапамагчы кансалідацыі грамадства.

З іншага боку, асоба князя — вельмі неадназначная. Прыклад таму — правал нядаўняй спробы ўсталяваць помнік Неўскаму на Лубянскай плошчы ў Маскве па просьбах насельніцтва. Патрэбную для пачатку ўзвядзення помніку колькасць галасоў не атрымалася накруціць нават з улікам электроннага галасавання. Таму пытанне, ці стане Неўскі новай скрэпай, застаецца спрэчным.

**Паводле расійскай прэсы**

### САЛЬВАДОР. Біткойн як нацыянальная валюта

Сальвадор стане першай краінай у свеце, дзе біткойн будзе законным плацежным сродкам. Адпаведную прапанову зацвердзіў мясцовы парламент. Згодна з ім, праз 90 дзён усе камерцыйныя агенты ў краіне павінны будуць прымаць біткойн нароўні з амерыканскім доларам.

Між тым, не выключаюць сюрпрызаў. Мясцовае насельніцтва досыць беднае, і большасць людзей (прыкладна 70 працэнтаў) наогул не маюць рахункаў у банках. Хіба што біткойны будуць карыснымі для тых сальвадорцаў, хто працуе ў ЗША і пераводзіць адтуль грошы на радзіму. Аднак з-за вялікай валацільнасці крыптавалюты і слабога ўяўлення пра тое, што гэта такое, многія пабаяцца з ёй звязвацца.

Між тым, катэгарычнае патрабаванне прымаць біткойны ў якасці грашовага сродку стварае глебу для маштабных махінацый.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.footballhd.ru

# «Выйграць або прайграць, але заўсёды з дэмакратыяй»

Алег НОВІКАЎ

**Лічыцца, што аўтарытарная лідары пачалі разумець важнасць футболу як палітычнага інструмента прыкладна ў 20–30-я гады мінулага стагоддзя. Піянерам, на думку гісторыкаў, у гэтай галіне аказаўся Беніта Мусаліні. Як адзначаў адзін з ягоных чыноўнікаў, «футбол утрымлівае маладыя і ад прыроды мяцежныя элементы грамадства ад празмерных разважанняў наконт унутраных палітычных умоваў і адсутнасці працы».**

У 1920-я гады Дучэ правёў цэлую рэформу італьянскай футбольнай сістэмы — і ў тым ліку патрабаваў, каб зборная краіны была па-сутнасці нейкай мікрамадэллю фашысцкай дзяржавы. Гульцы зборнай павінны быць паслухмянымі вінцікамі сістэмы. Сапраўды, яны часам паводзілі сябе як дысцыплінаваныя салдаты. Напрыклад, на гульні Чэмпіянату свету ў Марселі ў 1938 годзе падчас выканання дзяржаўнага гімна Італіі на трыбунах гледачы пачалі свістаць. Нягледзячы на пратэсты заўзятараў, італьянцы працягвалі ўпарта дэманстраваць фашысцкае прывітанне, пакуль антыфашысты ў натоўпе не супакоіліся.

Гэтая сцэна была растыражаваная фашысцкай прапагандай як сведчанне адданасці спартсменаў дыктатару і рэжыму. Толькі пасля вайны стала вядома, што футбалісты ўсё рабілі пад прымусам. Некаторыя з іх, напрыклад, капітан каманды Віторыё Поца, у той жа самы час кантактаваў з актывістамі забароненай Кампартыі.

Парадаксальна, але дзеля футболу нават усёмагутныя дыктатары ішлі на ахвяры, разумеючы, якія высокія стаўкі ў гульні. Іспанскі дыктатар Франка першапачаткова быў фанатам мадрыдскага «Атлетыка», зрабіўшы яго чымсьці накшталт спартыўнага клуба пры Мінабароны. Аднак ашаламляльны поспех мадрыдскага «Рэалу» ў 1950-я прымусіў яго змяніць прыхільнасці. Каўдыльё разглядаў поспех каманды ў Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў («Рэал» заваяваў тады некалькі тытулаў) як поспех Іспаніі. Акрамя таго, як лічыцца, яму падабалася, што «Рэал» ненавідзіць тарсіда клуба «Барселона», які меў вельмі моцныя левыя і дэмакратычныя традыцыі.

Яшчэ далей на ніве эксплуатацыі футболу пайшоў партугальскі дыктатар Антонію Салазар, які, дарэчы, ненавідзеў гэты від спорту. Пасля таго, як у 1960-я гады партугальская зборная ўвайшла ў эліту сусветнага футбола, мясцовым клубам было забаронена прадаваць сваіх лепшых гульцоў за мяжу. Рэжым абвясціў іх уласнасцю дзяржавы. Вядомых футбалістаў, накшталт Эйсебіё, адпраўлялі ў рэкламныя туры па ўсім свеце для прасоўвання іміджу Партугаліі за мяжой.

Вядомых футбалістаў спрабавалі выкарыстаць не толькі для рэкламы. На горшы выпадак яны дапамагалі ў стварэнні штучнай атмасферы нармальнасці ў краіне, разглядаліся як сродак павышэння маральнага духу. Да ахвяраў такой палітыкі адносяць і караля футбола. За ўвесь час існавання ваеннай дыктатуры ў Бразіліі (1964–1982 гады) Пеле ані разу не дазволіў сабе крытыку на адрас бразільскага кіраўніцтва.

Падобныя паводзіны футбаліста тлумачаць чуткамі аб тым, што рэжым мог на яго ціснуць. Так, у 1971 годзе была распачатая справа аб магчымых кантактах шэрагу футбалістаў з леварадыкальнай апазіцыяй. Фігуравала ў справе і імя Пеле, якому як бы намякнулі — лепш паводзіць сябе ціха, калі не хочаш непрыемнасцяў.

Зрэшты, цалкам падпарадкаваць футбол аказалася немагчымым. Адносная свабода на трыбунах заўсёды ператварала стадыёны ў нефармальную пляцоўку для выказвання апазіцыйных настрояў. Часам у лагеры апазіцыі аказваліся і цэлыя клубы. Напрыклад, Democracia Corinthiana — эксперымент футбалістаў клуба Corinthians (Рыа-дэ-Жанейра) у пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя, які разглядаецца як адно з самых важных дзеянняў у барацьбе супраць дыктатуры. Гульцы клуба арганізавалі жыццё каманды як выклік сістэме. У той час, як уся краіна кіравалася аўтарытарнымі метадамі, футбалісты заявілі, што будуць жыць па законах дэмакратыі.

Усе рашэнні ў клубе прымаліся галасаваннем. Прычым, паколькі рашэнні калектыву адпрэчвалі ўсталяваную ў краіне практыку футбольнага жыцця (напрыклад, забарону на алкаголь або патрабаванне мець жорсткую дысцыпліну), яны атрымалі вялікі рэзананс. «Гэта была недзе ідэалістычная, але эфектыўная палітычная клетка, якая стварыла свой мікракосм у краіне, што кіравалася ваеннымі», — прызнаюць гісторыкі. Невыпадкова дэвіз клуба таго часу гучаў так: «Ganhar ou perder, mas sempre com democracia» («Выйграць або прайграць, але заўсёды з дэмакратыяй»).

Нарэшце, магія футбола вельмі часта прымушала дыктатараў паводзіць сябе ірацыянальна — з усімі негатыўнымі наступствамі для рэжымаў. Хіба не ведаў Нікалаэ Чаўшэску, што яго захапленне бухарэсцкім клубам Steaua пераходзіць усе межы? Асабліва калі ён прымушаў ісці ў клуб лепшых гульцоў іншых камандаў і негалосна інструктаваў суддзяў дапамагаць Steaua на полі. Прыкладна тое ж адбывалася ў футбольнай лізе ГДР, дзе дамінавала берлінскае «Дынама» пад патранатам спецслужбы Штазі. Незадаволенасць простых заўзятараў такой «клубнай палітыкай» хутка набывала палітычныя рысы. Аднак Чаўшэску і Эрых Мільке (кіраўнік Штазі) занадта любілі такі футбол, каб нешта мяняць, не разумеючы, што такі футбол на самай справе набліжае іх крах.

# 1941-шы: Дэпартацыя пад бомбамі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У траўні-чэрвені 1941 года адбылася чацвёртая хваля дэпартацыі насельніцтва Заходняй Беларусі ўглыб СССР. Апошнія эшалоны з людзьмі пакідалі Беларусь пад бомбамі самалётаў Люфтвафэ.**

На працягу 1940 года ў заходніх абласцях УССР і БССР адбыліся тры этапы вывазу польскіх грамадзян у аддаленыя часткі Савецкага Саюза.

Дэпартацыя, якая пачалася ўвесну 1941 года, павінна была канчаткова «засцерагчы» тылы Чырвонай Арміі ў магчымым супрацьстаянні з «капіталістычным Захадам». Тым больш, што на працягу года, які прайшоў з моманту заканчэння трэцяй хвалі (28-29 чэрвеня 1940 года), у склад «першай краіны рабочых і сялян» увайшлі новыя тэрыторыі з несавецкім насельніцтвам — балтыйскія краіны, Бесарабія і Паўночная Букавіна.

## Новыя катэгорыі ахвяр

22 траўня 1941 года часткі ўнутраных войскаў НКУС пачалі вывозіць людзей з заходніх абласцей УССР і з Малдавіі, у ноч з 12 на 13 чэрвеня аблавы прайшлі ў Літве, Латвіі і Эстоніі, 14 чэрвеня людзі ў васільковых фуражках зноў «завіталі» да жыхароў Заходняй Беларусі.

Значным адрозненнем гэтай аперацыі ад папярэдніх трох было тое, што вясной-летам 1941 года павялічылася колькасць катэгорый грамадзян, якія падлягалі дэпартацыі. У адпаведнасці з «Дырэктывай НКУС СССР аб высяленні сацыяльна чужых элементаў з рэспублік Прыбалтыкі, Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі і Малдавіі», у 1941 годзе вывазу падлягалі: удзельнікі контррэвалюцыйных партый і антысавецкіх нацыяналістычных арганізацый; былыя жандары, ахоўнікі турмаў, кіруючы склад паліцыі; памешчыкі, фабрыканты, чыноўнікі буржуазнага дзяржаўнага апарату; былыя афіцэры царскага войска і белагвардзейцы; крымінальнікі; прастытуткі, зарэгістраваныя ў паліцыі; члены сямей адзначаных вышэй катэгорый грамадзян; члены сямей удзельнікаў контррэвалюцыйных і нацыяналістычных арганізацый, асуджаных да вышэйшай меры пакарання; асобы, якія ўцяклі з Польшчы і адмовіліся прымаць савецкае падданства; асобы, якія прыбылі з тэрыторыі Германіі ў парадку рэпатрыяцыі, а таксама немцы, зарэгістраваныя на выезд за мяжу, але якія адмовіліся выязджаць у Рэйх.

Былыя вайскоўцы і прадстаўнікі спецыяльных службаў буржуазных дзяржаў, а таксама немцы накіроўваліся ў лагеры для ваеннапалонных, а іншыя катэгорыі асоб, узгаданых вышэй (акрамя крымінальнікаў, якіх высылалі ў папраўча-працоўныя лагеры. — І.М.), высылаліся на пасяленне тэрмінам на 20 гадоў у Казахстанскую ССР, Комі АССР, Алтайскі і Краснаярскі край, Кіраўскую, Омскую і Новасібірскую вобласці.

Усе гэтыя людзі атрымлівалі статус спецпасяленцаў і мелі права выбару месца жыхарства ў адзначаных рэгіёнах. Дэпартаваныя былі абавязаныя займацца «грамадска карыснай працай», мелі права ўступаць у калгасы. Былыя грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай былі абавязаны ўставаць на ўлік у мясцовых райаддзелах НКУС і кожны месяц праходзіць перарэгістрацыю. За парушэнне рэжыму спецпасяленцаў каралі штрафамі, а ў некаторых выпадках і нават турэмным зняволеннем (напрыклад, за спробу пакінуць спецпасяленне).

## Ахвяры дэпартацыі

Падчас акцыі галоў сямей спачатку не аддзялялі ад іх блізкіх. Гэтая працэдура звычайна адбывалася непасрэдна на чыгуначнай станцыі. Асаблівасцю аперацыі ў БССР было тое, што мужчын часцей за ўсё накіроўвалі ў турмы НКУС.



У адпаведнасці з дакладной запіскай Лаўрэнція Цанавы сакратару ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймону Панамарэнку ад 21 чэрвеня 1941 года, на тэрыторыі заходніх абласцей савецкай Беларусі было арыштавана 2059 удзельнікаў беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх, яўрэйскіх контррэвалюцыйных арганізацый, чыноўнікаў «былой польскай дзяржавы», белагвардзейцаў і іншых контррэвалюцыйных элементаў. Усяго ж, у адпаведнасці са справаздачамі савецкіх спецыяльных органаў, падчас чацвёртай дэпартацыі ў аддаленыя раёны СССР было вывезена больш за 20 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі, для транспарціроўкі якіх выкарыстоўвалі 20 чыгуначных эшалонаў.

Сярод тых, каго дэпартавалі летам 1941 года, была маці жыхаркі польскага горада Зялёная Гура Ірэны Петшак. «Да Другой сусветнай вайны мой дзед Станіслаў Давыдзюк служыў у Дзяржаўнай паліцыі ў Косаве Палескім, а пазней быў пераведзены ў Мерачоўшчыну. Там ён ажаніўся з маёй бабуляй Леакадзіяй з дому Жылінскіх. У іх нарадзіліся дзве дачкі — Ганна і Тэрэза. У кастрычніку 1939 года майго дзеда арыштаваў НКУС. Пазней яго накіравалі ў Мінск. З гэтага моманту мы нічога не ведаем пра яго лёс. Відавочна, прозвішча Станіслава Давыдзюка знаходзіцца ў Беларускім катынскім спісе. У чэрвені 1941 года савецкія ўлады прыйшлі і за маёй бабуляй і яе дочкамі», — расказвае жанчына.



Леакадзія і Станіслаў Давыдзюкі, 1939 год

Перад намі пратаколператрусу, што адбыўся ў доме Давыдзюкоў, які знаходзіўся на вуліцы Максіма Горкага (да вайны вуліца Касцельная. — І.М.) у Косава. 20 чэрвеня 1941 года ў 3 гадзіны ночы супрацоўнікі раённага аддзела Косаўскага НКДБ паведамілі жонцы польскага паліцыянта пра рашэнне пра яе высяленне ўглыб СССР. Пры гэтым у яе былі канфіскаваныя: польскі пашпарт за № 2509071, альбом з фотаздымкамі, і розныя, у тым ліку сярэбраныя, манеты часоў Другой Рэчы Паспалітай. Хутка жанчына з дзвюма дочкамі апынулася ў чыгуначным вагоне, які рухаўся на ўсход.

А вось як апісваў апошнюю хвалю дэпартацый адзін з жыхароў Ваўкавыска: «Тры гадзіны ночы. 21 чэрвеня 1941 года. Стук у дзверы і ў вокны будзіць нашую сям'ю. Мама адчыніла дзверы. У хату ўвайшлі тры жаўнеры НКУС. Яны правяраюць дакументы, але нам іх не вяртаюць. Адзін з супрацоўнікаў зачытвае нам паперу, з якой вынікае, што на падставе пастановы Вярхоўнага Савета СССР мы перасяляемся ў іншую вобласць. Пытаемся: «Куды?» Адказу няма. Даюць 20 хвілін на зборы. Бярэм трошкі рэчаў. Бабуля ляжыць у ложку хворая. Яе таксама спрабуюць забраць, але адзін з нкусаўцаў кажа: «Старуха і так падохне. Не трэба яе браць». Развітваемся з бабуляй. Па дарозе нкусаўцы забіраюць іншыя сем'і. Хутка ўязджаем на станцыю Ваўкавыск Цэнтральны. Тут ужо шмат людзей, а вакол жаўнеры з вінтоўкамі. На першым і апошнім вагонах цягніка стаяць кулямёты. На тармазных платформах саставу — ахоўнікі НКУС. Жаўнеры зачытваюць прозвішчы і загадваюць лезці ў вагоны. Нас назбіралася ў вагоне чалавек 40. Апоўдні жаўнеры зачыняюць вагоны. Становіцца горача і душна».

Пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз, аперацыя па дэпартацыі не спынілася. Савецкія ўлады імкнуліся здзейсніць свае злачынныя планы нават ва ўмовах нямецкай агрэсіі. Цягнік, у якім ехалі на ўсход Леакадзія Давыдзюк з дочкамі, трапіў пад моцную бамбардзіроўку ў Мінску, падчас якой загінула шмат людзей, якіх вывозілі ўглыб СССР. Вось як адзін з відавочцаў апісваў налёт нямецкай авіяцыі на эшалон:

«Нас везлі ўсё далей і далей, без вады, свежага паветра. Перад мостам праз раку Зяльвянку рэйкі рабілі паварот, і тады я ўбачыў увесь наш эшалон. Ён складаўся з 40 таварных вагонаў з забітымі вокнамі. У сярэднім у вагоне было па 80 чалавек, а цалкам у саставе ехала каля трох тысяч дэпартаваных. Ля самага моста на цягнік наляцелі нямецкія самалёты. Адзін за другім яны скідвалі бомбы. На бамбардзіроўку заходзілі некалькі разоў, адначасова страляючы з кулямётаў. У гэты час цягнік спыніўся, і ахова пабегла на ўзбочыну хавацца ад налёту. Людзі ўсё гэта бачылі праз адтуліны ў вагонах. Калі кулі застукалі ў дах вагона, усе падрыхтаваліся да смерці. Не ўсім давялося выжыць у тымналёце. Многія загінулі ад нямецкіх бомбаў. Іншыя спрабавалі ўцячы і загінулі ад куляў нкусаўцаў. Праз некалькі гадзін транспарт сфарміравалі зноў. Знішчаныя вагоны адчапілі, а забітых закапалі ля чыгуначных шляхоў. На дахах вагонаў было шмат савецкіх бежанцаў. Гэтыя людзі прыехалі ў Заходнюю Беларусь пасля верасня 1939 года і зараз беглі ад немцаў. У Стоўбцах, на некалі польскай памежнай станцыі, у вагоны прынеслі хлеб і дазволілі набраць вады. За Стоўбцамі нямецкія самалёты з'яўляліся часта, а савецкіх мы так і не ўбачылі».

Са справаздачы НКУС ад 5 ліпеня 1941 года дакладна вядома, што спецорганам не ўдалося вывезці ўсіх, хто быў унесены ў спісы на дэпартацыю з Заходняй Беларусі. Нехта загінуў пад нямецкімі бомбамі, другіх расстралялі савецкія карнікі. Леакадзію Давыдзюк з дочкамі дэпартавалі ў Новасібірскую вобласць, у вёску Чугунка. Пазней яны былі вывезеныя ў Стаўрапольскі край, дзе жонка паліцэйскага працавала ў саўгасе №107. У 1946 годзе гэтая сям'я вярнулася ў Польшчу.

# Алесь Дзянісаў: «Палітыка грукае ў дзверы чорным ботам»

Анастасія РУБАНАВА

**З гарадзенскім музыкам Алесем Дзянісавым мы сустрэліся ў Мінску, куды ён прыехаў для запісу канцэрта памяці Вітольда Ашурка і для ўдзелу ў праекце «Артысты перамогі», які ладзіць фонд культурнай салідарнасці. Карыстаючыся нагодай, задалі яму наша традыцыйнае пытанне: «Як справы?»**





**Андрэй Пудзін і Алесь Дзянісаў.** Фота Ганна Рабкова

— Справы, як і ў ва ўсёй краіны — такое ўсё хісткае, невядомае, жыву адным днём. У сучасных умовах складана нешта планаваць, і я не ведаю, якім будзе мой лёс праз дзень-другі. Але ў планах скончыць міні-альбом «Дзецюкоў», на якім будуць дзве гітарычныя песні на вершы Дзяніса Жыгаўца, дзве — пра сучаснасць і адзін кавер на ірландскую народную песню «The Fields of Athenry». Таксама мяркую скончыць гэты даўгабуд — другі альбом «Людзей на балоце», які збольшага гатовы, засталося запісаць частку перкусій, большую частку бас-гітары. Не ведаю, як гэта ўсё будзе ажыццяўляцца, але, думаю, калі ў мяне будзе час, гэта ўсё будзе зроблена.

***— Напачатку траўня ў цябе выйшаў лірычны альбом на вершы Уладзіміра Караткевіча «Леаніды вяртаюцца». Цікавы факт, што вокладку да яго намалявала твая дачка Даша. Як так атрымалася?***

— Яна ўсё жыццё малявала і займалася музыкай. Але ў нейкі момант кінула музычную вучэльню і сказала, што музыкі з яе дастаткова і яна хоча займацца выяўленчым мастацтвам. Даша рыхтуецца паступаць на дызайнера, кожны дзень малюе. І я вырашыў яе неяк падтрымаць. У тым сэнсе, што я бачу ў ёй нейкую перспектыву, бачу талент. І я прапанаваў ёй зрабіць вокладку. Насамрэч, гэты быў ужо шосты эскіз. Яна рабіла, але ці ёй не падабалася, ці я казаў: ну, можа, паспрабуй штосьці яшчэ. Яна ведала канцэпцыю альбома, песень, дарэчы, не чула. Усё адбывалася пад уплывам і натхненнем менавіта назвы альбома.

Я ёй распавёў пра Караткевіча, пра сутнасць назвы. Чаму «Леаніды вяртаюцца»? Таму што песні вяртаюцца, як тыя ж Леаніды. І як чалавек адыходзіць, пасля яго застаюцца дзеткі, фотаздымкі, у мастака — карціны, у пісьменніка — аповесці ці вершы. Караткевіча даўно з намі няма, але праз песні адбываецца вяртанне.

Усё гэта яна ў галаве неяк распрацоўвала, і ў выніку атрымалася тое, што спадабалася і мне, і ёй.

***— І, я так разумею, супрацоўніцтва ў гэтым плане ў далейшым не выключана?***

— У прынцыпе, не, але я не аматар штучна цягнуць сваю дачку. Напрыклад, яна пару разоў спявала з намі на канцэртах, але я не хацеў рабіць з гэтага цырк і пераўтвараць у нейкі сямейны праект. Яна заспявала з намі адзін раз у Польшчы, потым яшчэ раз у Беларусі. І я вырашыў, што хопіць.

***— За апошні год у нашай краіне адбыліся вялізныя змены. Змянілася сітуацыя, людзі сталі іншымі. Як гэты год адбіўся на табе?***

— Не думаю, што людзі гэтак ужо моцна змяніліся. Усё ж дагэтуль іх псуе «кватэрнае пытанне». Але нешта змянілася ва ўнутраным успрыняцці саміх сабе: нікому не хочацца адчуваць сябе рабамі.

***— Што самае складанае для цябе ў сённяшняй сітуацыі?***

— Шмат цяжкасцяў. Мне страшна за людзей, якіх пасадзілі. І смерць Вітольда Ашурка паказала яшчэ раз на тое, што ўсё можа здарыцца ў сённяшніх умовах. Таксама мне страшна за маю хворую маці, за сваю сям'ю — за дачку, за жонку. Плюс да ўсяго я фактычна страціў працу і цяпер стаю на парозе: што ж буду рабіць?

***— У мінулым годзе табе і іншым музыкам гурта Dzieciuki даваліся сутыкнуцца з міліцэйскім гвалтам. (Алеся Дзянісава затрымлівалі ў жніўні ў Гродне: ён ехаў на ровары і стаў сведкам затрымання жанчыны байцамі АМАП. Спыніўся, каб высветліць, з якой прычыны, аднак у выніку жорстка затрымалі яго самога. Але справа была спынена ў судзе — праз адсутнасць складу правапарушэння. — А.Р.)***

— У дачыненні да гурта гвалт быў вельмі лагодны. Ну, затрымалі падчас здымкаў кліпа. Прыехала да халеры аўтамабіляў. Але ж нікога не білі. Адпусцілі, і нават відэа аддалі. Іншым разам перад клубам стаяў аўтазак, калі мы павінны былі лабаць у Мінску. Калі б мы прыехалі, то быў бы хапун. Але ж аўтазак стаяў, мы не прыехалі, нікога не хапалі, канцэрт прайшоў, але без нас.

***— Як на гэтым фоне ставішся да ідэі эміграцыі?***

— Відаць, што такія думкі ўзнікаюць тут у кожнага, хто рэалістычна ацэньвае сітуацыю. Але ў кожнага чалавека ёсць свае якары, якія яго тут трымаюць. Напрыклад, у мяне хворая маці, у мяне гурт, які не хочацца кідаць, і яшчэ некалькі якароў. Але я сапраўды не ведаю, дзе я буду больш патрэбны. Ці ісці да канца і стаць ахвярай ці з'ехаць?

Але з'ехаць... Вось усе кажуць: яны з'ехалі, ім добра. Я ўпэўнены, што гэта вельмі складаны працэс — з'ехаць. Канешне, калі ты адзін ці ў цябе маладая сям'я, у цябе застаецца праца, скажам, айцішніка, які можа сам на сябе працаваць ці на нейкую фірму, якая знаходзіцца на адлегласці. Можа, ім і лягчэй. Але ў цэлым, я думаю, 95 працэнтаў людзей, якія з'язджалі, ні за што не сталі б гэтага рабіць.

***— У мінулым годзе і сёлета ў сувязі з каронавірусам і палітычнымі падзеямі амаль не адбываецца жывых канцэртаў. У вас быў анлайн-канцэрт. Як жывецца ў анлайне?***

— Гэта поўная бздура. Вось і ўсё, што я магу сказаць. Мы можам упірацца, казаць, што гэта выйсце, але нішто не заменіць жывы канцэрт. Мы не можам гэта цяпер змяніць, але, калі быць шчырымі, гэта поўная бздура.

***— Ну, раней былі кватэрнікі. Ці магчыма зараз рабіць штосьці падобнае?***

— Не хацелася б раскрываць усе карты, але сапраўды ў сённяшніх умовах... Але кватэрнікі — гэта выхад, па-першае, для акустычных праектаў, а па-другое, калі ты музыка, які зарабляе толькі музыкай, то кватэрнікі не вырашаць тваю праблему. Бо кватэрнікі — гэта хто колькі хацеў, столькі і кінуў. Пражыць на гэта тым, хто займаецца толькі музыкай, немагчыма.

***— Раней Гродна быў вядомы сваім музычным і палітычным моцным дзвіжам. А як справы з гэтым цяпер?***

— Вялізарная колькасць людзей з калямузычнай тусоўкі з'ехала. Калі казаць пра нейкую музычную андэграўндную актыўнасць, увогуле, пра рок-музыку, засталіся літаральна адзінкі. Юра «Смур» Дубовік («Вочы», «Imaginary people»), час ад часу грае па нейкіх пабах, Жэня Кучменя — «.К» працягвае неяк існаваць, Ваня Пачывалаў («Некоторое отсуствие пуговиц») яшчэ застаўся, пара-тройка металёвых гуртоў, пара-тройка панкавых — «The Goons», напрыклад. Але ўсё гэта такое часовае... Заўтра іх можа не быць... У Гародні амаль няма дзе выступаць. Ёсць паб «Rockstar», у якім можна праводзіць жывыя канцэрты, яшчэ адкрыўся «Quester» — новы паб, панкавы. Ну, дакуль яшчэ праводзіць нешта, але адным шчаўчком пальца яны могуць гэта ўсё і закрыць.

***— Калі казаць не пра музыку, а палітычнае жыццё? Што змянілася ў Гродна?***

— У прынцыпе, нічога не змянілася. «Неверагодныя» гарадзенцы прызвычаіліся жыць пры таталітарызме. Выжываюць. А што вы хочаце? Людзі хочуць жыць. Усе, хто неяк паспрабаваў нешта змяніць у сваім жыцці ды жыцці краіны, — ці сядзяць за кратамі, ці з'ехалі. У перспектыве тых, хто застаўся, — адное: ці сядуць, ці з'едуць, ці забудуць усё як сон. У Алеся Чобата пра гэтае ёсць фантастычныя радкі з верша «Калі ўсё скончыцца»:

*«Нарэшце слова гонару стрымаем<br>Што больш не ашалеем і не маем<br>Агульнага нічога з воляй той...»*

***— Нешта пра што ні кажам — усё сумна. А што ёсць добрае, светлае? За што ты трымаешся? Што дапамагае вывозіць?***

— Настолькі цяжка адказаць... Дапамагае спорт, сябры і родныя-блізкія, дзеля каторых ты жывеш.

***— У адным з нядаўніх інтэрв'ю ты сказаў, што стварыў столькі пратэставых песняў, што іншым гуртам яшчэ расці і расці. Цытата не дакладная, але сэнс такі...***

— Ну, так, трошкі пантануўся. Непрыгожа з майго боку... Не павінна мінулае вырашаць сутнасць чалавека сённяшняга. І гэтыя медалькі, якія я сабе павесіў у тым інтэрв'ю, гэта трошкі няшчыра было. Калі казаць пра пратэставыя песні: так, я сёння нічога не пішу. Таму трэба было сказаць: я нічога не пішу, у мяне не атрымоўваецца зараз, ці, я не ведаю, я баюся, ці ў мяне не хапае запалу ці яшчэ чагосьці. А не казаць, што ў мінулым мы шмат чаго напісалі.

***— Але, як ты лічыш, якая песня з любога праекту, да якога ты спрычыніўся, найбольш адпавядае бягучаму моманту?***

— Цяжка назваць нейкую адну. Гэта могуць «каліноўскія» песні. Ці песня «Палітыка», якая павінна была быць яшчэ ў рэпертуары «Кальяна». Яна пра тое, што ад палітыкі не збяжыш, яна прыйдзе, пагрукаецца табе ў дзверы чорным ботам. Яна ёсць на апошнім альбоме «Радыё Harodnia», запісана схаваным трэкам. Апошні трэк вельмі доўгі і не ўсе дарубілі, што там яшчэ нешта ёсць. Проста трэба пераматаць да канца трэка — і яна там будзе. Гэта на дыску. У інтэрнэт-рэлізе песні няма.

*Ты кажаш, што ты апалітычны.<br>Згодны. Палітыка — брудная рэч.<br>Але цалкам не сімпатычна<br>Збягаць цалкам ад яе прэч.*

*Сёння на вуліцы збівалі людзей.<br>Сёння прыйдуць да твайго суседа.<br>Ты ўпэўнены, што палітыка не<br>кране цябе?<br>Яна зробіць усё, як ёй трэба...*

*Палітыка грукаецца<br>ў твае дзверы.<br>Раніцай ці ўначы.<br>Для цябе — жыццё, для яе —<br>работа.<br>Палітыка грукае ў дзверы<br>чорным ботам.*

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у чэрвені.**

## 20 чэрвеня

25-годдзе сустрэне за кратамі **Андрэй Кандрасюк** — жыхар Брэста. 10 жніўня падчас акцыі пратэсту ў Брэсце Андрэй быў



моцна збіты АМАПам. Ён хацеў адвесці ўбок ад АМАПу жанчыну, пасля чаго яго схапілі сем сілавікоў і моцна збілі. У РАУС міліцыя выклікала хуткую, бо Андрэй увесь быў у крыві. Ён трапіў у бальніцу: у яго была траўма галавы, гематомы па ўсім целе, яму накладалі швы. Па факце збіцця Кандрасюка была пададзена заява ў Следчы камітэт на ўзбуджэнне крымінальнай справы.

Гэтая справа так і не была распачатая, але на самога Андрэя напрыканцы 2020 года завялі справу за ўдзел у масавых беспарадках. У снежні яго затрымалі на 72 гадзіны, але затым адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Дома ў Андрэя прайшоў вобшук. 26 красавіка 2021 года яго зноў затрымалі і змясцілі ў СІЗА да суда.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

33 гады споўніцца **Арцёму Анішчуку.** У сакавіку Арцёма Анішчука асудзілі за пашко-



джанне машыны жонкі супрацоўніка міліцыі. Усяго па гэтай справе прайшлі пяць чалавек: кожнаму з іх далі розныя тэрміны зняволення. На судзе Арцём прызнаўся, што падрапаў машыну цвіком. За гэта Арцёму прысудзілі два гады калоніі агульнага рэжыму. Праваабарончая супольнасць не прызнала Арцёма палітычным зняволеным.

На спатканні, якое было пасля суда, Арцём паказаў жонцы сляды ад электрашокера. «Яны былі па ўсім целе. Больш дэталёва ён распавёў мне пра катаванні два месяцы таму — і папрасіў усё гэта апублічыць», — распавяла жонка Арцёма Вольга. Зняволены сведчыў, што пры затрыманні яму выкручвалі каленныя і лакцявыя суставы, пырскалі балончыкам поўнасцю залілі твар, пры тым, два чалавекі трымалі, а адзін заліваў. Па словах Арцёма, катаванні цягнуліся каля чатырох гадзін. Яму пагражалі, што павесяць на дрэве, берцамі станавіліся на галаву і ўтоптвалі яе ў асфальт. Ніякай медыцынскай дапамогі не аказалі.

Адрас для лістоў: ПК №15, 212013, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183. Анішчуку Арцёму Ігаравічу.

## 21 чэрвеня

32 гады споўніцца **Іллю Фрэню.** Суд Маскоўскага раёна Мінска 24 снежня асудзіў яго



паводле артыкула 364 КК на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Менавіта столькі запрашваў пракурор, гэта амаль самае строгае пакаранне па гэтым артыкуле. Хлопца арыштавалі ў зале суда. Яго абвінавацілі ў гвалце ў дачыненні да двух супрацоўнікаў АМАПа 14 ліпеня на плошчы Перамогі — ён адбіваў пратэстоўца ад затрымання.

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8.

## 23 чэрвеня

30-годдзе сустрэне за кратамі **Дзяніс Міхайлавіч Урад,** які займаў пасаду спецсувязіста Генштаба Узброеных Сіл.

Па інфармацыі праўладных СМІ, 14 сакавіка на дзяжурстве Дзяніс Урад сфатаграфаваў сакрэтны ліст ад міністра ўнутраных спраў міністру абароны і «адправіў польскаму тэлеграм-каналу».

Родам Дзяніс з Расонаў Віцебскай вобласці. Вучыўся ў Ваеннай акадэміі на факультэце сувязі і аўтаматызаваных сістэм кіравання, які скончыў у 2014 годзе.

14 траўня стала вядома, што Вярхоўны суд прысудзіў Дзяніса Урада да 18 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму за «здраду дзяржаве» (ч. 2 арт. 356 КК). Таксама яго пазбавілі звання.

Суд праходзіў у закрытым рэжыме. Прысуд уступіў у сілу з моманту абвяшчэння. Абскарджанню, апратэставанню ў апеляцыйным парадку не падлягае.

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8.

37 гадоў споўніцца **Аляксею Сцерлікаву** — інжынеру-будаўніку з Мінска. Яму было



прад'яўленае абвінавачанне па частцы 2 артыкула 363 КК.

Падзеі, якія ляглі ў аснову абвінавачання, адбыліся 23 верасня 2020 года, пасля інаўгурацыі Лукашэнкі — у той дзень Сцерлікаў спрабаваў з'ехаць ад людзей у камуфляжнай форме, а пры затрыманні яго збівалі ў машыне.

Паводле абвінавачання, Сцерлікаў, кіруючы аўтамабілем, рухаючыся па сустрэчнай паласе, паблізу праспекта Дзяржынскага (Мінск), не падпарадкаваўся лейтэнанту міліцыі Завадскаму, які выконваў абавязкі па ахове грамадскага парадку, які патрабаваў спыніць транспартны сродак. Далей па вуліцы Разінскай, 59 не падпарадкаваўся патрабаванням спыніць машыну і, пачаўшы рух заднім ходам, здзейсніў наезд на Завадскага. Ад гэтага ў Завадскага пашкодзілася форменнае абмундзіраванне і застаўся сіняк на плячы, некалькі ранак.

Абвінавачаны не прызнаў віну ў тым, што збіраўся ўжыць гвалт. З моманту затрымання 23 верасня да суда ён знаходзіўся пад вартай.

3 сакавіка суд прысудзіў Аляксея Сцерлікава да 4 гадоў калоніі агульнага рэжыму. Кампанія, у якой працаваў Сцерлікаў (паколькі ёй належыў аўтамабіль, за рулём якога ён быў) павінна выплаціць пацярпеламу інспектару ДАІ Максіму Завадскаму маральную шкоду сумай у 10 000 беларускіх рублёў.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

## 25 чэрвеня

25-годдзе сустрэне за кратамі **Валерый Каленчыц.** Ён працаваў сантэхнікам, па адукацыі зваршчык. Быў затрыманы ран-



кам 16 кастрычніка ў сябе дома.

Яму прад'яўлена абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 КК. Яго асудзілі да трох гадоў абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу — «хіміі».

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №9. 210034, г. Віцебск, вул. 3-я Чэпінская, 39.

## 26 чэрвеня

Дзень народзінаў адзначыць **Ян Сяргеевіч Фалькін.** Ён быў затрыманы 30 верасня. Дома прайшоў вобшук, падчас якога



былі выняты ноўтбук, мабільны тэлефон і рацыя.

Яну прад'явілі абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК. Больш інфармацыі пра Яна няма.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 27 чэрвеня

37 год споўніцца **Віктару Міхайлавіч Таўгеню** — жыхару Маладзечна. Згодна з тэкстам абвінавачання, увечары 9 жніўня, калі ў горадзе праходзіла акцыя пратэсту, ён груба парушаў грамадскі парадак, а менавіта «махаў рукамі, уключаў гучна музыку на магнітафоне, ствараў штучнае асвятленне ліхтарыкам».

На судзе Таўгень сваёй віны не прызнаў, бо не лічыў, што сваімі дзеяннямі ён парушаў грамадскі парадак. Заўваг як з боку міліцыі, так і з боку



грамадзян у той дзень ён не атрымліваў. Але суддзя Іна Каханоўская 22 лютага прысудзіла Віктару два гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія»).

20 сакавіка Віктар паехаў адбываць пакаранне.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №45. 225073, Брэсцкая вобл., Камянецкі р-н., в. Сушкі.

# З днём народзінаў!

**Жыхары Ліды даслалі ў рэдакцыю паштоўку з просьбай павіншаваць усіх зняволеных, хто вымушаны сустракаць свой дзень народзінаў за кратамі.**




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1017

Падпісана да друку 17.06.2021. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.